## ЗМЕСТ

# ДЗЯЎЧЫНКА І ХМАРКА

Летняя хмарка-баранчык на хвіліну павісла па-над падворкам Анелькі. Іншыя, кучаравыя, згуртаваныя ў статкі альбо раздзьмуханыя, растрапаныя ветрам, хутка-хутка пабеглі па небе, а тая — спынілася. Гэта Анелька заўважыла: пухнаты баранчык наставіў рожкі, а капыткі на растаўленых ножках, ружаватыя на кончыках, быццам затупацелі зусім гучна. А, можа, гэта па лузе прабегла кабылка дзеда Антона і пошчак адбіўся ад сцен стадолы. Анелька стаяла на мураве падворка, задзершы бародку ўверх, глядзела на нябеснага баранчыка.

— Ты чаго стаіш, гусяня малое! — крыкнуў дзед Антон, які, расчыніўшы вароты, стаў уводзіць на падворак трактар. — Яшчэ, крый Божа, раз'еду разяву!

Анелька страпянулася, азірнулася на дзедку і ягоную пыхкаючую машыну з прычэпам, з якога па баках асыпалася свежаскошаная трава. Заквікалі свінкі ў хляве, пачуўшы бразгат бабулінага вядра з цёплай ежай і пах сакавітае травы. Закрычаў на сваіх раскудахтаных неразважных курак певень Пятручыо. З выгана заплакалі, невядома чаго, авечкі. Трубнае мычанне кароў прагучала з луга за садам...

Хмарка таксама страпянулася. І ўпусціла на Анельчыну галаву кроплю. Пасля другую, трэцюю. Іншыя хмаркі плавіліся ў сонечным праменні, лёгкія, не думаючы, што вецер згоніць іх у хмары і тады выпусцяць яны з сябе мільёны кропель. А хмаркі і не думаюць аб гэтым. Раз яны — маленькія баранчыкі, раз — тоўстыя хмурыны, і раз іх і зусім няма, калі пральюцца на зямлю, і зноўку ўзбіраюцца на неба...

Хмарка церусіла кроплі на дзяўчынку. Анелька ўсміхнулася.

— Ты, хмарка, палівай мяне, палівай! Вырасту вялікая-вялікая!

— От, паненка з мокрай галавой! — бабуля крыху і злосна цярнула ўнучку хвартухом па вільготнай белай галоўцы. — Куды ты зноў улезла! Прастынеш! Захварэеш! Што я маме скажу?!

Анелька дома дастала паперу і алоўкі. Праз акно яна бачыла іншыя ўжо хмаркі, лятучыя па летнім небе. А на паперы вырастаў ён — белы баранчык з ружовымі капыткамі. А з хмарчыных вачэй капалі кроплі. Ды пыса баранчыка была ўся ва ўсмешках.

# АЛОВАК

**Застаўся аловак у Дзяніса з мінулага года. Такі звычайны, з графітавым стрыжнем. Зусім мала спісаны, абструганы, з трошкі абкусанай гумачкай. Добра ім рысавалася, лёгка. І лініі, і рыскі, і хвалі... Спачатку нават у сшытку першакласнікі не пісалі аўтаручкамі ды самапіскамі, а алоўкам. Каб раўней выводзіць літаркі. Спраўляўся аловак на выдатна. І Дзяніс навучыўся пісаць роўна і прыгожа. Цяпер, калі вярнуўся з канікул з вёскі, рашыў пераглянуць усе школьныя прылады ды купіць новыя.**

**Абавязкова трэба, вядома, новыя кніжкі — яны ўжо куплены ў чэрвені! І новы пенал, а ў ім — ручкі, лінейка, ножнічкі, гумка, каляровыя алоўкі, графітавы аловак... Абавязкова — новыя!**

**— Ну, нічога, што ты яшчэ добры, — прыглядзеўся хлопчык да алоўка. — Ва ўсіх будуць новыя. Хопіць, што ранец у мяне мінулагодні. Добры ранец, лёгкі, аб'ёмісты, і кішэняў у ім шмат. Прыгожы. А, можа, і крыху шкада, што не парваўся ён, як у маіх калег...**

**— Ну, што ты, Дзяніска! — абурылася баба Зіна. — Гэта добра пра цябе сведчыць, што не змарнаваў такі прыгожы ранец! За ашчаджаныя грошы можна купіць табе, скажам, новы спартыўны касцюм.**

**— І, бабулька, новыя алоўкі. Абавязкова. Гэтыя, спісаныя, хай стаяць у кубачку, у хаце. Таксама спатрэбяцца.**

**Купілі ўсё новае ў пенал. Пайшоў Дзяніска ў школу. Спачатку аднакласнікі не маглі нацешыцца адзін адным — вядома, не бачыліся ўсё лета. А пасля сталі азірацца — хто як апрануты, што ў каго новае. Засунуў Дзяніс свой стары ранец пад парту — крыўдна. А ці не крыўдна ранцу... Адчыніў Дзяніс свой пенал, узяў у пальцы аловак. А новы аловак нейкі незваротлівы... Цвёрды, неахвотна лініі выводзіць, быццам бунтуецца. З рукі выслізгваецца. І не літаркі выводзіць, а нейкія крывулькі... Мацаваўся з ім Дзяніс, злаваўся, і нават настаўніцы паскардзіўся:**

**— Аловак нядобры, дык не атрымліваецца ў мяне...**

**— А вазьмі ты, Дзяніс, іншы.**

**— Дома астаўся...**

**Пайшоў пасля заняткаў Дзяніска дадому, і адразу да кубачка:**

— Даруй мне, аловачак!

— Ты што там з кубачкам размаўляеш? — запыталася мама.

— А, ёсць у іх пра што пагаварыць! — усміхнулася баба Зіна. — Старыя сябры — самыя лепшыя!

## БАБА-ЯГА

За вёскай стаіць Перніковая хатка. Гэта зусім як у казцы. У Перніковай хатцы жыве Баба-Яга, зусім іншая, чым у Хатцы на курынай ножцы. Дзеці ў вёсцы ведаюць казкі і тое, на што здольныя Бабы-ягі, якія могуць звабіць у хатку Яся з Маргарыткай, Іванку-дурненькага ці блуднага рыцара, што змагаецца ў свеце за справядлівасць, і чым гэта можа кончыцца. Казка найчасцей канчаецца добра, толькі не Бабе-язе ці ненасытнаму Ваўку. Бо Бага-яга — злосная, таямнічая чараўніца, з якой лепш не ўваходзіць у зваду. І хіба не дарма бабулю Ядвігу, што жыве за вёскай, называюць Бабай-яго. Можа, ад імя, можа, ад таго, што нос у яе кручком звісае над запалым ротам (старасць, ведаеце, нікому красы ж не дадае і нават найпрыгажэйшы звяне, як той асенні ліст...). А, можа, таму, што ўмее „шаптаць" — выгнаць „вецер" і „ружу", зніштожыць нагавор ды дзеянне злога вока... Можа, праўда гэта, а, можа, мана ці глупства, але ўсе, здаецца, крыху пабойваюцца Бабы-ягі, але, калі прыйдзе бяда, бягуць да яе хутчэй чым да доктара. А дзецям, можа, было б і цікава да яе зайсці, пабачыць, чым яна займаецца, але не па дарозе ім туды, да хаткі наводшыбе. А баба Яга рэдка заходзіць у вёску. Дома ёсць у яе тэлевізар, з таго часу, як электрыфікавалі вёску, дык бабуля Ядвіга ўсё ведае, што тварыцца ў свеце. Тэлевізар, кажа, найлепшы таварыш і плёткар. А з дзецьмі ахвоту мае пагутарыць. І „звабіла" Яся з Маргарыткай у сваю Перніковую хатку. Прыйшлі дзеці па зёлкі на кашаль для цёці Каці, школьнае прыбіральшчыцы. Выбраліся ў Перніковую хатку пасля школы.

Доўга не выходзілі. А чаго і выбірацца? Столькі цікавага ў Бабы-ягі! І пра ўсё раскажа: пра зёлкі, што сохнуць пад бэлькамі, якая зёлка ад якое нямогласці, пра каменьчыкі, які якую хваробу выцягвае з чалавека, калі прыкласці да

балючага месца... І кнігі ў Бабы-ягі цікавыя, набухлыя ад старасці і ведаў, а і звычайныя кніжкі ёсць, і газеты старыя, яшчэ і з мінулага стагоддзя... Не брала з іх паперы Баба-яга на распалку ў печы, шкадавала, і цяпер амаль усё XX стагоддзе ў яе — як было, на старонках, на здымках...

Амаль на прыцемках прыбеглі ў вёску Ясь з Маргарыткай. Мама не турбавалася — бабка Ядвіга, як сучасная Баба-яга, пазваніла ёй дадому.

## БАЛВАН

Паставілі дзеці снегавіка пад домам. Дом — вялікі, чатырохпавярховы. Дзяцей многа. І дарослых шмат, але снегавіка саромяцца ляпіць, хоць некторым так хочацца: нападаў вялікімі сняжынкамі мяккі снег. І ў снежкі хочаца пагуляць... Размаўляюць дзеці, гамоняць дарослыя, а снегавік маўчыць. Харошы снегавік: тоўсты ў два абхваты, з гузікамі на жываце і падоле, з круглай галавой у вядзерцы. Рукі ў яго — два дзеркачы. Нос — вялікая морква. Вочы — вугалькі. Цудоўны!

— Ты такі файны снегавік! — паглядзеў на яго Міхась. — А, можа, ты — снежная баба?

Міхасёва бабуля, Анюта, кажа, што снегавікі — снежныя бабы. Але ж баба, як бы ні было, не будзе мець такі капялюш! Падыходзіў бы снежнай бабе рондлік або круглы саганок. І шчокі бурачком размаляваць бы такой даме...

— Ты, чаму нічога не кажаш! Я — Міхась!

Снегавіку раптам крышку скрывілася галава, пэўна, ад цяжару снегу — быццам слухае Міхасёвы словы.

— А што яму казаць! Балван ён звычайны! — падслухаў размову сусед, дзядзька Вінцэнт.

— А што, мовы не ведае? — здзівіўся малеча.

— А што яму ведаць? Ці ў яго ёсць мозг? То ж са снегу ён цалюткі.

Міхась паглядзеў з дзівам на дзядзьку.

— Дык у яго мозг снежны. У кожнага свой. У сабак — сабачы, у птушак — птушыны...

— Эт! — махнуў рукою дзядзька. — А ў цябе — дзяціны. Ці ты можаш размаўляць з птушкай або з катом?

— Магу.

**— А ці разумееш, што яны табе кажуць?**

**— Угу.**

**— Што „угу"?**

**— На тое маем вушы, каб чуць, і... рот... Язык... Дзядзька Вінцук, я ведаю, чаму снегавік нічога не кажа! У яго няма роціка!**

**Ухапіў хлопчык пруцік, што валяўся пад нагамі:**

**— Вось, зробім вусны снегавіку! Прычапіце яму там гэту галінку, там, пад носам! Мне не дастацца!**

**Дзядзька з ухмылкай уваткнуў крывульку пад моркву.**

**— Дык чаму ж ён плача? — здзівіўся малы. — Абярніце галінку ў другі бок!**

**Снегавік засмяяўся разам з Міхасём. А дзядзька раптам прыгорбіўся, пасунуўся ў бок ачышчанай ад снегу лаўкі і прысеў на яе беражку. І сумны раптам стаў. Забыўся, відаць, як дарыў, малым быўшы, усмешкі снегавікам.**

## БЯРОЗА

**Расла старая, магутная бяроза на ўскраіне гаю. Памятала, як той гай пачынаўся. Шмат дрэў, якія раслі цяпер каля яе, гэта былі яе маладыя дзеці. І ўсе мецілі яе перарасці, прагнулі таксама быць бліжэй сонца. Бачыла бяроза, як ссякалі яе сяброў і дзяцей. Ды яе самую ніхто не чапаў. Можа велічнасць і прыгажосць яе бела-чорнага ствала, які пачаў ужо трэскацца ад старасці, і буйнасць доўгіх косаў, вясною — светла-зялёных, восенню — трапятліва-залацістых заварожвала нават дрывасекаў. І дрэвы, часам з немалой зайздрасцю, захапляліся маткай-бярозай, якой карані шырэй і глыбей аплялі зямлю, чым яна ўздымалася над ёю. І з павагай да яе ставіліся.**

**Але, як сярод людзей, так і сярод дрэў ёсць злоснікі і насмешнікі. І яны ад рогату аж заходзіліся, калі старэча аднойвясной не выпусціла ні аднаго лістка, і голая адна стаяла да восені. Ні кропелькі соку не данеслі да яе кроны карані. І шумела яна сумна, ціха галасіла, успамінаючы юнацтва і буйную сталасць. Ноччу яе агортвалі яшчэ большая жаласлівасць і сум, і скрыпелі, енчылі бярозавыя ствол і галіны, біліся адна аб адну, заламваліся вікі.**

А смех той суседскі найбольш быў балючы. Бо чыя ж віна, што ссохлася? Маладзейшыя дрэвы не разумелі слова смерць. Верылі толькі ў сон, але таксама не памяталі моманту, калі акоўвала іх зіма, нават калі прыходзіла раптоўна і сцінала холадам часам яшчэ зялёныя лісткі... Толькі птушкі не пакінулі старую бярозу.

Засмяяліся яшчэ гучней дрэвы, іншыя спачувальна змаўчалі, гледзячы ў наступную вясну на яшчэ больш сшарэлую старэчу. І адна думка білася ёй пад карой: вось бы зусім прапасці, уцячы з ненадзейнага карэння, што не можа даць ёй стравы і пітва.

Прыехалі людзі, з жалезным візгатам аднялі яе ад карэння, пакінуўшы невялікі пянёк. Упала бяроза, з шумам і трэскам працінаючы паветра, навалілася на маладзейшых суседак. Добра, што нікога не зламала. Людзі хутка ацерабілі голле, ствол парэзалі на доўгія бярвёны і ўзвалілі іх на машыну. І стала ціха ў лесе пасля трывожнага гоману. Птушкі, што дасюль жылі на бярозе, забедавалі над сваімі гнёздамі, што, растаптаныя, валяліся ў траве.

З цела бярозы зрабілі... Ну, што? Шмат прыгожых і карысных рэчаў. Сшыткі, палічкі, і лыжкі. Лыжак вытачылі аж трыста! 299 лыжак прадалі ў краме, а адна засталася. Чаму? Бо сучок мела пасярэдзіне чарпачка. Адна-аднюсенька доўга стаяла ў магазіне ў пластмасавым кубку. А ў тым сучку прытаілася ўся душа бярозы. І моцна тужыла-сумавала. Па лесе, па птушках, па сонцы... Па гомане. Па размове.

І выбрала тую лыжку для свае ўнучкі Алінчына бабуля. Нішто Алінцы не смакуе. І не расце дзяўчынка, і бледная такая...

Узіраецца лыжка сваім вочкам-сучком на Алінку, што губкі надула, есці не хоча. І завяла лыжка размову з дзяўчынкай. „Есці не хочаш?" — „Не хацу і не буду!" — „А што, нясмачнае? Непрыгожае? Дай, я спрабую, я так даўно нічога не ела! Ай, як смачна! І калярова!" — „Гэта молквацка. Яна — аланзавая". — „А гэта? Белае і цёплае?" — „Бульбацка! А ў ёй зялёнае гэта пёлкі цыбулі і клоп. А гэта — глацаная каска! А гэтае, белае, гэта ёгулт. Кіслы. Смацны. А тут — булацок. Ён... булацковы!" — „І смак у яго... бурачковы?! Дай, і я спрабую!"

І стала вясёлай бярозавая лыжыка! І Алінка стала расці, як тая бярозка!

# ЧУЖЫЯ ТРУСКАЛКІ

Ці ёсць нічыя зямля? Калі яе ніхто не робіць і не хоча браць, каб штосьці на ёй вырошчваць? Ёсць. Асіным дзеду з бабай гэтая справа была зусім незразумелая. Праўда, яшчэ да нядаўна. Калі самі былі гаспадарамі, рабілі, колькі сілы хапіла. А захварэлі, дык аддалі зямлю дзяржаве. І іхная зямля знайшла добрага гаспадара, суседа, яшчэ маладога, старанлівага, працавітага. Дык сэрца не баліць, калі глядзіш на зарослае поле, пару дзесяткаў гадоў дагледжванае табою, пешчанае. І поле аддзячвае табе плёнам.

Часу больш цяпер у бабы Зосі і дзеда Ануфрыя. Гаспадараць крыху на сваім загоне, што сабе пакінулі, трымаюць якую курку, свінку. А дзяцей у іх трое, дык наведваюць іх, калі тыя да іх не едуць. Прыехалі, вось, у чэрвені да Асі ў Беласток. У госці. А госцем быць адно — нудная справа. Асабліва калі яшчэ школа канчалася, дык у хаце нікога не было. Паездзіла-пахадзіла пасля Ася з дзедкам і бабцяй па горадзе, паглядзелі тое-сёе, а ім — дахаты хочацца. На сваё палетка.

— Давайце, паедзем у лес па бубкі. Па трускалкі, — запрапанавала Ася.

— У лес? — здзівілася бабуля. — Там жа суніцы растуць, не трускалкі.

— Гэта ў Ігнатках. Гарадскі аўтобус едзе, „дзесятка”. На полі растуць, кожны можа ехаць і збіраць.

— А як жа ж чужое браць? — здзівіўся дзед.

— А гэта не чужое. Яно нічыё. Калісь там калектыўная гаспадарка была, ліквідавалі яе, палеткі пакінулі... Цяпер там нічога не робяць. А трускалкі растуць. І кожны, хто хоча, можа сабе іх браць.

Праўда, кінутае поле пярэсцілася беластачанамі. Пасля працяглага дажджу палетка абсохла. Людзі ў спешцы збіралі нават зеленаватыя ягады. Рушылі і Ася з дзедам ды бабкай па „бубкі”. Назбіралі вядро нічыіх трускалак.

— Едзем, Зоська, дадому. Ася, збірайся. Чаго па чужых палетках бадзяцца! — нецярплівіўся ўсхваляваны дзед ужо ў гарадской „дзесятцы”.

— Не магу ўжо дачакацца! — засмяялася ўнучка.

## БУЛАЧКА

Паўлік зноў не даеў булачку. З верху бутэрброда спачатку сцягнуў памідор, пасля хутка, амаль не жуючы, з'еў скрылёк паляндвіцы. А што смаку ў булцы! Калі б бабка Вікторыя не глядзела, дык і кінуў бы тую булачку, пашмараваную маслам, Бобіку пад стол... Бобік усё з'есць, і следу не будзе. Паўлікаў жоўты шчанюк праглыне ўсё, толькі давай! Нават за яблык ці сліўку бярэцца, не кажучы пра цукеркі ці шакалад. О-то-то! І Паўліку гэта смакуе. А шакаладу Паўліку нельга — у яго алергія. Якая несправядлівасць на свеце! Каб нельга было есці такое смакоцце! А тут тыя булкі! А Тамашку, Паўлікаваму калегу з другога „а" класа, і звычайных булак ды хлеба есці не даюць, а пякуць яны булачкі самі са спецыяльнай мукі.

— Еш, Паўлік, булачку. Сілы набірай! — бабуля Вікторыя, усё ж дагледзіць, даўзіраецца, ці не едзе булачка шчанюку на частунак. — Грэх хлеб выкідваць!

— А я і не выкідваю, я сабаку кармлю. А мала хлеба на сметніцы валяецца! Ды што толку ў хлебе, абысціся можна.

Бабка Вікторыя гэта не родная Паўлікава бабуля. У бабкі Вікторыі няма сваіх унукаў. А спадарыня Вікторыя — прышываная бабуля ўсіх дзяцей у вялікім доме ў цэнтры Беластока. Добрая. Але і строгая. З бабкай Вікторыяй жартаў няма! І накрычаць умее, як разбуянішся. Кожнага хлопчыка і кожную дзяўчынку зачыні быццам бы ў клетцы, як жа ж тады на волю хочацца! Гэтак і тлумачыць бабка Вікторыя — дзецям хочацца на волю, на паветра, на луг ды поле. Якое жыццё ў горадзе! Але, усё ж, цікава жывецца: і кіно блізка, і лялечны тэатр, і кампанія багатая: у кожным блёку народу — як у адной вёсцы. І ўсё відаць.

— Я бачу ўсё, які народ марнатраўны парабіўся. Бачыў, унучак, колькі лустак хлеба валяецца пад кантэйнерам? І па паўбуханкі выкідваюць. І цвілы, і сухі...

— Перастаньце гаварыць, бо мне ў роце ежа пухне! — скрывіўся Паўлік.

— А ты падумаў, колькі народу ў свеце галадае? Ад голаду пухнуць самі людзі, і такія дзеткі, як ты, ад голаду ўміраюць...

— То што, можа, мне сваю булачку ў Афрыку ці куды выслаць? — натапырыўся хлопчык.

— Ой, не ведаеш ты, дзетка, гора. Я ў твае гады ў Расіі

есці прасілася, каласкі збірала, каб свайго дзедку накарміць. Усе мае родныя ў бежанстве пагубіліся, паўміралі... І дзедку пахавала, і дадому вярнулася на пажарышча.

Паўлік моўчкі паглядзеў на маленькую, згорбленую ад старасці бабку Вікторыю, і ўявіў яе дзяўчынкай далёка, тысячы кіламетраў ад дому, у Сібіры, без таты і мамы, з хворым дзедкам. Са жменькай зярнят выцертых з каласкоў, знойдзеных на полі. І штосьці сціснула ў грудзях.

— Гэта час іншы быў, — ціха сказаў Паўлік і ўзяўся за булачку.

## ШПАКОВА ХАТКА

У гэты жнівень шпакі чамусьці рана сабраліся на перамовы наконт вяртання на зімоўку. Селі — ці не тысяча іх?! — на густыя драты лініі перасылу электратоку, што разыходзяцца на тры бакі свету, напятыя на стаўбах пасярод лугоў пад Белавежскай пушчай. Ад птушынага сейму нёсся гул, быццам кожны шпак ці і шпачыха ў адну хвілю хацелі ўзяць свой голас і выказацца наконт падарожжа ці таго, як пражылі свой час на тутэйшай зямлі, куды прыляцелі выхаваць патомства. А, можа, гэта маладыя шпачкі дзерлі дзюбы, каб даказаць, што і яны ўжо гатовы да першай у сваім жыцці вандроўкі на другі канец свету?

Яшчэ шпакі не паляцелі, як каля аднаго доміка, выгаднага, са свежае сасніны, з круглым акенцам ды палачкай дзеля таго, каб прысесці, закруціліся вераб'і. Вераб'іная сям'я — стары верабей з жонкай ды іхні чубаценькі чарнабокі сын, што жылі ў страсе старое шопкі, рашылі пашукаць сабе новага жылля. Мабыць, гэта таму сыну, ледзь сёлета аперанаму, не хацелася жыць у старой саломе, без выгад. Такое маладое пакаленне! — адно выгады давай, а калі не — кінуць дому і пойдуць шукаць лягчэйшага жыцця абы-дзе, абы далёка ад свае хаты і сваіх простых, шэрых бацькоў. Хоць пры бацьках — цяплей, уежней, бо нават калі сын ці дачка ўжо сталыя, дык старыя ад свае дзюбы адымуць, каб лепшы кавалак аддаць бамбізу, якому самому працаваць не хочацца ці работа неадпаведная для шаноўнага мала-

дзёна! Ну, дык і верабейчык Кірэйчык намовіў сваіх бацькоў, каб хуценька заняць хату шпачынай сям'і. Ну бо і як — дарам тая ім і так дасталася. А зараз і паляцяць яны ў далёкі край, а праз мора і нягоды ўсялякія... усё можа здарыцца... А хатка як звон — шчыльная, чыстая, прыбраная, акуратная, на зайздрасць усім.

— Дык хоць пачакайце, хай адляцяць, — перасцерагала вераб'іха. — Яшчэ крыху, хай халадней стане... Дык ніхто не будзе мець да нас прэтэнзій...

Не счакаў Кірэйчык, ірвануўся займаць будку:

— А вы як хочаце, можаце і пад страхой зімаваць! Дарэчы, і адзін пражыву, тут на падворку есці шмат.

Рассеўся верабейчык Кірэйчык на палачцы пад хаткай, юркнуў у нутро, пабушаваў у шпачыным гняздзе. А тут і іншая дзюба ў акенцы з'явілася — шпакі вярнуліся, парадак у доміку навесці, пасядзець хвілю, памаўчаць разам, як і належыцца перад падарожжам.

Вось і даведаўся верабейчык як лёгка чужое дастаецца. Сядзіць цяпер пад шопкай, накульгваючы падбірае чужое зерне, усім курам на смех.

## БУЛЬБА

Няма ўжо гаспадаркі ў бабы Мані. Бо наследнікаў няма. Дзеці ў горадзе, самі таксама ўжо немаладыя. А ўнукі яшчэ вучацца. Мабыць, Толік, найменшы ўнучак бабы Мані, хацеў бы, як вырасце, гаспадарыць. Летам прыязджае ў вёску, памагае. Ды якая там гаспадарка! Агарод, куры, свінка ды кароўка. Бабуля аддала сваю зямлю дзяржаве, і пенсію атрымлівае штомесяц, невялікую, але з дапамогай таго агародчыка неяк пражыць можна, на сваім. А ў агародзе — градкі з гароднінай, і загон з бульбай. Памагаў унучак тую бульбу бабулі садзіць вясною. Бабка пасля яе асыпала матычкай, прапалвала з лебяды і пырніку... Каларадскага жука разам з Толікам лавілі ў слоікі. „Экалагічная ў нас, бабця, гаспадарка! Здаровыя харчы вырошчваем", — Толік ужо ведаў, што калі ў зямлю не сыпаць штучнага ўгнаення, а натуральны гной, і не пасыпаць раслін атрутай ад насякомых ці пустазелля, дык вы-

рошчаныя прадукты больш карысныя для здароўя людзей і жывёл... А маладой бульбы бабуля ўкопвала па кошычку ўжо летам, і скрэб кожную бульбіну Толік ножыкам — у бульбы тады скурачка тоненькая. Смачная, сопкая бульба! А восенню баба Маня запрасіла Толіка з бацькамі — сваім сынам Юлісем і нявесткай Ганяй, сабраць плён з агарода. Бо самой ёй, нядужай, цяжкавата.

Выараў сусед загон бульбы спецыяльным плугам, запрэжаным у адзінага ў вёсцы коніка. Узялі капальнікі кошыкі, пайшлі па разорах, гартаючы матычкамі. Хто цяпер так бульбу капае! Прывыклі трактарнай бульбакапалкай — тады ідзеш сабе па полі ды падбіраеш бульбу, якая выкацілася з зямлі. А дзе ж тут у бабулін агарод трактар упусціш?

Ходзіць па полі Толік, хоць з кошычкам меншым, чым у дарослых, усё ж, падмога лічыцца. Гартае зямлю, пераглядае, ці не схавалася якая бульбіна.... І раптам з-пад зямлі вызірнула вочка! У кожнай бульбіны ёсць вочкі, нават шмат — ды гэта не сапраўдныя вочкі: калі б яе пасадзіць, пойдуць з іх карэньчыкі. Ды ў гэтай бульбіны вочка незвычайнае! Быццам бы глядзіць! Разгарнуў Толік зямлю рукамі, дастаў рэдкі экземпляр! Іначай не назавеш! Бульба — птушка! Аграмадная! Дзюбатая ды хвастатая! І на салідных роўных ножках. Шэры папугай! Схаваў Толік бульбу-птаха ў лапухах, і ад радасці ледзь трываў, носячы кошычкі з бульбай у мяшок. А ўвечары пахваліўся знаходкай.

— Гляньце, якое цуда! Ды як яна птушкай зрабілася?

— А ці не хочацца і бульбе палятаць? Усё ў зямлі ды зямлі! — зусім не здзівілася бабуля.

## У ЧАКАННІ БУСЛОЎ

У гэтым годзе ўся вёска доўга чакала буслоў. А яны не ляцелі. Старыя гнёзды, якія высушыў вецер, абагрэла сонейка, чакалі таксама, каб правіць-паправіць іх галінкамі ды травой, знесці ў іх яйкі, выседзець маладых клекатуноў, якія спачатку будуць здзіўлена шыпець, пазіраючы на новы свет... І паспець трэба, каб буслікі выраслі, падужэлі, каб змаглі

разам з дарослымі бусламі вярнуцца на зімоўку. А, можа, лепш сказаць — яны вяртаюцца сюды. Буслы, якія жывуць у нас, прылятаюць аж з Паўднёвай Афрыкі — колькі ж гэта тысяч кіламетраў у паветры намахаешся крыламі, колькі натугі ў галаве і вачах, каб не сысці са шляху... Што вядзе бусла на радзіму? Што загадвае яму збірацца ў такую небяспечную дарогу — і яму, і ўсёй сям'і, і ўсёй буслінай грамадзе, якая мусіць арганізавана, паслушна ды згодна махаць крыламі насустрач сонцу? А, вось, і не прыляцелі...

На дарозе буслам на радзіму ўзняліся клубы дыму, на вышыні буслінага палёту загудзелі самалёты-бамбавозы ды іншыя, такія падобныя на драпежных птушак. Уздрыгнула зямля. Цёмна, страшна, небяспечна. І хоць кліча радзіма — як прабіцца праз цемру і гул?

— Трэба маліцца і за буслоў, — сказала баба Верка праўнуку Паўліку. Бабуля ведае шмат малітваў і замоў. Не раз і звяры прыходзілі да яе прасіць дапамогу. І коцікі, і сабакі, і птушкі розныя, нават вожык прытупаў з лесу. Баба Верка, якой ужо амаль дзевяноста гадоў, ужо зусім згорбленая, дык усё бачыць добра, што нізенька на зямлі ці паўзе, ці бегае. Нават на мурашку баіцца наступіць, шкадуе. Праўда, акуляры трэба ўжо насіць, „падвойныя вочы", як тлумачыць жартам старажылка. Адагнецца бабуля, гляне на пустыя гнёзды, і перахрысціцца.

— Бусел — сімвал міру, — кажа Паўліку бабка. — Не так нават галубок, як бусел. Сімвал міру, сям'і, вернасці.

І Паўлік задзёр галаву, гледзячы на стадолу, на даху якой калісьці падрыхтавалі былі месца на бусліное гняздо. Год чакалі на тое, каб якая бусліная сям'я аблюбавала месца. Буслы калісь сяліліся на саламяных стрэхах. Цяпер можна ўбачыць іхныя гнёзды нават на электрычных слупах, на адмысловых вышках, каб буслінай сям'і не шкодзіў электраток.

— Пытаешся, Павел, якая малітва можа памагчы буслам? Імі Гасподзь апякуецца, так як і людзьмі.

— А вайну ж людзі выдумалі.

— Дык супраць вайны малітву складзем, супраць злосці і смерці. Такія малітвы кожны дзень кажуць мамы, бабулі. І моўчкі, і ўголас.

Селі Паўлік з бабай Веркай на лаве пад плотам, склалі рукі. І моўчкі сталі малітву складваць, жадаць і людзям, і буслам чыстага неба.

# ХАХОЛ

**У садзе растуць маладыя яблынькі ды грушкі. Пасадзіў іх яшчэ дзед Максім. На месцы, дзе рос стары сад. Дзедку казаў сусед-аднагодак (а былі яны тады найстарэйшымі мужчынамі ў вёсцы): „Нашто табе садзіць дрэвы?! І так не будзеш есці пладоў! Мы ўжо сваё адсадзілі, адсеялі, адпланавалі... Хай маладыя садзяць ды сеюць, іх час прыйшоў. А то парабіліся дармаеды з іх такія, што і пададзенага ў рукі ўзяць не хочуць...” Дзед Максім сказаў суседу: „Нічога, Мікола, сад ад мяне застанецца новы. І расці будзе, калі мяне ўжо не стане”. Дзедкі Максіма не стала праз тры гады. А сад расце. А дзед Мікола, стары ўдавец, якога дзеці і ўнукі ў Беластоку жывуць, з зайздрасцю, пэўна, спаглядае, як суседскія праўнучка з праўнукам бегаюць па Максімавым садку. Бы тыя парасткі сярод дзедавай рукой пасаджаных маладых дрэўцаў. І дзеду Міколу хочацца, бы да сваіх, да іх прытуліцца. Ганулька ды Жоржык і яго дзедкам называюць, як усіх старэнькіх у вёсцы. Праўда, бубулькі амаль адны ўжо тут жывуць... І кожны дзед з бабкай з радасцю глядзяць на чужых дзетак. „От, жывое сярод нас, старых!” — кажуць. Усе яны хочуць з тым жывым паразмаўляць, самім ажывіцца, адчуць подых маладосці. А Ганулька ды Жоржык не супраць — так цікава гамоніцца са старымі. І параду дадуць, і пра былое раскажуць. Здаецца, што казку якую страшную пачуеш — і пра вайну, і пра гора, і радасныя аповеды, як у вёсцы весела было, як усе на лавачках спявалі, гулялі... А парады такія цікавыя...**

**— Вось, вашы дрэўцы апрануць на зіму трэба, — кажа дзецям дзед Мікола.**

**— Як гэта? На зіму? Ад холаду?**

**— І ад холаду, і ад зая.**

**— Што зай зробіць дрэўцам? Кару абкусае? Ад голаду? Дык шкада зая... — Ганульцы аж вочкі закругліліся: уявіла беднага зайку, як трасецца на гурбе снегу.**

**— Зайку можна накарміць, падкінуць яму сена, морквы, а яблыньку ахутаць трэба ў салому. Хахол надзець.**

**— Такая сукенка! — смяецца суседка, бабка Тэкля. — Гэта не жарты!**

**— Яблынькі яшчэ ў сукенках, — заўважыў Жоржык.**

— Лісце носяць.

— Ліст упадзе, і холад яблыньку трэсці будзе, — зазначыў дзед Мікола.

— А адкуль узяць добрую салому на хахол? — задумаўся Жоржык. — У нашага таты камбайн яе так змалаціў, а пасля яе скачалі ў цюкі...

— У мяне ёсць добрая, доўгая салома! — дзед Мікола сам скасіў жыта на невялікім загоне — сеяў крыху збожжа для сваіх курэй. — Ідзем, выбярэм.

І старыя, і малыя апраналі Максімавы яблынькі на доўгую, марозную зіму.

## ХЛУС

Хлус сядзеў на драўляным мосце над падрэчкам, глядзеў у ваду і думаў, што тут яшчэ схлусіць. І, перш за ўсё, каму. Сябры і настаўнікі паехалі на канікулы, дзедка з бабуляй — у полі, мама з сястрой у санаторыі, тата на працы... Суседзі таксама разышліся кожны па сваёй рабоце, вядома — лета ў вёсцы, некаторыя падаліся ў лес па ягады. І, папраўдзе, ніхто не хоча слухаць Хлусавай хлусні. Нават калі кажа праўду, усе думаюць, што Хлус маніць. А Хлус хлусіць не дзеля таго, каб увесці кагосьці ў зман і ад гэтага мець карысць. Гэта толькі мастацтва, прынамсі так думае, калі схлусіць і цешыцца тым, што хтосьці яму паверыў. У школе, напрыклад, цікава і пакручаста тлумачыцца са свайго спазнення на ўрок. Вось, ратаваў якуюсь бабульку з-пад колаў аўтамабіля, пасля правёў яе дахаты, супакойваў... А, папраўдзе, заглядзеўся на сям'ю соек, што сварыліся на плоце. Альбо з хаты ў школу выбіраўся бы тая сойка за мора. Вучням, якія прыехалі на школьным аўтобусе, трэба было выбірацца ў школу, бывае, зацямна, а яму ісці паўкіламетра, ледзь вёску прабегчы, а прыходзіць у клас апошнім. Праўда, Валікавы тлумачэнні і іншыя выдумкі гэта ўжо школьны фальклор, увайшлі яны ў збор анекдотаў, якія паўтараюць вучні і настаўнікі ў настаўніцкім пакоі, але ніхто хлопца не трактуе сур'ёзна, і нават імя быццам бы забылі, жыве ён у школе ды вёсцы як Хлус.

Сядзеў Валік-Хлус, глядзеў у ваду, круціў у руках мабільны тэлефон, які пакінула мама. Побач цярпліва чакала Аста, чорная сучачка. Урэшце абодвум ім абрыдла ся-

дзець на мосце.

— Пойдзем на луг, Аста, — сказаў Хлус сучцы, але нават і яна яму не паверыла. Але ў гэты раз сышлі на лугавую дарогу, выезджаную фурманкамі з сенам, крыху падмоклую. Рушылі ў бок лесу. Раптам Аста зацяўкала, быццам счула звяра.

Гэта не быў звер. На траве, каля перакуленага кошыка з ягадамі ляжала цётка Насця, пажылая Валікава суседка. Бабуля цяжка дыхала, аблітая халодным потам.

— Ой, сыночку, блага мне стала, — заенчала. — Нага падвярнулася, здаецца, паламала. І сэрца хапіла...

— У мяне ёсць тэлефон, выклічу скорую дапамогу, — Валік памог аперціся жанчыне аб дрэва, набраў нумар.

— Не хлусіш? — азвалася ў трубцы дзяжурная. — Нядаўна жуллё выклікала карэтку, а гэта толькі жарт быў! Уяўляеш?! Хтосьці, можа, канае, а вас трымаюцца такія жахлівыя жарты! Скуль звоніш? З луга? Выдумай яшчэ што! Адкуль у цябе тэлефон? Мамін мабільнік!? — дзяжурная кінула трубку.

Валік расплакаўся. Пазваніў яшчэ раз. Баба Насця абсунулася пад бярозай — зрабілася ёй яшчэ горш.

— Хай гаворыць тая жанчына, — дзяжурная і слухаць не хацела Валіка.

— Яна страціла прытомнасць! У яе твар пакрывіла, не можа гаварыць... Такая гарачыня... Божа, прыязджайце, цётка Насця памірае! — Хлус калаціўся ад страху.

Праз паўгадзіны па шашы мчалася карэтка скорай дапамогі, завярнула на луг. Заплаканы Хлус махаў белай хусткай бабы Насці над яе бледным тварам.

## ХМАРКА

Лятала хмарка па небе раз хутка, раз памаленьку. Хмары і хмаркі сунуліся то туды, то сюды, як ветру падабалася. Малой хмарцы падабалася неба, вецер, сонца, іншыя воблакі і хмары і тое, што калярова расклалася ўнізе... Адно ёй не было даспадобы — была яна зусім маленькая. Было б весялей, каб захацела далучыцца хоць у пару да іншае хмаркі, якія самі гарнуліся да яе, прасіліся ў кампанію, ды здавалася ёй, што не

гонар быць у гурце. Вось, тая хмарка большая за яе, а тая пукатая... Мабыць, прыгажэйшыя, больш паўнаводныя... Падбірала хмарка свае растрапаныя спадніцы, прыгладжвалася, то зноў старалася шырэй надзьмуцца, ушыркі раскінуцца, быццам, глядзіце, больш месца займае... І праўда, большала! Адчувала сябе цяжэйшай з кожнай кропляй, якой набіралася, паўнела.

— Вось якая я хмара! Яшчэ, яшчэ, яшчэ!.. А вы сабе і не думайце, што адстану ад вас! Я і хутчэй паплыву, і яшчэ большая буду! Я ўжо не воблачка! Яшчэ!!! — і разяўлялася хмара, і набіралася моцы...

Пашарэла неба, сонца цьмяна прабівалася праз расасланыя па небе хмары. Вецер тузаў за бакі, прадуваў спадсподу ды навылёт цяжкую хмару, якая старалася сціснуцца шчыльней. Хоць вецер гнаў яе хутка, адчувала свой цяжар і стому. А яшчэ набіралася вады з паасобных кропляў. А і меншыя хмаркі сталі да яе туліцца, як да моцнае матулі, каб так страшна не было ганяцца паасобку па асеннім небе...

І не стрывала хмара, упусціла долу свае спадніцы. Высыпаліся шчодра кроплі, паляцелі, асірацелыя, уніз. Хмара з палёгкай уздыхнула: як добра! І адчула, што яе... амаль... няма! А пасля ўбачыла, што ўся яна, ва ўсіх сваіх кроплях — на чорнай астылай зямлі.

## ЦВІКІ

Каля святліцы растуць ліпы. Ой, колькі ім гадоў будзе! Яшчэ школы мураванай не было, тысячагодкі, і гэтай драўлянай святліцы, пабудаванай грамадскім пачынам, а тыя ліпы ўжо раслі. Баба Юля казала, што і да другой сусветнай вайны ўжо яны былі немалыя, а садзіў іх яе бацька яшчэ юнаком. І на іх заўсёды віселі і вісяць розныя аб'явы. Пра выбары — вялікія плахты дробна задрукаванай паперы, пра пазыку грошай, калі трэба крэдыт, каб што купіць, пра забавы — намаляваныя каляровымі пісакамі, расплылыя каляровымі рагамі ад дажджоў, выпалавелыя на сонцы. Хоць на сцяне святліцы прыбітая адпаведная дошка, да якой можна аб'явы і паведамленні прышпіліць булаўкамі ці прыклеіць, традыцыйна людзі вешаюць іх на дрэ-

вах. Каб толькі вешалі! Каб добра яны трымаліся, не шкуматаліся ветрам, даводзіцца прыбіваць іх і цвічкамі, а то і здаровымі цвікамі. І з кары вытыркаюцца шмат гадоў цвікі недабітыя, рудыя ад іржы, ці ўгнаныя аж па плешку ў парэпанае цела ліп, а пад імі — надарваныя шматкі паперы.

Прапаў у Зосі сабачка, Мопсік. Паплакала дзяўчынка, стала шукаць яго па ўсёй вёсцы, пытацца ў суседзяў, ці яго хто не бачыў. Дала нават аб'яву вадзіцелю аўтобуса, каб паклаў ля лобавага шкла — Мопсік вельмі любіў падарожнічаць, мог забегчы ў аўтобус на прыпынку ды паехаць нават і ў Гайнаўку або выйсці дзе па дарозе. Павесіла аб'яву з Мопсікавым партрэтам на святліцы. І, традыцыйна, спрабавала яе начапіць на старую ліпу. Два цвічкі лёгка дасталіся з кары. Падняла Зося камень, спрабавала ўбіць цвікі ў кару, каб прымацаваць сваю вестку. Тук-тук! — і ў палец! А-я-яй, як баліць! Зося зморшчылася ад болю, паклала балючы палец у рот, быццам ад таго лягчэй магло зрабіцца.

— Што, забалела? — запытаўся дзядзька Алік, што, злезшы з ровара, чытаў паведамленні. — А як ты думаеш, ліпе не баліць? Паглядзі, колькі ў яе ранаў. Колькі цвікоў у яе нахвасталі! А ты толькі раз дзюбнула сабе ў палец, і адразу „а-я-яй"!

Паглядзела Зося на пярэстае ад цвікоў і пажоўклай паперы цела старое ліпы, і слёзы яшчэ больш зашчыпалі ў яе вачах.

## У ЯГАДАХ

Ці не найбольш смакуюць ягады проста з кусціка? Чорныя, налітыя цёплым сонцам, асыпаўшыя галінкі ягадніку, пахучыя румяныя сунічкі на сонечных грудках, гранатавыя — на калючых доўгіх галінах ажынніку, ружовыя, сакавітыя — на калючым маленніку... Зашыешся ў кустоўе, наўкол ціш поўная зумкання і шэлестаў, і бліжэй ты да мурашак і іншых кузурак, якія таксама руплівa займаюцца сваёй справай, сваім карысным і важным маленькім жыццём. І адна ягадка — у кубачак ці кошычак, другая — у рот. А ягадны сок фарбуе твае далоні і вусны, увесь пахнеш лесам, асыпаны іглiцай, кавалачкамі кары, ліст-

коў, шматкамі павуціння — якраз тудою, куды ты ідзеш, павук завесіў сетку, і ты, і не думаючы, парвеш, заняты сваімі пошукамі, ягоную прыладу працы і палёту.

З намі заўсёды ў лес бегае Рэксік — чорны малы цюцька. Ніяк не можа дапяць, чаму збіраем грыбы, да таго не тыя найпрыгажэйшыя, чырвоныя ў белыя кропкі. Але ягады — справа зусім зразумелая. Яны — смачныя. Куды сунецца сабачка — туды і ідзі, бо ведае ён найбольш ягадныя месцы. Толькі што прайшоў: праехаўся засліненай ад смакоцця пысай па галінках ягадніку. Ну, хай там і будзе! — ягад хопіць кожнаму! Яму, дарэчы — відней, на кароткіх лапках тупае па кастрыцы, усё ўбачыць. Але колькі тае працы! І мы з кубачкаў сабраныя ягады перасыпаем у вядзерцы, мама — у вялікае пластмасавае вядро, а суседка Надзя збірае жменя за жменяй спачатку ў конаўку, а пасля ссыпае ў вялікі, выкладзены паперай, кошык. Кожны ціха корпаецца ў ягадніку, згорблены, заняты. Час ад часу перамаўляемся, каб не пагубіцца на ўрочышчы Марушка. І раптам...

— А што ты нарабіў! А чаго ж ты сюды прылез!

Гэта цёця Надзя лямантавала каля свайго кошыка, што стаяў каля сасны. Каля яе, сарамліва падагнуўшы хвост, дрыпаў наш Рэксік.

— Вы бачылі такое?! Замест збіраць ягады, поскудзь ты слінявая, з кустоў, калі ўжо мусіш, ты мне іх з кошыка стаў выядаць?!

А ён, Рэксік, смяецца, а мы разам з ім, а ўсіхныя раты — і нашы, і сабачая пашча — фіялетавыя ад ягад. Не засталося і цёці Надзі нічога іншага — і яна зарагатала.

А цяпер нямытых ягад нельга есці, проста з кусціка: паявіўся нейкі чарвячок, ад якога можна захварэць... Шкада...

## МУРАШ

Вырас мураш Ільяш на хвалу ўсяго мурашніка — вялікі, здаровы, разумны. І ў гурце ўмее працаваць, разам з іншымі мурашкамі, і сам спраўляецца, калі прыйдзецца трапіць на незвычайную сітуацыю. Інтэлігентны! Усе тэсты ў мурашынай школе паказвалі, што не дурней ён за ін-

шых мурашоў, а ў пэўным справах нават і лепшы ад сярэдняга жыхара мурашніка. Калі да добрых падстаў дадаць працавітасць, — казаў мураш-настаўнік, — дык няма такое справы, каб яе не рашыць. І давалі ўзнагароды мурашу Ільяшу ад першага класа па апошні за добрую навуку, стаў на працу — хваляць, не нахваляцца, узнагароджваюць як найлепшага. І стаў Ільяш, замест проста цешыцца поспехам, напыхлівым мурашом. Нос высока цягне, на слабейшых звысоку глядзіць, з іншымі мурашкамі не лічыцца. Свае законы хоча ў мурашніку ўводзіць, без кансультацыі. Бо ўзялі былі мураша Ільяша ў дарадчыя ўлады пры каралеўскім двары. А пасля нават міністрам стаў па справах інфармацыі і перадачы даных. Тут ужо і сваякам не падходзь, не то што сябрам ці суседзям. Бы з іншага яйка вылупіўся, бы які нетутэйшы пан у мурашніку аб'явіўся.

Раптам над лес навалілася бура. Размятала ўсё пад дрэвамі, пашкуматала кусты, паламала дрэвы. Мурашнік, у якім жыў Ілья, развcovaліўся. Паляцела па лесе ігліца, заваліліся кватэры, калідоры. Узяліся мурашкі шчыра, памурашынаму, ладзіць сваё жытло. І паганяць нікога не трэба, усе ведаюць сваё месца, стараюцца. А мураша Ільяша нідзе няма. І ва ўрадзе ягонае непрысутнасці ніхто не заўважыў, і сярод простага люду. Куды падзеўся Ільяш? Можа, загінуў смерцю героя?

Вецер перанёс мураша далекавата ад роднае хаты. Кінуў вобзем, пагнаў па сцежцы. Так трапіў Ільяш у чужы мурашнік. Паглядзелі на бяздомнага земляка мурашкі, прынялі як чаканага госця. Пачаставалі, далі месца сярод сваіх. Пабыў Ільяш, паеў, паспаў. Абжыўся. Разгледзеўся. І сталі не падабацца яму парадкі ў гэтым мурашніку. А як жа ж яны могуць гнаць Ільяша на працу? Не да простае справы ж рыхтавала яго жыццё! І не дарам вецер яго сюды прынёс; пэўна, нейкая місія ў Ільяша незвычайная лёсам яму прызначаная. І стаў і тут нос задзіраць. Паглядзелі добрыя гаспадары на напыхлівага дармаеда, падумалі. Папрасілі, каб справу перадумаў, калі з імі жыць і працаваць хоча. Каб парадкі тутэйшыя ўшаноўваў, з людам лічыўся.

І выгналі Ільяша з харошага мурашніка. Хай шукае сабе месца ў жыцці сам. Можа, вернецца?

# ДУБ

Пад старым дубам, што рос у велікаватай густой хваінцы, Мірык, Алёшка і Крыся расклалі агонь. Невялікае цяпельца — жменька галінак у стус, пару шышак, кара, сухая трава. Нястрашна — пакручанае голле дуба высока, пад абсягам кроны толькі рэдкая траўка, не зоймецца полымем, тым больш, што павырывалі яе ўкруг з паўметра. Пасядзелі, падпеклі сабе па лустачцы хлеба, пабегалі наўкол дуба, гуляючы ў танкістаў і сабаку... Сабака быў сапраўдны — жоўты Бурык, ды называць трэба было яго Шарыкам... Ну, згадзіўся на тое Бурык: хай будзе і Шарык, абы ўсюды бралі яго ў сваю кампанію... З дзецьмі цікавей, чым сядзець пад будкай. Пагулялі, забралі кошычкі з грыбамі, прытапталі свёй касцёр, і пайшлі дахаты.

Крыся, як заўсёды, не хацела брацца за прынесеныя грыбы: хопіць, што збірала і есці будзе. Мірык і Алёшка перабралі грыбы і бэткі, памылі іх і сталі рыхтаваць вячэру.

— Алёшка, ідзі ўжо дахаты, — сказала мама Крысі і Мірыка малому суседу. — І забяры Бурыка з нашага падворка, а то ганяе, здаецца, нашых катоў!

З-за зачыненых дзвярэй далятаў безупынны брэх Алёшкавага сабакі. Калі дзеці выйшлі на падворак, каб правесці сябра, Бурык не пабег у сваю хату, а ў бок хваінкі. Аж заходзіўся ад брэху.

— А вы куды паперлі?! — закрычала мама. — Няма з вамі спакою — адно лес і лес! Днявалі б там і начавалі! А яшчэ і вы, тата, бежыце?

Над хваінкай цягнулася тоненькая стужка дыму.

Дуб не паддаваўся агню. Па каравым ствале памалу ды паступова паўзло полымя...

Ад таго часу прайшло амаль трыццаць гадоў. Што гэта за век для дуба! Расце ён далей у хваінцы, якая стала ўжо хваінай, не такім густым маладняком, як калісь была. Сляды ад агню на дубавым пні даўно зажылі. У Крысі, Алёшкі і Мірыка — свае дзеці. Не жывуць толькі ў вёсцы. Прыедуць з горада на канікулы — ідуць да дуба. Як калісьці хадзілі іхныя дзяды і бацькі.

# ДЗВЯРНАЯ НІША

**Дом стары. Драўляны. Паставілі яго дзед Іван з братам Юстынам, зараз пасля другое вайны. Спачатку стаяў ён на камені, пасля паднялі яго з дапамогай машын усялякіх, і падклалі яму мураваны падмурак. І памянялі вокны і некаторыя дзверы. А адных дзвярэй — не мянялі. Славутых, вядомых і дзедавай дачцэ Зіне, і яго ўнукам ды праўнукам. Гэта дзверы з залы ў дзедавы пакой. Праўда, перамалёўвалі іх, бо ж больш чым за паўстагоддзя былі б яны проста брыдкімі, бруднымі, старымі.**

**Як думаеце, ці не пыхлівымі былі новыя дзверы, пазіраючы на пераедзеныя шашалем нішы старых? Вядома, а як жа ж! Ведаем мы такіх: што новае, гэта хараша, што старое — прэч! Непатрэбная ламаччына — на сметнік ці ў печ! А што такое асаблівае ў старых дзвярах, праз якія што і раз праходзілі людзі?**

**Засталіся паметкі. Робленыя хімічным алоўкам. Звычайнымі алоўкамі, ці каляровымі. Ад недзе паўметра ад падлогі аж куды — вышэй за дзеда Івана, які быў сярэдняга росту. Успамінаюць дзверы, парэпваючы ўноч і ўдзень. Сабе парэпваюць, калупаючыся ў сваёй старой памяці. Каб весялей было. Каб адчуць сябе важнымі:**

**— Хімічны аловак зрабіў першую рыску ў той час, калі Зіна ўстала на ножкі. Другая рыска — праз паўгода... Аж Зіна ў школу пайшла. Пасля шмат рысак, аж да таго часу, калі школу кончыла. Чырвоным алоўкам — рыскі ад макаўкі галоўкі Зінінага сына Жэніка, зялёным — дачкі Аленкі, сінім — малодшае дачкі Галачкі. Раз дзед Іван мераў унукаў, раз баба Люба, іншы раз бацькі Жэнікавы, Аленчыны ды Галаччыны. Па абодвух баках дзвярное рамы. А раз і самі дзеткі значылі, крывулькамі. Тады прыкладвалі да галавы кніжку, каб раўней было. Жэнік нават і цвічком значыў свой рост, — рысаваў глыбокі раўчучок. Дзед тады злаваўся — не любіў, каб марнаваць дабро ў хаце.**

**Пацягнулі тады дзверы белай фарбай, але знакі былі відны. А, можа, так і малявалі, каб паметкі засталіся? Бо новыя рыскі пачалі з'яўляцца. Павучыліся цёця Алена ды Галка, у свет выпырхнулі, на гаспадарцы застаўся тата Яўген. І ў яго паявіліся дзеці, дзедавы праўнукі. Мартынка, Алінка ды Косцік. І як толькі каторае з іх стала на ножкі**

— адразу іх пад старыя дзверы, пазначыць рост на дзвярной нішы. Ажывіліся дзверы, набралі моцы ў свае пакусаныя шашалем плечы.

— Вы што ўсё рыпіце ды рыпіце, — угнявіліся новыя, бліскучыя белыя дзверы ў вялікі пакой. — Каб хоць чыстыя былі! Пакрэмзалі вас абы-як! Памаляваць вас хоць бы крыху, а то сорам нам, дзвярам... Сорам!

Старыя дзверы рыпнулі:

— Гонар нам! Не сорам!

І шчасліва піснулі ў завесах:

— Трады-ы-цц-ыя! Гісто-орыя! Час-час!

Размову дзвярэй чуюць тыя, хто слухае.

## КАРТА

Само цікавае ў свеце гэта свет.

Цікава той свет паглядзець. Паехаць, пабачыць. Пажыць у свеце. З людзьмі пагаманіць. Гэта ўжо калі дарослы будзеш. Ды і цяпер Радзік мае свет перад вачыма. Расклаў аграмадную карту на падлозе, і так, і гэтак вандруе па свеце. Усім целам тую карту наведвае — паўзе, прыглядаючыся, узжоўж рэк ды мораў, ад полюса да полюса, па мерыдыянах, і ўпоперак — па паралелях. Гэтую карту падарыў яму хросны бацька Алесь. Прывёз яе з замежжа. Моцная тая замежная карта, не рвецца ад такіх вандровак. Толькі надпісы на ёй на не зусім зразумелай мове. Радзік ужо ведае літары, нават і англійскія — яны зусім падобныя, толькі, вядома, чытаюцца, бывае, інакчай. І канец тая Зямля на падлозе мае — паўзеш на захад — даходзіш да канца ліста. А калі б паўзці па агромным глобусе — дык, выпаўзаючы з Еўропы, дапоўз бы ў Амерыку, ага, па Атлантычным акіяне, так, як Калумб плыў на захад, думаўшы, што даплыве ў Індыю. А калі папоўз бы далей, за Амерыку, дык сапраўды, за Ціхім (ён жа і Вялікім называецца) акіянам, трапіў бы ў тую Індыю, што ў Азіі, на другім ужо паўшар'і...

Радзік злез з карты, пакруціў у руках маленькі глобус — так, як сапраўды наш зямны шар круціцца наўкол сябе, кожны дзень, а потым ababeg бабулю, што ў мяккім крэс-

ле пасярод пакоя вязала шкарпэтку на прутках.

— Бабуля, ты — Сонейка! Я цябе акружаю ў год!

Баба Зіна зняла акуляры.

— Што ты кажаш! — пажартавала з унука. — Відаць жа ж, што гэта Сонца наўкол зямлі ходзіць — раніцай устае, увечары...

— Бабуля! Капернік! — Радзік затрымаў сваю Зямлю ў размаханых руках і расплюшчыў шырока вочы.

— То ж і Капернік сам бачыў, што робіць сонца на небе! — працягвала жартаваць бабуля. — І хто там ведае з гэтых вашых вучоных, што там у сярэдзіне Зямлі — яе ж не разрэзалі. Кажаш, гарачае ядро? А скуль ім ведаць, якая там глыбіня ў акіянах?

Вывалак усхваляваны малеча з паліцы аграмадны атлас, расчыніў якраз на Вялікім акіяне. А там выразна размалявана і распісана, так як там, дзе суша — горы, даліны зялёна-крычнева-жоўтыя, з пікамі, тут на блакітным полі — таксама нізы глыбокія памечаныя. Дзе святлейшы блакіт, дзе цёмны. У тысячы метраў!

— Глядзі, бабуля! Ты не верыш?!

— Веру, веру, мой ты маленькі вандроўнічак, — з гонарам ды чуласцю пагладзіла ўнука па галаве бабуля Зіна. — Дык пачытай мне пра тое, што ў моры!

## НАСЦЕНГАЗЕТА

На старой сцяне ў бабулінай „каморцы” — некалькі слояў шпалераў. Тая каморка — невялікі пакойчык, складзік, у якім складваліся розныя рэчы — новавытканыя радзюжкі і дываны, звалькі палатна, парожнія кадушкі і бочкі, капанькі, у якіх ужо не купалі дзяцей, бо ўжо даўно павырасталі і пайшлі ў свет... Стаяў там таксама стары ложак са шчыткамі з намаляванай парай лебедзяў на блакітнай вадзе, дзюба ў дзюбу. На ложку ляжала пасцель, якую баба Надзя час ад часу праз усе тыя гады выносіла на двор пры сонечным надвор’і, развешвала на платы, узбівала падушкі і пярыны. Гэты ложак — для таго, хто прыедзе ў госці, а не хопіць яму месца „на вялікай хаце” альбо ў спальнях. А ёсць такія сваякі бабы Надзі і дзеда Ан-

тося, што, прыехаўшы, жадаюць спаць якраз у каморцы, прапахлай зеллем, чорнымі ягадамі, баравікамі, старой сухой драўнінай. Гэта якраз любяць Зося і Караль, унукі з Беластока. Асабліва ноччу там цікава, таемна. А раніцай можна глядзець таксама на сцены — на іх з-пад шпалераў выходзяць старыя карціны. Ды пра тыя тыя „карціны” бабе Надзі і не кажы: даўно трэба ў каморцы зрабіць рамонт. Сарваць паперу, ачысціць, а сцены абабіць дошкамі ці панеллю. Гэтак модна.

Сталі ўнукі памагаць зрываць шпалеры. А там — пад адным слоем — другі, трэці, чацвёрты... Пажоўклыя, пасівелыя... А на самым пачатку, на голай сцяне — газеты.

— Бабця, а хто гэта такі? — стаў узірацца Караль на два партрэты, выразаныя з газеты, наклееныя адзін ля аднаго. Маладыя дзядзькі ўсміхаліся роўнымі зубамі. Партрэты захаваліся, быццам былі наклеены толькі ўчора.

— Гэта Юігагаі! — засмяялася бабуля. — А гэты — Джон Кенэдзі.

— Гэты быў прэзідэнтам Амерыкі, — чула пра яго Зося. — А „Юігагаі”?

Бабуля аж пакацілася ад смеху на ложак.

— А гэтак назваў яго ваш тата, калі маленькі быў. Якраз паляцеў Юрый Гагарын у космас. Хадзіў ваш тата, трымаючы кашулю, так сказаць, у зубах, глядзеў на партрэт, і цешыўся: „Юігагаі, Юігагаі”. Харошыя былі хлопцы, дык я іх і наклеіла, каб каморку прыхарашылі!

— Такую, вось, ты, бабуля, хроніку зрабіла на сценах! — засмяяўся Караль. — І сусветная памятка, і сямейная!

# ІГОЛКА ДЫ ЯГОРКА

**Ягоркава бабуля Зося носіць акуляры, як ледзь не ўсе нашы бабулі. Бабулям вочы псуюцца і ад узросту. Нямала і плакалі, бо і ад слёз сохнуць вочы, спачатку мокрыя. І ад працы вочы слабнуць, а бабулі шмат напрацаваліся за ўсё сваё доўгае жыццё. З усіх на свеце найдаўжэй жывуць бабулі, і найбольш памятаюць... А на пальцы ў бабы Зосі — напарстак. У Ягоркі акуляры ёсць на носе, хоць яшчэ нестары, ды напарстка — няма. Бабулі напарстак патрэбны, каб іголка ў палец не калола. Бабуля Зося — краўчыха. Праўда, на пенсіі яна ўжо, але шые і шые. Перашывае, цыруе, шые сукенкі, спадніцы, блузкі, штонікі... Прыходзяць суседкі, радня, ды найбольш любіць шыць бабуля Зося свайму ўнучку Ягорку. Найцяжэй з прымеркай. Непаседлівы Ягорка не можа ўтрымацца, калі бабуля накідае на яго пасчаплянае ніткай — пафастрыгаванае адзенне, і сям-там папраўляе, ці добра яно ляжыць, ці не зацесна, ці не засвабодна, ці мо крышку напусціць, а дзе яшчэ адну зашыўку зрабіць, каб пасля, калі падрасце, распусціць?.. Ды нашто шыць навырост! — Ягорка здзярэ новыя нагавічкі раз-два, калі дзе на штосьці не напарацца, праз штосьці пралазячы, то парве невядома дзе. Бо з Ягоркам-непаседам не зраўняецца ніхто, такі ён жвавы, хуткі шалапут, усюды яго поўна. Аж дзіў, што акуляры на Ягоркавым носе трымаюцца, быццам іх там хто прывязаў.**

**— Дайце мне, бабуля, іголку. І я хачу навучыцца шыць.**

**— Спачатку скроіць трэба, тое, што сшываць хочаш. Можа, пашый штосьці Аленчынай лялькі? Сукеначку, скажам, ці хвартушок.**

**— Яшчэ мне лялькамі займацца!**

**— Можа, будзеш кравец знакаміты, праектант... Чуў, у Італіі, у такой Францыі, найлепшыя краўцы — мужчыны. Гэта ж не лялькамі бавіцца...**

**— Не марочце, мама, галаву хлапчуку, — азваўся да цешчы Ягоркаў тата, які пасля працы ўзяўся рамантаваць лямпу. — Трэба каб мужчына машынамі займаўся, дамы будаваў, на самалёце лётаў... Я марыў стаць пажарнікам ці паліцыянтам. Цяпер, вось, я — будаўнік...**

**Ягорка азірнуўся на тату, закруціўся, пасля бачком падаўся ў другі пакой. Бабуля Зося спакойна кончыла перашываць на машыне летнюю сукенку суседцы, якой, патаўсцелай, трэба было ў адзенне ўставіць клінкі. Атрымалася выдатна — і выгадна, і прыгожа.**

**— Ідзі сюды, бабуля! — клікнуў Ягорка з другога пакоя. — Я табе сукенку скроіў! Ужо сфастрыгаваў, мераць будзем!**

**І Ягорка накінуў на бабулю доўгую шату з квяцістай заслоны.**

**— Ой, укалоўся! Без напарстка шыў!**

## ІМБРЫК, ЯКІ ХАЦЕЎ ГАРБАТЫ

**Быў сабе ў дзеда з бабай фарфоравы імбрык. Казаў на сябе: „Я — імбрык з парцаляны!" Часам мусіў тлумачыць: „Хочаш гарбаты? Хочаш? І я хачу! Насып, налі кіпню! Налі!" А калі насыпалі, налілі гарачай вады, з задавальненнем ціха булькаў і заварваў моцную гарбату. Па адной лыжачцы на шклянку, лыжачка на імбрык, вады — можна аж пад самую шапачку, ды каб не пераліласся цераз дзюбку. Ды хто цяпер ведае, у чым смак гарбаты! Хто можа ведаць, чаго хоча харошы парцалянавы белы імбрычак з незабудкамі на круглым баку і ў капялюшыку з вушкам! Лісце гарбаты сыплюць, чуеце, у шклянку, заліваюць вадой — і ўся справа. Або, не дай бог, укідаюць у шклянку папяровую торбачку з перамеленым ледзь не ў пыл чайным лісцем! І тая торбачка мокне ў шклянцы, і вада набірае колеру гарбаты! Цьфу, праўда, ці гэта не кашчунства! Гэта мае быць напой з некалькітысячагадовай (само слова якое доўгае!) традыцыяй?! Які пілі манархі! А парцаляна была даражэй за золата! Колькі каштаваў бы ён, наш імбрык, скажам, з семсот гадоў таму? Столькі ж золата, колькі сам важыць! Бо выраб кітайскай парцаляны трымаўся ў вялікай таямніцы, за здраду якое майстры маглі пакласці галаву!**

**Доўга стаяў імбрык у бабуліным буфеце. А бабуля Наталля кудысьці прапала! Стараўся не думаць імбрык якраз пра бабулю... Ну, што там! Бабуліна заданне — выціраць пыл з посуду, наліваць гарбату, ставіць на стол та-**

**лерачкі з пячэннем… З варэннем малінавым… Калі б у імбрыка быў язык, дык аблізаўся б… А бабулі няма так доўга… Няма і няма. Дзядуля Мікола робіць сабе гарбату проста ў шклянцы. Ну, гэтыя мужчыны! — імбрык, хоць і сам Спадар Імбрык, як у думках думае пра сябе, адчувае, што якраз не яны трымаюць традыцыю на ўзроўні… Каб стол быў накрыты, трэба пакласці накрухмаленую белую настольніцу… Так, абрус іначай. І каб кветкі былі ў вазоне. І каб дзеці… А тут дзедавы і бабуліны ўнукі не прыязджаюць, сухое бадылле тырчыць у збанку… І дзед Мікола сумны, ссутулены, сёрбае карычневую цёплую вадкасць, толькі падобную на гарбату, і, здаецца, штосьці ў шклянку капае яму з вачэй… Імбрык выхільваў свой носік з буфета, бліскаў пукатым бокам, ды дзед Мікола, хоць на носе трымаў акуляры, не заўважаў ягоных старанняў. Нельга ж так не паважаць імбрыка! „Вось зусім без гарбаты высахну! Трэсну папалам! — стагнаў у сваіх парцалянавых вантробах імбрык. — Калі сёння дзед Мікола не заварыць ува мне гарбату, памру! Я хачу гарбаты!”**

**І раптам у адну нядзелю дрыжачымі рукамі дзед Мікола рассунуў шкляныя дзверкі буфета. Панёс імбрык на кухню. Імбрык радасна прымаў на сябе гарачы душ з крана — дзед Мікола памыў яго старанна, выцер. Прапаласнуў імбрыкава нутро кіпнем. Пасля насыпаў пяць лыжачак чаю „Юнан”. Улюбёнага, бабулінага! Пяць лыжачак: на дзядулю, на бабулю, што з бальніцы вярнулася, на імбрык, і на двух унукаў, што прыехалі на свята. Імбрыку стала горача ад шчасця.**

## ЗАКАХАНЫ ДАШКОЛЬНІК

**Ці можна закахацца, быўшы ў дзіцячым садку? Чаму ж і не — як кажуць, „любві ўсе ўзросты падуладны”. А калі нахлынуць пачуцці, дык і расказаць хочацца камусьці пра аб’ект кахання. Які ён цудоўны, прыгожы, добры, адметны — таму і пачынаем кахаць кагосьці, што абраннік ці абранніца нас чымсьці заваражылі. Калі не камусьці расказваеш, дзелішся пачуццямі, дык стараешся**

пераліць свае думкі і мроі на лісток паперы. Таму тады паяўляецца шмат паэтаў. Няважна, ці ўдалыя будуць літаратурныя спробы, яны — важныя перш за ўсё для аўтара. Шкада, што тыя творы найчасцей не захоўваюцца. Гэта — самая цудоўная памятка з часу, калі завязваюцца першыя пачуцці ды страсці.

І, вось, адзін хлопчык з беларускага садка закахаўся. Вельмі спадабалася яму Кася. А ці яна яму? Прызнаўся бабулі. А бабуля ў смех: „А ты што, унучачак, уздумаў у свае шэсць гадоў?!” А гэта і не смешна. Кася прыгожая, разумная, рашае задачы з нулявога класа як мала хто... І моцная. Праўда, у гэтым садку дзеці вельмі ветлівыя, але калі б што — ніхто Касі не падскочыць. А ўсе дзяўчаткі быццам бы больш смелыя ад хлопцаў. А як пачаць размову з Касяй? Яна ж і вышэйшая за яго... Мабыць, на дзяжурстве, будуць разам, неяк трэба пачаць размову...

Прыйшла мама па сыночка ў садок, чакае дзяжурных, каб паклікалі яго з паверха. А дзяжурных няма. Ужо пару мам ды бабуль стаіць, і дзедка адзін, чакаюць, а ніхто не бяжыць з паверха і назад, каб паведаміць, хто прыйшоў па дашкольнікаў. Урэшце з паверха сталі памаленьку спускацца двое дашкалят, з павязкамі на рукавах „Дзяжурны”. І быццам бы нікога наўкол не існуе. Размаўляюць. Асабліва хлопчык ідзе ашаломлены, трымаецца за парэнчу ўсходаў. І раптам пусціўся, ухапіў дзяўчынку за ручку. Спалохаўся, пусціў...

— Дзяжурныя!!! — закрычалі мамы з бабулямі ды дзед Валодзя.

Дзяжурныя апрытомнелі, узяліся за свае абавязкі.

— І як, адважыўся?.. — пацікавілася мама, якая зусім не смяялася з пачуццяў сынка.

— Ага! Мы размаўлялі аб „Пакемонах”!

# ЖОЎТАЕ КАЧАНЯТКА

У краме з цацкамі на паліцы, сярод іншых гумавых цацак, стаяла жоўтае качанятка. А як яно доўга тут стаяла! І ўдзень, і ўночы марыла аб тым, аб чым могуць марыць гумавыя цацкі для малечаў — каб хтосьці ціскаў іх жывоцік, а яны пішчалі б, і каб у ванне паплаваць разам з голенькім ды радасным хлопчыкам і дзяўчынкай. І каб прытулілі іх, і нават хай бы і кусалі б іх маленькія востранькія зубкі... Няхай, хоць і баліць... Гэта ж так прыемна, калі з табой забаўляюцца... Калі цябе кахаюць... Мо скажаце, што качка, гумавая, не думае, не адчувае? Ну, бо што ў нутры такое цацкі? Што? Паветра? Ні мазгоў, ні душы, ні сэрца... Адно паветра?.. Няпраўда! Наша качанятка марыла, цярпела, сумавала... І ягоны жоўты сакавіты колер гумавых пёрак, і вялікія, як ува ўсіх цацак, вочы палавелі, чахлі... Як і гінула качаняткава радасць, што хтосьці яго купіць... Што забярэ дамоў, што будзе цешыцца, піскаць, плюхацца з ім... З паліц і картонаў зніказі іншыя цацкі, не толькі электронныя, крыху страшнаватыя ды ганарыстыя, але нават і іншыя гумавыя, звычайныя козлікі, мішкі, пеўнікі, лялькі, малпачкі... Мо ніхто не бачыў качанятка, якое, як сонейка, свяцілася наверсе паліцы? Трэба будзе ніжэй саскокнуць...

І сабралася ў сабе качанятка, уздыхнула на ўсю сваю качыную душу, і скокнула, ды так далёка, што пакацілася аж да самых дзвярэй, паддзыгнула на парог і... апынулася на вуліцы!

А па вуліцы, прынюхваючыся да ўсяго, бегла худая бяздомная сучка Нюся. Не думала пра свой голад; шукала што-небудзь паесці для сваіх траіх дзетак: пакінула іх сярод скрынак і бочак на падворку на канцы вуліцы, піскуноў каханых, што ім ужо вочкі пралупіліся... Такія цудоўныя дзеткі ў Нюсі, ды так есці хочуць... Мама худая, малака мала прыносіць, а ўжо і костачкі ім хочацца... І пруцца ўжо са сваё бочкі на вуліцу — там так цікава... І небяспечна, не дай Бог... Глянула-нюхнула Нюся, што гэта ж не мясная крама, дзе часам трапляліся ёй костачкі... Але што гэта тут такое жоўтае ляжыць?.. Схапіла Нюся качанятка ды панесла дзеткам: няхай забаўляюцца, пакуль маці паесці што знойдзе...

— Гэта можна ўкусіць? — запытаўся Рыжык. — Гэта нежывое? А чаму пішчыць?

Малечам спадабалася гуляць качаняткам. Яму таксама, хоць вострыя зубкі ціскалі яго ды шчыпалі. „Ці гэта тыя дзеці, якіх я чакала?” — думала качанятка, сцяўшы сваю гумавую дзюбку ад болю. Нядоўга цікавіліся шчаняткі цацкай — не была яна смачная, як костачка. Калі мама прынесла паесці, яны і выкінулі качанятка з бочкі. Не паспела яно перадыхнуць, як да бочкі падбег парсючок Брудны Бачок, ухапіў яго ў запэцканы лычык і панёс у хлявок, да сваіх мурзаценькіх братоў і сясцёр. Тыя з радасцю накінуліся на качанятка. Тузалі яго, качалі па пяску ды гразі, торкалі ў ямкі, пад кусты... Праз дзірку ў плоце свінка Жоўтая Шчацінка, крыху больш акуратная ад іншых, панесла качанятка па лузе, па беразе, аж да самае рэчкі. Там прапаласкалася сама і памыла качанятка. Заглядзелася ў скаламучаную ваду — надта ж сабе спадабалася, бо свінка Жоўтая Шчацінка лічыла сябе прыгажуняй. А пра качанятка і забылася, — рохкаючы ад задавальнення, пабегла пахваліцца маме, якая харошая ў яе дачушка...

Аддыхалася качанятка на беражку, ды нядоўга ляжала. На рэчку прыбеглі два хлопчыкі — Міхась ды Юрка. Праўда, матуля загадала ім не купацца — надта ж нячыстая вада стала ў рэчцы... Ды хоць паглядзець хочацца... Сталі хлопчыкі на беразе, узіраюцца ў ваду...

— А гэта што такое? — засмяяўся Міхась. — Качка, ды чаму ж яна не плавае?

— І якая яна брудная... — Юрка ўзяў качанятка ды прапаласкаў у вадзе, бо ж свінка Жоўтая Шчацінка, хоць і старалася, ды ж не зусім памыла цацку. — Прыгожая качачка такая, паглядзі! Трэба яе пяском вышараваць, бо зусім бы з парасятамі качалася...

Занеслі хлопчыкі качанятка сваёй сястрычцы Натальцы. Жылі яны з мамай небагата, дык і цацак у іх шмат не было. Умелыя ручкі былі ў дзяцей — пазнаёмілася качанятка з чалавечкамі, машынамі, самалётамі, якія зрабілі дзеці самі. Яго таксама памалявалі, падвялі паблеклыя вочы, і стала яно такім прыгожым! — нават з фабрыкі выйшла яно не такім! Ды якое было цяпер шчаслівае гумавае качанятка!

# МЯЖА

Дала мама Анютцы і Касі свой загон у агародзе. Дачакаліся! І вясной падзялілі яго пароўну. Пасярэдзіне паставілі калочак: вось, мяжа. Кожная будзе займацца сваёй паловай. Загончык невялікі, не араў яго дзядзька Мікола плугам, і трэба было брацца за рыдлёўку ды матычкі. Ды хутка кінулі прылады дзяўчаткі — патаміліся. Працу кончыла за іх мама. Ды сеялі ўжо яны самі: парабілі радочкі, насыпалі з торбачак насенне, засыпалі... На палачкі начапілі торбачкі, каб было відаць, што пасеена, пакуль вырасце. А сеялі і моркву, і пятрушку, і пастарнак, і кроп, і цыбулю... Фасолю, гарох, гуркі... І настуркі ды наготкі, каб прыгожа было. Калі вылузваецца ўсё з зямлі — пакуль што ўсё на сябе падобнае, а падрасце — па лісточках пазнаць можна, дзе гарох, дзе морквачка... Ды разам з усім гэтым расце лебяда ды макрыца... І іншае пустазелле, якому з вясной таксама хочацца расці, гнацца да сонца. А і густа пасеяная гародніна распіхаецца, кожнае каліва б'ецца за доступ да святла і ўрадлівай глебы.

Палоць, значыць, трэба. І перарываць. Узялася Анютка за сваю палову градкі. Прапалола роўна да калочка на „мяжы". Згіналася, карпела над зелянінай — прарадзіла радочкі. Вырванае зелле занесла ў скрынку, на кампост. А Кася ў той час гуляла на камп'ютэры: няма чаго спяшацца гаспадару — у яго само расце. Улезла праз два тыдні на градку — і не разабрацца, дзе гародніна, дзе пустазелле, усё пераплялося. Зматлашыла ўсё абы-як. Таксама да калочка на мяжы.

Анютка амаль штодзень заглядала на загон. Палівала, рвала зелле, узварушвала глебу. Роўна да мяжы. Ды сэрца балела гледзячы на буяючае зелле на другой частцы загончыка. Вырвала памежны калочак, занялася Касінай градкай.

— А дзе мой калочак?! — узлавалася пад восень старэйшая сястра.

— І калочка няма, і плён увесь мой! — адказала Анютка.

## КАМЕНЬ

**Ля звілістай дарогі ў суседнюю вёску ляжаў напалову ўрослы ў зямлю камень. Цікава — адкуль такі ўзяўся: шэры, з ружовымі пражылкамі, са срэбнымі бліскаўкамі, чорнымі і зеленаватымі крапінкамі, калі наўкола — пясчаная нізіна з упадзінамі, дзе-нідзе — пакаты пагорак. Побач гэтага каменя найменш два разы ў дзень праязджаў на ровары Міхалка — у школу ды назад, і часта затрымліваўся побач, апіраўся аб яго, і ўзіраўся на ўзоры мазаікі розных парод, якія прырода ўкачала ў валун.**

**— Гэты валун — волат! — сказаў Міхалку прадзед Костусь.**

**— А скуль ён тут узяўся?**

**— Прыкаціўся.**

**— Ты што, дзедка! Ён жа ж нерухомы. І цяжкі! Бачыш, урос у зямлю.**

**— Урос, бо доўга ён тут ляжыць.**

**— Доўга? Так доўга, як ты жывеш? Пэўна, памятаеш, як сюды прыкаціўся.**

**— Ніхто з нас гэтага не памятае. Ніхто з людзей. Гэта з ледавіком з поўначы ён прыйшоў.**

**— Дык адкуль людзі ведаюць?**

**— З навукі.**

**— Дык ёсць навука і пра камяні?..**

**Расказаў дзед Костусь і пра геаграфію, паказваючы Міхалку, адкуль ледавік ішоў. „Геа" — значыць, зямля. Гэта першая частка складаных слоў, якая абазначае: звязаны з зямлёй, з навукай аб Зямлі. А ёсць і такія навукі: геахімія, геадэзія, геафізіка, геабатаніка...**

**— Геалогія — навука аб будове зямной кары, аб пошуках радовішчаў карысных выкапняў.**

**— А наш камень карысны? Ляжыць сабе... А гэтыя крамяні, якіх поўна на полі?**

**— Гэта вельмі цвёрды камень, які першапачаткова ўжываўся для высякання агню. З чаго, пытаешся, складаецца? З крэмнію, як большасць такіх парод. Ды сярод такіх камянёў не толькі крэмень, а і кварц, і аметыст, і горны хрусталь...**

**— У цёці Юлі ёсць пярсцёнак з аметыставым вочкам, і глыба горнага хрусталю, ды яны ж празрыстыя! Зусім да нашага каменя непадобныя!**

— А на крэмнію апертая ўся сучасная навука, камп'ютэры...
Міхалка, едучы са школы ўжо амаль на прыцемках яшчэ раз затрымаў свой веласіпед каля маўклівага валуна. А ноччу прысніўся яму ледавік. Ён упарта сунуўся з поўначы, засыпаў даліны старажытнымі сваімі дзецьмі.

## КАМЕНЬЧЫК

Хто заўсёды на сваім месцы? Той, хто нікуды яго не пакідаў. Нікуды не хадзіў ды не ездзіў. Сядзіць ці ляжыць на месцы, бо сам не зварухнецца. Ну, можа толькі ўвысь падымецца ці перасунецца, выпхнуты іншай сілай. Гэта камяні. Нараджаюцца ў зямлі, крышацца... А некаторыя растуць. Вось, кажуць, нават каменныя крыжыкі з зямлі, быцца расліны нейкія, дастаюцца, падымаюцца. Гэта, людзі кажуць, цуд нейкі. Людзі пасля паломнічаюць да такога каменя-крыжа, што, бывае, выдзяляе міра. Ды большасць камянёў — простая. Разгадаць іх можа толькі спецыяліст-геолаг, які разбіраецца ў іх складзе. На выгляд кожны пазнаць іх можна — дзе граніт, дзе кальцыт, дзе базальт...

Марынка любіць камяні. Куды не ідзе, куды не едзе, заўсёды прывязе памятку. Бывае, што з экскурсій не прывязе „нічога талковага", як смяецца старэйшы брат Адам, а кучу каменьчыкаў. Яшчэ каб знайшла нейкі дыямент! Хоць горны крышталь! Калі паставіш, напрыклад, такі горны крышталь у сваёй хаце, дык адразу папраўляецца настрой усім сямейнікам і гасцям, а ніякі зламыснік не зойдзе. А ў гэты раз, быўшы над Нарвай каля Рыбакоў, у раскапанай гары са жвірам знайшла дзяўчынка дзіўны камень. Не, звычайны шэры каменьчык, але з яго спаглядаюць вочы. Дзе бы ты не быў у пакоі, яны за табою сочаць. Адаму няёмка. А Марынцы — прыемна адчуваць на сабе тыя жоўтыя вочкі, быццам цёплы прамень казытаў па спіне, зазіраў пад твае павекі.

— Схавай гэты камень! Я спакойна не магу рабіць урокі! — не стрываў аднойчы брат.

— Ты ж казаў, што ён мёртвы. Як мёртвая матэрыя не можа ён жа ж на цябе ўздзейнічаць, — іранізавала Ма-

рынка. — Хай ляжыць. Калі не хочаш жыць у адным пакоі з ім і са мною, дык перасяляйся.

А пакой Марынкі і Адама зрабіў быў тата на падстрэшку. Аграмадны, на ўсё гарышча. З косымі сценамі. Светлы, бо ў даху тата зрабіў пахілыя вокны. Хапае месца на іх двое. Але і сястры, і брату ў ім, здаецца, зацесна разам. Няма дня, каб не пасварыліся. Ну, дык хай так будзе: Адам зойме пакой дзедкі, пусты цяпер, а Марынка застанецца. Будзе паняй! А калекцыю сваіх камянёў раскладзе па ўсім пакоі. Такая плошча! А і Адась, здаецца, рады... Што з малечай сварыцца дзень у дзень! Большы спакой у хаце!

Праўда, ціха стала на падстрэшку. Прыйдзе дзяўчынка са школы, зробіць урокі. Уключыць свой малы тэлевізар. Прывядзе сяброўак. Брата не відаць, пэўна, таксама цешыцца воляй і прасторай... Ды чаму каменныя жоўтыя вочы глядзяць на Марынку цяпер з такім папрокам? І робіцца ёй няёмка, бы хтосьці чужы пасяліўся ў яе аграмадным пакоі?..

Зышла Марынка да Адама, што калупаўся якраз у разабраным старым радыёпрыёмніку.

— Сумна мне з гэтым каменем... І без цябе таксама.

## ДЗЕД І БАБА

Дзед Андрэя і Юдыты працуе камінарам. Дзед Адась не такі ўжо стары дзед — ці маглі б вы ўявіць, каб які нямоглы дзядуля скакаў па дахах, у каміны заглядаў ды іх чысціў? Хто смяецца, што такая праца, перш за ўсё брудная ды непрэстыжная? Цяжкае слова? Ну, хто не шануе дзеда Адася? Такім дзедам можна толькі ганарыцца. Да таго ж дзед Адась прыносіць шчасце. Тады, убачыўшы камінара, трэба ўхапіцца за свой гузік. Ах, шчасце патройнае прыносіць дзед Адась-камінар, калі яго ўбачыце: мала, што ён носіць на носе акуляры, да таго ж у яго рудыя валасы. Значыць, ідучы на экзамен ці афармляць важную справу, убачыўшы рудога камінара ў акулярах, поспех гарантаваны! Ну, дык як не цешыцца такім у вас дзедкам?

А бабка Анютка працуе ў пякарні. Праца, кажа, чыстая — зусім не такая, як у дзеда Адася. Мука белая, булкі румяныя — дзе тут да дзедавай сажы! Ды без каміна — як тыя булкі спячэш? Без агню? Праўда, ёсць у бабкі Анюткі ў пякарні і печкі электрычныя, але найлепшыя булачкі, найсмачнейшы хлеб — той традыцыйны, спечаны на дрывах. Ёсць у бабкі Анюткі такія цікавыя хлябцы: печаны на аеры, на кляновых ці капусных лістах. Яны і даражэйшыя, ад звычайнага. Андрэй і Юдыта, нават заплюшчыўшы вочы, адрозняць смакі бабуліных выпечак. А яшчэ ёсць і здобныя булкі, халкі, булачкі з зернем розным, з макам. Калі яшчэ не лічыць салодкіх пячэнняў... Сама бабка Анютка, хоць гурманка, сама зашмат не есць мучнога: была б яшчэ больш кругленькая, калі б каштавала хоць крышачку кожнага вырабу. Хоць бабуля ды пякарка, усё ж, трэба клапаціцца аб фігуры!

А як выйдуць разам на якое свята, а нават спецыяльна ў такі дзень, калі ўва ўсім горадзе экзамены, каб шчасце і адвагу навеяць усім хто іх убачыць — руды камінар у акулярах дзед Адам і ў белым адзенні пякарка, чорнавалосая бабуля Ганна — дык, вядома, шчаслівыя ўсе. А найбольш — Андрэй і Юдыта. Бо ў нікога такіх дзедка з бабкай няма!

А ў сапраўднасці — усе нашы дзедкі ды бабулі — самыя-самыя ў свеце!

## БОБІК І КАНІКУЛЫ

Колькі часу марыла Анютка аб сваім сабачку! Хай нават зусім маленькім, беспародзістым, або шматпародзістым, як смяяўся тата. Але ці гэта быў бы сабака-медаліст, ці звычайны цюцька з закрунутым абаранкам хвосцікам, трэба ім займацца. Сабаку ў горадзе нялёгка, асабліва калі жыве з сям'ёй у шматпавярховым доме. І не набегаешся на пагадку, і не пашнырыш там дзе цікава ўволю. З чужымі дзецьмі не пагуляеш, з іншымі сабачкамі. А так, калі веснавы ветрык падзьме — кожны бег бы куды вочы глядзяць, цешыўся б жыццём... А і раніцай уставаць трэба, каб сабаку вывесці на вуліцу, і поз-

на ўвечары... Вядома, што гэта не Анютка будзе рабіць, а тата ці мама. Дык тату гэта не даспадобы. Тата працуе. І мама працуе, і дома ўсё робіць, ды тата, мабыць, не так маміну працу бачыць, як сваю, і сваю стому таксама. Дык на маму, як заўсёды, пайшоў бы гэты абавязак — займацца і сабакам. І мама махнула рукою: а хай і будзе гэты твой, Анютка, цюцька.

Бобік, руды шчанючок, паводзіў сябе як кожны сабачы малеча. Прабаваў усяго, што трапіла пад зубы — смакавалі яму, здаецца, і абутак, і мэбля, і кніжкі, і дыван!.. Пасля паспакайнеў. Гэта было ўжо перад канікуламі.

Канікулы! Анютка ўсё запланавала. Спачатку — у лагер. Пасля — да бабулі ў вёску. І тата з мамай у гэты час ідуць у водпуск, раптам — у адзін час: у ліпені! А што з Бобікам?

— Трэба Бобіка адправіць у гатэль для жывёл на ліпень. А ў жніўні паедзе з Анюткай у вёску, — вырашыў тата.

— Ой, толькі не сумуй! — прытуліла Анютка сабачку. Той тужліва пазіраў на яе лупатымі вочкамі. І гуляць яму не хацелася, хоць гаспадынька кінула яму гумавую качку, на якую вельмі любіў „паляваць”. Павалокся ў свой кошык, схаваў нос у лапах.

Сабраліся кожны на свае канікулы: Анютка на лагер, тата з мамай на мора. А Бобіка завезлі ў шыкоўны гатэль. Там чысценькія сабакі і кошкі жылі і чакалі сваіх гаспадароў. Бобіку ўласнік гатэля даў акуратную будку з падворачкам, каб меў дзе бегаць, пару каляровых місачак на ежу і ваду. За сеткай жылі іншыя сабакі, усе пародзістыя. У іншым месцы канікулы мелі каты. У гатэль прыехалі на лета нават і папугалі ды канарэйкі!

— Кормім іх добра, — сказаў гаспадар гатэля. — І ветэрынар глядзіць, калі каторае захварэе.

Вядома, такія канікулы каштуюць. Заплаціў тата за Бобікавы „вакацыі” і кожны з сям’і раз’ехаўся ў свой бок.

Усе, і Анютка, і тата з мамай, вярнуліся загарэлыя і вясёлыя. А Бобік... І не галадаў жа ў гатэлі, і не хварэў, а схуднеў, аж ягоная рудая як морква шэрстка зусім паблякла. Сядзеў асалавелы пад сваёй „дачай”. І быццам бы здзівіўся, што па яго прыехалі.

— Мы ж цябе не пакінулі назаўсёды, Бобік! Паедзеш цяпер са мною да бабулі!

Сабачка яшчэ, здаецца, не верыў у сваё шчасце, калі ўся сям’я, разам, ехала на машыне дахаты.

# КАШТАН

**Успалымнелі лісты на дрэвах. Гарацъ так шчыра, цешацца, быццам толькі для гэтай хвіліны стараліся ўсе дрэвы ад вясны да восені. А дрэвы ж і плады на сабе вырошчвалі, і насенне — такое, якое належыцца, паводле віду. А восеньская феерыя — развітанне са светам перад зімовым сном. Таксама радасць, бо ж не смерць гэта, знішчэнне, а сон толькі, спачын. А лісты, апалыя, не зусім таксама прападаюць, бо буцвенне — таксама пачатак жыцця, іншага — і лістовага, і ўсіх стварэнняў, якія там жывуць, у зямлі, у парахне і нават гразі, у кругавароце змен.**

**А каштан, што рос за школай, раптам восенню... заквітнеў. Праўда, выпусціў няшмат кветак, але яны, на дзіў усім, ружавелі (якраз такі колер кветак меў гэты від каштана паміж брунатнымі лістамі і калючымі „шапачкамі", з якіх вылузваліся бліскуючыя карычневыя каштанчыкі з бледным вялікім вокам, з якога пасля, калі плод каштана знойдзе добрае месца ў зямлі, выпусціцца корань. Якое цуда! Прыехалі нават фотарэпарцёры, каб зняць гэты дзіў ды паказаць у газеце. А каштан нерады — гэта не ад нейкай прыроднай анамаліі здарылася яму не ў час заквітнець, а ад шкоднай мушкі. І сама мушка ні ў чым невінавата — яна жыве, як такой мушцы належыцца, а есці ж трэба... Увініцілася была яна была ў пазушкі лістоў, нарабіла непаладак у натуры... А бедны каштан, не ведаючы, што робіцца, выпусціў кветкі. А тыя кветкі не дачакаюцца сваіх дзетак — падзьме халодны вецер, усе лісты ападуць на зямлю, усе каштаны выпадуць са сваіх калючых домікаў... Голы каштан засне.**

**Адась думаў пра ружовыя кветкі, якія неўзабаве ападуць на дол. Хутка пабег дадому па фотаапарат. Доўга прыцэльваўся фотааб'ектывам, каб як найлепш у кадры паявіліся кветкі, незаслоненыя лістамі і голлем. Фотаплёнка каляровая, павінна ўвекавечыць прыгажосць гэтай незвычайнай хвіліны ў жыцці дрэва... Пасля, выкадраваўшы карціну, з галоўнымі героямі дня, націснуў кнопку. Пстрыкнула, у апараце зашумела катушка з фотаплёнкай. Адась накіраваў фотааб'ектыў на калег, што стаялі з разяўленымі ратамі, на фотарэпарцёра-прафесіянала. На будынак школы, што ззяў каляровым дахам пад цёплым сонцам.**

**Гэтая восень не забудзецца.**

# КОНІКІ

У цёці Элі цікава, асабліва летам. Толькі не думай, што будуць табою займацца, госцем такім, што на канікулы „пад ігрушу" да сваякоў вясковых зваліўся. Тут табе не „ўчасы", як кажа бабця Маня, мама цёці Элі і Касінай мамы Настусі. Тут летам кожная хвіліна дарагая. Праўда, не так, як калісь. Цяпер, вось, жніво зробіць камбайн, а бабця Маня памятае час, што і серпікам даводзілася паджынаць і жаць, і за касою ісці, збіраць збожжа ў снапы. Сёння мала хто і жняяркай карыстаецца, і снопавязалкай, якая снапы сама звязвае моцным шнурком — толькі снапы стаў у дзесяткі-„ляшкі". А за — камбайнам і снапоў няма, толькі пакеты саломы. Затое не трэба пасля малаціць, складваць салому ў акалотах — аграмадных снапах, напрыклад, на дошках у аборы над каровамі ці ў клуні...

А ў цёці Элі кароў мала, затое коней — ледзь злічыш. Асабліва калі выбегуць на падворак і дурэюць. Самавітыя, здаровыя коні сакольскае пароды. Амаль усе кабылы, бо цёця Эля гадуе самак. І жаробчыкі ды кабылкі. Не злічыш — бягуць, закідваючы задамі, гігікаюць, пырхаюць, цалуюцца, цешацца... Злічыш, калі цёця Эля пачне іх называць па імені: Каштанка, Кукалка, Каруся, Куба, Крыпі, Краля, Кузя, Крамёнка, Куля, Кама, Куна, Кінгі, Карта, Кока-Кола, Краска, Крэда, Курса, Кося... Усе кабылкі пародзістыя, і, як бачыце, імя ў іх на адну літару. А калі народзіцца жарабятка, атрымае клічку таксама на „К". Запіша цёця Эля жарабятка ў спецыяльную кнігу, выдасць пашпарт, дзе напісана, хто ягоныя бацькі, адкуль яно родам... І калі пойдзе ў свет, будзе вядома, што конік ці кабылка ўзяліся з гадоўлі пані Альжбеты Зелянкевіч.

Значыць, памагаць трэба. „Хто не працуе, той не есць", — цытуе бабця Маня філосафаў, якія запісалі гэту народную мудрасць. І Кася стараецца, дзе можа — праполвае ды палівае агарод, укопвае маладой бульбачкі на абед, рве у бульбоўніку зелле для свіней... Памагае бабулі варыць есці... А найбольш цікава пры конях. Ды не да кожнага падыдзеш — брыкаюцца. Толькі Кінгі ласкавая, сама падыдзе, пацалуе храпай у тваю выпалавелую ад сонца макаўку. Дае пачухацца, пачасацца. Ды гэта не поні ці іншы, звычайны, конь! Здаецца часам Касі, што ён — як слон! Высокі,

**шырокі! А найшырэйшая — Крамёнка. Носіць у жываце жарабятка. Крамёнка „жаробная”, кажа цёця.**

**— Вось, будзе табе ўзнагарода за падмогу, — сказала аднойчы ранкам стомленая ды вясёлая цёця Эля. — Сёння Крамёнка ажарабілася.**

**— А каго нарадзіла?**

**— Катарынку!**

**Кася засмяялася: вось, і цёзка!**

## КНІЖКА-ВАНДРОЎНІЦА

**Згубіла Кася кніжку. Не падручнік, бо ж ён „заўсёды пад рукой”, ужо з назвы вядома. Ды ў Касі мала што не прападае! Усё пасее! Бабуля нават называе яе „Рассеянай”. Добра, што кніжка была не з бібліятэкі! Але ж падарунак, ад цёці Алінкі... І не дачытала яшчэ гэтага зборніка апавяданняў Алеся Макарэвіча Кася да канца. А пад канец трапіліся найлепшыя, найбольш займальныя. Нават пра каханне! Чытала ў аўтобусе, едучы ў школу. І тут, раптам, выходзячы з салона, пакінула на сядзенні. Калі б яшчэ быў гэта аўтобус школьны, дык вядома, у каго пытацца пра згубу. А хто ў Беластоку ехаў пасля Касі? І ці ўвогуле заўважыў невялікую кніжачку! А, нават калі і заўважыў, не пацікавіўся, альбо і выкінуў, не дай Бог, у сметніцу?! Невядома! Сорамна прызнацца цёці Алінцы, што страціла падарунак. Цёця такая, што і спытацца можа, пра герояў, пра тое, ці кніжка спадабалася. Яна ж не прапусціць ніякай кнігі, нават дзіцячыя чытае, хоць ёй аж 33 гады! Чытала і гэты зборнік, „Жывая душа”, спадабаўся аж да слёз, таму і падаравала яго пляменніцы...**

**А „Жывая душа” не прапала. Знайшла яго вучаніца ліцэя Зося. Прачытала. А пасля наклеіла на вокладцы дзве карткі: „Згубленая кніга” і другую, большую, дзе на самым версе напісала свой электронны адрас. І дапісала, што кніжку знайшла ў аўтобусе нумар 5 у Беластоку. Пасля паклала яе на лаўку ў Звярынецкім парку, загарнуўшы яе ў тоненькі фольгавы мяшочак, каб не змокла на выпадак дажджу.**

**Праз тыдзень Зося атрымала электронны ліст ад пані Любы з вуліцы Антанюкоўскай. Бабуля Люба, пенсіянерка, прачытала кнігу, пачытала ўнуку, падпісалася на ёй, ды адрас унукаў дала, бо ў яго ёсць камп'ютэр, і паведаміла Зосю. А сама „падкінула" „Жывую душу" ў кавярні „Маршанд", калі была на каве з сяброўкай.**

**Наступны быў малады журналіст Пятро. Неяк справіўся з беларускім тэкстам (ягоны прадзед, аказалася, працаваў арганістым на Беларусі), і перадаў кнігу далей...**

**Праз паўгода на Касіным стале ляжаў фольгавы пакунчак. Прынесла яго цёця Алінка і з усмешкай выйшла ў другі пакой, паразмаўляць з сястрой, Касінай мамай. На ўклееных лісточках запісаны былі адрасы — і электронныя, і хатнія, людзей, якіх наведала „Згубленая кніга" „Жывая душа" Алеся Макарэвіча, крышку пастарэлая.**

**Яшчэ раз прачытала, у гэты раз усе апавяданні. Паставіла на паліцу. А пасля выслала лісты да ўсіх чытачоў. А пасля зноў загарнула „Жывую душу" ў мяшочак і выйшла на вуліцу.**

## ЛЯЛЬКІ НЕ СТАРЭЮЦЬ

**У адным Мястэчку жыла дзяўчынка. Тата яе быў настаўнік, а мама гаспадарыла дома. Жылі яны ў доме бабулі з дзядулем, якія не былі іхнімі роднымі, але вельмі іх кахалі, бо нікога роднага ў іх на свеце не было — усе яны загінулі на вайне, бо гэта якраз было пасля другой сусветнай вайны. Дзед Антон і баба Аніся былі старэнькімі, і вельмі хацелі, каб тата Янка, мама Юля і маленькая Зося сталі іх роднымі, і каб засталіся ў іхнім доме. А дом той вайна ашчадзіла — гэта была мураванка, у якой калісьці была яўрэйская крама і кватэра крамаравай сям'і.**

**Аднойчы на паддашку дзед Антон, прыбіраючы, знайшоў ляльку. Гэта была прыгожая дзяўчынка з кучаравымі валасамі, у паношанай сукеначцы ў кветкі. Такіх ляляў Зося дагэтуль не бачыла. І іншыя дзеці ў вёсцы таксама — яны рабілі лялькі з анучак, малявалі ім вочы, прышывалі канапляныя коскі. А ляльцы, якую Зося назвала Анютай, мама пашыла новую сукеначку. Памылі яе, расчасалі валасы, падмалявалі алоўкам паблеклыя шчочкі**

і роцік, і стала яна такой прыгажуняй, якія толькі ў казках бываюць! Напэўна, успамінала яна ў сваіх цацачных снах сваю першую гаспадыньку, Гану, якую разам з бацькамі і дзедкам фашысты выгналі з дому і павезлі невядома куды. Чакалі вестак і суседзі ў мястэчку пра іх, але ніхто з яўрэяў не вярнуўся...

Перад смерцю дзед Антон апісаў дом з агародам на Зосіных бацькоў. Але пасля выехалі яны з гэтага дома — і тата з мамай, і Зося, і забралі з сабою бабулю Анісю. Знайшлі працу для таты ў іншым месцы — стаў ён там кіраўніком вялікай школы. А цагляны дом пазычыў мястачковай школе, якая там пасяліла іншую сям'ю настаўнікаў. А Анюту чамусьці забыліся. Можа, сярод пакункаў і заблудзілася яна сама... Пані Малгося, новая жыхырка дома, пакінутыя пакункі закінула на гарышча.

Школа пасяляла ў цагляны дом яшчэ шмат сем'яў. Мястэчка аднавілася пасля вайны, школа таксама разбудоўвалася. Дом зверху атынкоўвалі час ад часу, але рамонтаў на рабілі. Не іх жа дом быў, не ўласны, то каму хацелася брацца за старыя сцены!.. А Зосіны бацькі ездзілі па ўсёй краіне, шукалі шчасця. Зося таксама пакінула іх — стала вучыцца ва універсітэце, стала эканамісткай, выйшла замуж, нарадзіла дачушку, Марысю. Марыся таксама вырасла, закончыла настаўніцкія студыі. Выйшла замуж, нарадзіла дачушку... Бачыце, як той час хутка бяжыць... Стала Марыся шукаць працу. А з працай сёння, як ведаеце, таксама як і з жытлом, цяжка вельмі. І кажа Марысі прадзед Ян, сівы ўжо як галубок:

— У Мястэчку ў нас дом ёсць, наш, ды забылі мы ўжо даўно пра яго. Цагляны, здавайны. Мо стаіць яшчэ... Паедзем, пабачым... Табе яго пакінем, бо каму ж іншаму... Ды на рамонт, пэўна, пойдзе больш грошай, чым ён сам варты... І агарод там быў, харошы, і сад...

Селі Зосіны бацькі разам з Зосяй, унучкай Марысяй і шасцігадовай праўнучкай Мартынкай у цягнік і паехалі ў Мястэчка. А дом стаяў, чакаў іх, счарнелы і сумны. Даўно тут ніхто не жыў...

І Анюта чакала на падстрэшку, запакаваная ў кардонку разам з драбязой, якую забыліся забраць больш пару дзесяткаў гадоў таму... Ды лялькі часу не ўмеюць лічыць...

Узлезла Зося па скрыпучай драбіне на гарышча. Дрыжачымі пальцамі развязала пакунак. Асцярожна знесла

на падворак сваю лальку, якая трапілася ёй у спадчыне ад яўрэйскай дзяўчынкі, што памерла ў канцлагеры. Фарворавыя шчочкі ўсё былі яшчэ румяныя, як іх размалявала ў сваё дзяцінства.

— Гэта Анютка, — працягнула свой скарб Зося сваёй унучцы.

## ХЛЕБ І НОЖ

— Да мяне з нажом?! — пакрыўдзілася буханка белага хлеба і аж зарумянілася яе спечаная скурачка. Хлеб быў яшчэ цёплы, нядаўна дастала яго з печы баба Нюта, паставіла бокам на ільняным ручніку, каб астыў, разам з іншымі буханкамі. Адрэзаць лусту хлеба ўзяўся Коля — вельмі любіў акрайцы, якія хрумсцелі гарачай скурачкай у зубах — самыя смачныя.

Захрумсцеў хлеб, угнуўся ў мяккую сярэдзіну.

— Маладая ты, буханачка, — блісnуў бокам нож. — Адкуль табе ведаць, што хлебам ламацца трэба, па-сяброўску! Па-божаму! Але, калі б усе ведалі, з якой павагай да цябе ставіцца, не меў бы я высакароднага занятку. Але і лусты не былі б роўныя.

— Ай, не калі мяне ў бакі! — хрумснуў хлеб.

— Коля, не еш гарачага хлеба! — махнула на ўнука белым фартухом баба Нюта. — Спякуцца ад таго табе вантробы! Кішкі скрунуцца! А ты хоць яго перажагнаў?

Нож у Колевай руцэ павіс над буханкай.

Баба Нюта адняла нож унуку і набожна правяла яго ўздоўж і ўпоперак кончыкам ляза па румянай скурцы, учыніўшы знак крыжа. Пасля пацягнула па хлебнай скурцы кавалачкам сала, аж заблішчэла — каб мяккая была.

— Ламацца хлебам папраўдзе належыць хрысціяніну, — баба Нюта ўрэзала другую лусту сабе, каб пашмараваць яе свежазбітым маслам, што ляжала гамолкай на талерцы. — Як Хрыстос дзяліўся хлебам са Сваімі вучнямі. Праўда, хлеб гэты інакшы, чым той, прэсны, быў, бо наш на заквасе...

Колеў акраец пах свежым збожжам, ветрам, дубовай дзежай, аддаваў гарачай печчу.

— І я далажыўся да твайго смаку, — упіраўся нож. — Мы, ножыкі, і касілі, і разрэзвалі шнуркі...

— А хай табе і будзе, — выпусціла ўздых са свайго цёплага цела буханка. — Я — добрая, як хлеб. А і ты добры, нож, калі пра цябе добры ўспамін.

— Маладая ты, што ты ведаеш! — не здаваўся нож, хоць баба Нюта накрыла яго ручніком.

## ПАН ЛІСТ

Кляновы ліст, пальчасты, вялікі, цешыўся, павяваючы на цёплым сонцы. Ды неяк салодка-ўтомна яму стала. Ці, можа, сонца тое так на яго паўплывала, што ацяжэў, адчуў сябе нейкім старым, быццам нават і завялікім з усімі сваімі пальцамі, якія пачала фарбаваць восень? На дол яго пацягнула, легчы, адпачыць. Што гэта такое — дагэтуль жа ж, і днём, і халоднай ноччу, пад дажджом і шквалам было яму і нястрашна, і няцяжка? А, можа, гэта старасць пачынаецца? Ды ён жа малады зусім, іншая справа з мамай-кляніхай, магутнай, моцнай — яна магла б сябе адчуваць сапраўды як старэча, стомленая, каравая...

Паплыў сок ад мамы ў лістаў хвосцік, разліўся па ўсіх пражылках.

— Табе не страшна? — зашумела мама голлем. — Не бойся. Будзем развітвацца. Папі яшчэ соку, адчуй маё сэрца. Я вас не забуду, мае вы лісточкі, хоць з вясной вырастуць мне новыя дзеці.

Зажаўцеліся, зарумяніліся ўсе лісты кляновыя ад хвалявання яшчэ больш. Жах іх усе скалануў, хоць супакойваючыя словы матулі дадавалі крыху адвагі.

— Ці мы паміраем?.. — зашамацеў Пан Ліст.

— Нямя смерці! — ускалыхнула кронай мама-клён. — І вы не прападзеце, хоць будзеце іншымі. Не бойцеся!

Завіравалі лісты ў асеннім сонцы, пасыпаліся долу. А людзі ішлі, вялікія і малыя. І думалі пра праміпанне. І пра прыгажосць лісця, якое, здавалася, і для гэтай вясёлкавай хвіліны ўзрастала, спела, і стала ў апошнюю хвіліну свайго ветранога жыцця як сонца, агонь, сэрца...

— Мама, гэты... Пан Ліст — сонца! — радасна закрычала пяцігадовая дзяўчынка, падняўшы яго з травы. — Ён будзе мой!

— Пазнала мяне! Яна мяне пазнала! — успыхнуў колерамі Пан Ліст.

# КАРАЛЕЎСКІЯ МАТЫЛІ

Уся гаспадарка бабы Насці і дзеда Косці — дагледжаная. Невялікая яна ўжо, бо дзед ды бабка немаладыя, не справіліся б з гаспадаркай, якую вялі ўсё жыццё. Абрабляе яе сваяк, а яны ўжо на пенсіі. Нарабіліся! Але ж не будзеш сядзець рукі склаўшы. Пакінулі яны сабе кароўку, свінку, курэй ды гусей, кавалак поля, разбілі там агарод, пасадзілі і бульбу, ды вельмі прыгожы агарод у іх і пад хатай. І кожная пядзя іхнай зямлі дагледжаная. І ўсё расце прыгожа — зямля аддзячвае за старанне.

А ў кутку падворка, за сталодай, як звочыла Ганулька — расце кустоўе. Ды крапіўнік, у якім схаваешся з галавою! Страшны! Жыгучка такая! Ганулька падыходзіла не раз пад тыя страшныя крапівы. Ад іх нагрэтых сонцам лістоў, пакрытых варсінкамі, ішоў дурны пах, ад якога находзілі млосці. А на галінках, пасярод павуціння, было самае страшнае — нейкія пакуначкі, бы бародаўкі, і пасля з іх вылазілі, як называла іх бабуля, кузакі. Страшныя. Ганульчын аднакласнік Міця захапляецца рознымі чэрвямі ды кузуркамі, ды Ганульцы яны здаюцца паскуднымі. Некаторыя аслізлыя, здаецца, тысячавокія ды тысячаногія, іншыя калматыя, а тут, у гэтай крапіве, дык самыя непрыемныя. А ці ім нястрашна лазіць так па тых жыгучых варсінках! Ды чаго там на іх узірацца!..

— Дзедка, чаму ты не вырвеш тае крапівы? — Ганульцы было крыўдна, што дзядуля не дагледзеў непарадку на сваім акуратным падворку. — Ці скасіць яе ды спаліць! Нашто яна!

— А што — кусаецца? — засмяяўся дзед. — Ды не трэба было ў яе залазіць!

— А я і не залазіла! Там страшна! Ну, нашто яна! Сена з яе не зробіш... А там, за стадолай, файна было б гуляць у хованкі! Зрабі там прыгожа!

— Прыгожа? А там жа ж прыгожа! Ідзем, пабачыш! Вазьмі фотаапарат!

Над крапіўнікам кружылі прыгожыя матылі.

— Гэта каралеўскія матылі. Махаоны, інакш пажы каралевы.

— Адкуль яны прыляцелі? — нацэліла аб'ектыў на кружляючую над ёю парачку прыгажуноў Ганулька.

— А яны тут і жылі.
— У крапіве? Я ж іх раней не бачыла!
— Гэта і ёсць тыя паскуды, прычэпленыя да галінак, якіх ты так баялася. Я іхны дом у крапіве спецыяльна пакінуў, каб мелі дзе жыць. Бач, выгадавалі мы ўласных матылёў!

## МЫШКА

Завялася мышка на шостым паверсе ў „хмарачосе" ў Беластоку па вуліцы Вясёлай. Ці не дзіўна? Ці мышка не зможа жыць у шматпавярховым будынку, калі людзі могуць — у такіх клетках з бетону? Людзі на высокія паверхі на ліфце падымаюцца. А як мышка? Забегла? А чаму мышак, канкрэтных мышак, людзі не любяць? У мульціках мышак, такіх як Мікі Маўс, кахаюць, у коміксах — прападаюць за іх прыгодамі, а хай толькі паселіцца мышка ў іх дома ці ў гаспадарцы — ганяюць, ставяць мышалоўкі, напускаюць на іх катоў... Бо ж адна мыш колькі шкоды ў гаспадарцы наробіць! Адна! А калі ў яе заводзіца шмат-шматдзетная сям'я, і ў адзін год тая мышка і маці, і бабка, і прабабка... А ўсё мышынае сямейства раты разяўляе, есці хоча! Дык цягне мышка ў норку зерне за зернейкам, моркву за морквай... А і запас шкоды не робіць. А ў блёку? Дзе тут норку зробіш, як і на чым разжывешся!..

Ходзіць мышка начамі па хаце, мышкуе. Спаць не дае Анютцы, яе маме Люсі, тату Колю, а найбольш бабулі Зосі. Бабуля папраўдзе ўжо прабабка Анютцы прыходзіцца, яна — баба мамы Люсі, з вёскі прыехала. Кажа, што старая, а старым не спіцца ноччу.

— З кім ты ноччу размаўляла? — спыталася ў бабкі Анютка. — Сама з сабою?
— З мышкай размаўляла.
— А яна ўмее па-нашаму? Ці ты, бабулька, па-мышынаму ўмееш?
— Мышыную мову я ведала, як малой была.
— Так? А, можа, і я ноччу пра штосьці ў мышкі спытаюся! Калі выйдзе, разбудзіш мяне, добра?
— Бабця, не дурыце вы галаву малой! — строга паглядзеў на прабабку тата. — Лепш пастаўце мышалоўку.
— Яна сама пойдзе, Коля. Ведаеш, якую вестку прыно-

сіць мышка ў дом? Што прыб'еццa да нас хтосьці.

— Госць? — пацікавілася Анютка.

— Дзіцятка!

— Ой, гэта ўжо занадта! Гэтак пры Анютцы, бабця!

Тут засмяялася мама:

— Мышка мае рацыю!

І праўда, мышка прадказала, што ў Анюткі будзе брацік. Міхаська. А мышка, як прыйшла, так і пайшла. У той дзень, як рассакрэцілі яе місію. Мабыць, у суседні дом па вуліцы Вясёлай... Або і далей.

## ЛЯЛЬКА

Верачка марыла ўсё сваё кароткае жыццё мець цацку. Такую сапраўдную, купленую ў краме, а не зробленую бабай Тэкляй з анучак ці выразаную дзедам Іванам з кавалка драўніны. Такую як тыя, Тамарчыны ці Люсьчыны. Люсьцы лялькі прывозіла з Варшавы яе хросная маці, вялікая, тоўстая, прыгожая пані Вераніка. Такое выдатнае матулькі ніхто з Верчыных сяброў не меў — такое харошае, пекна апранутае і сталічнае. І тыя яе цацкі, пахучыя вялікім светам! Лупатавокія лялькі з пухнатымі вейкамі, у карункавых сукеначках і ў туфельках, якія можна было сцягнуць з пластмасавага ступачка з кругленькімі пазногцікамі. Лялькі мелі і шкарпэткі, і трусікі, а пад сукенкамі — станічкі ды кашулькі! Усё пашыта, як на вялікага чалавека... З гузічкамі, гумкай у трусіках... Такое цуда! Дзе ж Верчынай ляльцы з намаляванай бурачком усмешкай ды вугальковымі вочкамі да такое панюсі!.. Казалі, што Люсіна матулька бярэ цацкі з амерыканскіх пасылак для пасляваенных дзетак.

Ніколі Верачка не дачакалася такое цацкі. Неяк хутка стала вялікай. Памагала бацькам у гаспадарцы, яшчэ пакуль школу кончыла. Хацелася ёй вучыцца далей, ды бацькі не мелі такое магчымасці, каб выслаць яе ў горад. Хутка выдалі Веру замуж — ён не было нават і столькі гадоў, у якія вашы старэйшыя браты і сёстры вучацца ў сярэдніх школах. І стала Вера гаспадыняй, жонкай, маці. Нарадзіла Маню. Сям'я не жыла багата. Вера, якая навучылася добра шыць, сваю дачушку апранала як тую лялечку. І за лішнія грошы, якіх ніколі не было, купіла ёй у горадзе

ляльку... Не вельмі любіла Маня гуляць купнай лялькай, ды і Вера не хацела, каб знішчылі такую прыгажосць. Найчасцей сядзела Агата на падушках на „вялікай” хаце, красавалася. А Вера ў клопатах жыцця быццам бы і не заўважыла, як ейная Манюся і вырасла з таго ўзросту, калі лялькамі гуляеш. Чужыя дзеці хутка растуць... Пайшла Верчына дачушка ў пачатковую школу, пасля ў ліцэй, стала студэнткай... Лялька Агата, выпешчаная, паблеклая, усё сядзела ў салоне, куды мала хто і заглядаў.

Кончыла навуку Манюся, прывезла да бацькоў нарачонага. На вяселлі гуляла ўся ваколіца. Маладая пара пасялілася ў парожнім доме недалёка ад сядзібы Маніных бацькоў. Уся вёска цешылася — маладыя хутчэй пакідаюць родны дом, адлятаюць у свет... Маня стала працаваць у гміннай школе, яе муж Андрэй даязджаў на працу ў недалёкі горад. Нарадзілася ім Юстынка. На пацеху бацькам, бабе Веры ды дзеду Яну...

— Бабулька, злябі мне такую вось ляльку, — папрасіла малая ў Веры, паказваючы свой малюнак. На паперы красавалася чалавекападобная істота. Зусім падобная на тую, што сшыла калісьці з анучак Верачцы баба Тэкля. — Каб прытулялася. Не такую нежывую, што там сядзіць на канапе.

## НОЖ

Нож востры. Нельга яго браць у рукі. Ляжыць на стале ды паблісквае стальным лязом. А ручка ў яго чорная, цёплая. Мацейка дакранаўся да нажа, калі бабуля, седзячы на ўслончыку, здымала ім лупіну з бульбы. На лязе застаўся матавы след ад сырое бульбіны, быццам хто памазаў яго мокрай мукой. У бульбе ёсць такая мука, сказала баба Рэня, крухмал. А нажа лепш не чапаць. Вырасцеш, возьмеш у рукі нож. Нарэзаць хлеб, сыр, нашынкаваць капусту, цыбулю... аблупіць скурку з ябылка.

— Ай, чаму ён кусаецца, пытаешся? — засмяялася бабуля, бо, усё ж, унучак асмеліўся ўзяцца за лязо. — Кусаецца, бо такая ягоная натура. Вырасцеш... Ён і ружжо — і абарона, і атака.

— Мама, — азвалася мама Мацейкі, — не гаварыце зашмат дзіцёнку. І посуд, і набор класці трэба на сушылку.

А вы вы пра такое. Лепш казку збаялі б...

— Казку, кажаш, дачушка, такую, каб не было зла... Ды ў кожнай казцы ёсць ліха і дабро... Ну, не чапай нож, Мацейка! Сапраўды, нам сталe нічога нельга пакідаць, калі ў хаце малое дзіця.

Трохгадовы гадаванец бабы Рэні і мамы Галі з сумам паглядзеў на сушылку, дзе пасля мыцця высыхалі талеркі, шклянкі, нажы, відэльцы, лыжкі і лыжачкі.

— Буду вялікі, дастануся!

Хлопчык заглянуў у місу, у якой мама вялікай лыжкай-відэльцам падкідала каляровы салат — чырвоны ад перцу, аранжавы ад морквы, зялёны ад агурка, светла-зялёны ад капусткі... Пасля накапала туды маянэзу... Колеры сталі лагоднымі, мяккімі. Запахла ружова, млечна-аранжава... На стале завіравала варанае крэмавае яйка — бабуля правярала, ці зварылася ўкрутую. Затрымалася яно каля пукатага, бліскучага, надзьмутага памідора. Нож бліснуў лязом, укаўзнуўся ў чырвоную мякаць. Мацейка аблізаўся — колеры смакуюць!

Пакуль бабуля з мамай упраўляліся на кухні, хлопчык ціхенька пайшоў у пакой, паклаў на стол ліст паперы і каляровыя алоўкі. Як намаляваць... смак?! Салодкі, кіслы... Чырвоны, жоўты, зялёны?.. І халодна-кусачы дотык нажа?

Ой, зламаўся кончык алоўка. Замоцна ціснуў Мацейка на паперу, каб намаляваць смак чырвонага перцу.

— Нож трэба, перш за ўсё, каб з алоўка дастаць колер! — зразумеў Мацейка і пахваліўся здагадкай, заглянуўшы на кухню. Мама з бабай, здаецца, пе пачулі.

— Эх, калі я дастануся да сушылкі... — уздыхнуў Мацейка, пастаяўшы яшчэ хвілінку на парозе.

## ПАМПУХІ

Дзевяцігадовая Мірця і Генюсь, маладзейшы ад сястры амаль на тры гады, застаўшыся аднымі ў хаце, рашылі пагаспадарыць. Пакуль бацькі ды дзед вернуцца з працы, нырнулі на кухню. Заўсёды царыла ў ёй баба Люба, але якраз паехала да другое дачкі. Як ніколі, быў свабодны шлях да бабуліных кухонных таямніц. Бабця, здаецца, з нічога ўмела спячы ці згатаваць такое цуда! Нават бабулін „шэры суп

з бульбянымі галушкамі", які навучылася варыць у Сібіры ў бежанстве, быў найсмачнейшы ў свеце, ці забелены малаком, ці з разведзенымі ў ім скварачкамі з цыбулькай. Бабця з Сібіры прывезла, малой яшчэ быўшы дзяўчынай, і рускія словы. І калі ўнукі ды дзеці са смакам налягалі на стравы, яшчэ падахвочвала: „Кушайце, кушайце!"...

Дастаўшы з буфета тое, што ўдалося, дзеці рашылі спячы „пампухі". Гэта румяныя мучныя аладкі, добра выраслыя, пухнатыя — таму яны і пампухі.

— Трэба так... — пачала Мірця. — Муку. Малако. Соль. Яйка. Цукар. Дрожджы. Ты, Генюсь, бярыся за дрожджы.

— А нашто яны? — калупнуў хлопчык нажом пакецік з сырымі дражджамі. — Неяк дзіўна пахнуць.

— Гэта каб пампухі выраслі. Вазьмі кубачак, укінь туды трохі дражджэй, насып цукру, памяшай... І пастаў каля сцяноўкі, яны любяць цёпла.

— А што, яны жывыя?

— Пэўна так, калі растуць. А я буду муку сеяць...

Аж тры каты — Бронюсь, Мурчык ды Франя пасядалі на лаве, вырачыўшыся на маладых пекароў. Зараз і яны былі абсыпаны мукой, гэтак старалася Мірця. У вялікай місе боўтала яна ўжо ўсе кампаненты, якія, як памятала, трэба на пампухі. У цеста наліла ўрэшце ўспененых дражджэй.

— Ну, пачакаем, як цеста падрасце, — накрылі місу чыстай анучкай і пайшлі ў садок на чарнасліў, які вельмі сёлета ўрадзіў. Там і забавілі крыху.

— Ну, ідзем пліту распальваць, — спахапілася Мірця. — І слівак укінем у пампухі, будуць усім смакаваць.

Над місай уздымаўся купал — цеста падняло ручнічок, а нават і вылезла на стол.

— Нясі хутчэй электрычную плітку, а то зусім нам уцячэ! — пляснула ў ладкі Мірця. — На патэльні нам пампухі не выйдуць! Лаві, лаві іх!

Улілі цеста ў „продзіж", дакінулі слівак. Зверху пасыпалі цукрам...

А яно далей расло! Уперлася аж у шкляную покрыўку печкі. У той час дзецям удалося неяк прыбраць кухню. А ўпартыя каты, седзячы на падаконніку, далей спакойна ўзіраліся, чакалі.

— Ой, што вы нарабілі? — мама ад парога ўчула прыемны пах з кухні. А яна ведала, што чакаць яе можа толькі сюрпрыз.

— Пампухі!

Мама выключыла печку і зняла покрыўку. Перад ёю пукаціўся адзін вялікі румяны пампух у сінія кропкі слівак. А ён раптам зашыпеў, булькнуў, пухкнуў і апаў.

Каты задаволена аблізаліся... Але ў гэты раз дасталася ім „пампуха" толькі па кавалачку. Усе частаваліся і хвалілі эксперыментальны пірог!

## КВЕТКА ШЧАСЦЯ

Няма чаго шукаць кветку папараці, кветку шчасця. Толькі так сабе разбягаюцца па ўзлесках людзі ў купальскую ноч, наскакаўшыся праз агонь, ашчысціўшыся — шчаснай кветкі шукаюць. Каб мары здзейсніліся. Вядома, легендарная гэта кветка, казачная, і , мабыць, ніхто яе і не знайшоў, і не знойдзе. А ў казцы, як у казцы, і падзеі, і героі, і цуды для таго, каб патлумачыць жыццё, сказаць праўду пра тое, што шчаслівы той, у каго ёсць сэрца добрае і сябры. З імі не прападзеш. І шчаслівы ты, калі сваім шчасцем, радасцю можаш падзяліцца...

Усе ведаюць, што папараць не заквітае яркай, райскай кветкай, а мае свае „кветачкі", чорныя значкі, адмыслова выдуманыя прыродай дзеля размнажэння. Але кожны хоча знайсці сваю кветку мараў. Дык бягуць усе ў яе пошуках, з крыкам і смехам, у гарачую купальскую ноч...

Найцікавей шукаць кветку разам. І не так страшна. У гэтае Купалле Юста выбралася з Ялінкай, сяброўкай. Можа і не сяброўка яна, а, проста, аднакласніца. Недалёка, у суседнюю вёску. Юста і Ялінка — ужо ў другім класе гімназіі. Калісьці гэта быў бы восьмы клас, апошні ў пачатковай школе. Юсціна мама кажа, што калісьці восьмы клас — гэта ўжо былі дарослыя людзі. Сама памятае. Але калі дзяўчаты выбіраліся на Купалле, дык прыгразіла пальцам: „Дзяўчаткі, глядзіце!" Дзяўчаткі, дзіцяткі! — калі што, дык не думай сваім розумам, а слухай дарослых!

— Знойдзем свае кветкі шчасця!

— Яшчэ чаго вам бракавала! Не ідзіце толькі ў лес! Панаязджае ўсялякіх, чужых... Трымайцеся вогнішча!

Вядома, калі трымацца гурту, дык будзеш ісці дзе ўсе. А кожны сваё шчасце знаходзіць сам, індывідуальна. Бо шчасце, яно ў кожнага іншае. Дык рушылі, пасля канцэр-

та ды скокаў, дзяўчаткі ва ўзлесак, трымаючыся за рукі.

— Глядзі, свеціцца. Дзе? А вунь там! Свеціцца... Трапечацца! Папараць-кветка! — Юсце аж заняло дых. Паміж галінак мільгала-пералівалася штосьці далікатна-каляровае. Як забіліся сэрцы ў дзяўчатак! Сарваць тую краску, прытуліць да сэрца!

А тут і не кветка, і ніякае не шчасце. У кустах стаяў Петрык, вядомы ў школе як „Няшчасце", якога ўсе мелі за неўдалоту. Ціхмяны, павольны. Маўклівы — як азвецца сярод калег, дык як што ўпора... Праўда, вучыцца няблага, але такі сябра патрэбны толькі для падказак... А ў руках у яго — звычайны пруцік-светлячок.

— А вы нічога і не кажыце! — адважна гукнуў Петрык-Няшчасце. — Маеце шчасце, што мяне знайшлі!

А і праўда! Такога выдатнага сябру адкрылі дзяўчаты! А і яму пашчасцілася! Цяпер іх — не разліеш вадой! І разам у ліцэй выбірацца будуць. У гайнаўскі, беларускі.

## РАМОНКІ

Стаяць амаль у полі новыя жыллёвыя блокі. Крыху адрозніваюцца яны ад тыповых прастакутнікаў, якія ставілі ў горадзе пару дзесяткаў гадоў таму, шэрых, без дахаў, з пушачкамі балконаў. Гэтыя шматпавярховыя дамы нават і каляровыя, і дашкі над усімі імі звісаюць з чырвонае бляхі, і балконы з жалезнымі каванымі бар'ерамі, і кветак шмат на іх... Ды ўсё ж — пустыня, хоць людзей як мурашак у мурашніку. Людзі наўкол пасадзілі кволыя дрэўцы і кусты. А колькі ж трэба часу, пакуль дрэва вырасце! Хлопчыкі ў мяч гуляюць, стукне які ў ствол рабінкі, клёна ці ліпкі, зломіць... Рабочыя зноў раскопваюць толькі што выраслую траву, бо штосьці кепска паклалі ў зямлі, вывалакаюць нейкія кабелі, трубы, зноў завальваюць грудамі перавернутай глебы... Традыцыя! — кажа Ясеў дзед Ігнат. Што за традыцыя, толькі ён ведае. Традыцыя непарадку і працы „абы-як"?

Як бы там ды чаго не садзілі ці сеялі, усё марна расце. Ды рамонкі трымаюцца нават на сухой гліне. Тая ніва залаціста-белых рамонкаў — адна асалода для дзяцей ды пчол. Сярод рамонкаў пратаптаны сцежкі. Не простыя, хоць,

як тлумачыць дзед Ігнат, вельмі лагічныя. Тыя, вырысаваныя архітэктарам, абложаныя плітамі, не заўсёды паважаюцца жыхарамі, хоць роўныя і таксама вядуць да мэты. Пешаходы ведаюць лепш, — смяюцца Ясь і дзед Ігнат, тэпаючы ў краму ці ў пасёлкавы клуб. Бо на новых пасёлках — усё новае, каб жылося лепш. Як зусім новы гарадок — са сваёй школай, поштай... Толькі не ў кожным мікраараёне — столькі рамонкаў, у якіх гудуць пчолы.

Раніцай дзед Ігнат вярнуўся з крамы. Паставіў торбу з малаком ды булачкамі ў кухні на стале ды закурыў. Дзед Ігнат ніколі не курыў у хаце. Папраўдзе, увогуле кінуў быў гэту шкодную звычку, хоць пачак цыгарэт носіць яшчэ ў кішэні. Знерваваўся, вось, запаліў. Ясь босымі нагамі прышлэпаў на кухню, зморшчыў нос ад непрыемнага дыму.

— Прабач, унучак, што смалю, — уздыхнуў дзед Ігнат. — Акно адчыню. Глянь, што робіцца. От, пляга.

Пад блёкамі завіхаліся касцы. Роўна размахваючы косамі, ішлі наперад. За імі ніцьма ляжала скошанае поле непакорных рамонкаў.

## САМАПІСКА

Ну, ніяк не пішацца Міхасю ў нулявым класе! Настаўніца кажа ўсім: бярыце алоўкі і выводзьце літарку за літаркай. У адным радзе па шэсць-сем; тут кольца, тут палачка, тут хвосцік! А, па-першае, не алоўкам хочацца, а фламастэрам ці шарыкавай аўтаручкай. Ды не, аўтаручкай-самапіскай нельга пісаць малым, бо почырк будзе пасля неразборлівы, шарык слізгаецца па паперы і ніяк не выведзеш прыгожае кругленькае ці фасолькападобнае „О" ці палачку з гаплючком, ні носік, ні хвальку, а ўсе літары чамусьці хіляцца ва ўсе бакі, бы чаго кепскага напіліся! Бярэ Міхась аловак, а яму тое кольца выходзіць як бульбачка, а ражок — як пакручаны цвік! А тая хвалька дык расцягнулася ў хвалю амаль на паўстаронкі! І чаму друкаваныя літары так мала падобныя на пісаныя! І нашто пісаць вучыцца, калі ўсё ўжо прачытае Міхась з газеты ды кніжкі? А ўсе ў свеце друкуюць на камп'ютэрах? Міхасёва пляменніца, вучаніца ліцэя, нават працы з польскай мовы мусіць аддаваць надрукаваныя для праверкі!

Так настаўніца загадала. Ну, і на камп'ютэры хутчэй, сам Міхась пісаў не раз. Ну, дык нашто пісаць уручную...

Мама кажа: пані табе „палку" паставіць, калі не навучышся пісаць, і ў першы клас цябе не возьмуць! Але вучням нулявога класа ні адзінак, ні нулёў не ставяць. Праўда, страшна гучыць, што ў школу ўсе калегі пойдуць, усе тыя, што выводзяць старанна ў лінейках літаркі, а ты зноў будзеш хадзіць з малечамі... Узяў аловак у правую далонь Міхась, хоць так хочацца ў левую. А, можа, не так штосьці бачыцца Міхасю, што і цыфры таксама ўсе ў не той бок, што трэба, узіраюцца?

— Не атрымваецца мне, — расплакаўся хлопчык над спецыяльным сшыткам, заведзеным мамай дома. — Напісаў, вось, „Д", а як стаміўся. І зусім у не той бок кепачка літары схіляецца! Каб мне такую самапіску, якая сама піша!

— Ага, — азвалася з кубачка, дзе стаялі каляровыя алоўкі, фламастэры ды самапіскі, — захацеў чаго! Каб само пісалася! А вазьмі ты люстэрка, паглядзі...

Міхась дастаў з мамінай торбачкі з касметыкай малое люстэрка і глянуў на свой успацелы чырвоны тварык.

— Ды не на сябе глядзі, а на сшытак! — скамандавала чырвоная самапіска.

Прыклаў Міхась люстэрка да лістка, а з люстэрка паглядзела на яго прыгожая літарка, якую толькі што напісаў — спраўнае „Д". Што за цуда! Як гэта так?! Ці не зачараваная літарка?!

— Гэта ты, Міхась, як твой дзедка, ляўша. І таму табе цяжка пісаць так, як усе дзеці. І не плач, не пераймайся. З дзетак, якія лепш валодаюць левай рукой, вырастаюць і вучоныя, і прэзідэнты! Папрацуй без нерваў, і ўсё будзе добра! Спаткаемся ў першым класе!

Вось дык самапіска ў Міхася! Адразу весялей стала!

## СІНІЧКА

— Ай, наша ты сінічка! — глядзіць на ўнучку Аксанку баба Гандзя. Бабуля Гандзя гэта „бабка-маладая", як яе называе Аксанка. Яна яшчэ ходзіць на працу, так як і Аксанчына мама. Мама Аксанкі Мілка працуе ў школе, а бабка Гандзя — у бібліятэцы. А яшчэ ёсць у Аксанкі „бабуля-старушка", бабуліна мама. Яна на працу ўжо даўно не ходзіць. Як

даўно, Аксанка не ведае. Яна заўсёды ў Аксанкі дома, ад яе нараджэння. Бабуля Маня ўжо ўвогуле не дае рады хадзіць. Яна ездзіць на калясцы, сядзіць на ложку альбо на спецыяльным крэсле. З бабай Маняй добра Аксанцы — у яе шмат часу. Толькі часта падрэмвае — усе бабулі-старушкі любяць удзень спаць, а ноччу ім заснуць цяжка.

— Што ты, бабця Маня, ноччу робіш, калі мы спім? — пытаецца ў прабабулі Мані дзяўчынка. І ведае, што бабуля скажа праўду, і не ўцячэ ад яе да нейкіх сваіх заняткаў, бо, як кажа, нарабілася за ўсё жыццё.

— Успамінаю. І сніцца мне сон наяве.

— Гэта як фільм?

— Ах ты, наша сінічка, праўда, як фільм.

— А ты добра, бубуля, чуеш, калі нам тэлевізар уключаны? Ты часам спіш, сама бачыла — акуляры з носа ўпалі... А, можа, твой сон-фільм больш цікавы, чым той у тэлевізары.

— Аксанка, сінічка, дай крыху бабцы Мані перадыхнуць! — смяецца бабціна дачка, бабуля Гандзя.

— А што, дыхаць цяжка? Гэта тады, як набегаешся, задыхаешся. А бабця сядзіць або сабе ездзіць на калясцы. Давай, бабця, я цябе паважу. Па-аехалі ў другі пакой!

Папхнула-пакаціла бабуліну каляску Аксанка. Цяжкавата, як на чатыры гады. Аж стукнуліся з імпэтам у шафу.

— Што вы робіце, дзяўчаты! Яшчэ ў аварыю трапіце! — смяецца Аксанчын тата Андрэй.

Селі абедаць. Добра ў нядзелю — усе разам за сталом. А сінічка-Аксанка прыладжваецца каля прабабулінага крэсла.

— Татулька, глянь: бабулі завысока. Есці нявыгадна. Трэба ножкі ў крэсле падрэзаць крышку! — і пабегла малеча ў каморку, па пілу-нажоўку: — Бяры, тата, раўняй ножкі ў бабуліным крэсле.

— Вось наша сінічка — ціўкае ды ціўкае! — цешыцца сям'я.

## СКАРБ

У бабуліным куфры ляжаць звалькі палатна, выбеленага льну, кужалю, канапляныя шэрыя, жорсткія кавалкі, з якіх можна пашыць мяшок ці матрац, у якіх напіхалі саломы ці сена, а і вышываныя блузкі, фартушкі, ручнікі. Гэта быў, быццам бы, бабулін пасаг. Чамусьці

ніхто гэтым не карыстаўся. Можа, мода не тая, як кажа суседка Маня, а яна ў модзе разбіраецца, глядзіць заходнія фільмы. Мама Агніі не вельмі цікавілася тымі цудамі. Куфар стаіць на гарышчы, завалены дошкамі, плеценымі косамі цыбулі ды пукамі запыленага зелля. Тое зелле, мабыць, збірала яшчэ бабка, або і яе сястра, вельмі старэнькая ўжо, маміна цёця Вера. Бабку ўжо пахавалі, не памятае яе Агнія, але бабулька Вера час ад часу прыязджае ў госці на сваю радзіму, у дом, у якім вырасла і з якога выдалі яе замуж у далёкі Ліпск-на-Бобры. А ў гасцях — хто будзе лазіць па гарышчы? Тым больш калі ты з кульбачкай ходзіш? Агніі смешна — у школе на яе кажуць Агнешка, а баба Верка жартам называе яе... Ягняткам. Бо ў Агніі ўся галава ў кудзерках, сапраўдны залаты баранчык...

Прыехала баба Верка, а тут — рамонт у хаце. Усё мяняюць — і абшыўку звонку, і ўсё ў сярэдзіне. Найцішэйшае месца — пакуль — на падстрэшку. А і тут збіраецца „Ягнаткаў” тата Адам парадак зрабіць. Парадак, паводле яго — усю непатрэбшчыну, вось, спляжыць, выкінуць. Спаліць, вывезці на гмінны сметнік. Замітусілася баба Верка, сваю кульбачку кінула на падворку, і пакараскалася з дваюраднай унучкай на падстрэшак па досыць выгаднай драбіне з шырокімі прыступкамі.

Адвалаклі дошкі, паскідалі вянкі цыбулі і нейкія шматы. Куфар бліснуў каваным векам. Адчынілі яго без ключа — замок быў паламаны.

— Вось, урэшце! — пляснула ў паморшчаныя далоні бабка Верка. — Глянь, мой пасаг! Не даў мне мой тата гэтага куфра, майго прыдання, бо пасварыўся са сватам, значыць, з маім свёкрам. Не дагаварыліся наконт чагосьці, ужо не помніцца мне... Давай, Ягнятка, прымераем... А мае каралі!..

Агнія накінула сабе праз галаву цёмна-сіні саян з фіялетавымі паскамі знізу. Затрымаўся на стане.

— Бач, Ягнятка, і я такая тоненькая была! Бяры кофту!

Агнія старалася злазіць па драбіне як найбольш дастойна ў новенькім, хоць старым ільняным адзенні, у чырвоных пацерках, што путаліся ёй аж на жываце. А за ёю задам спускалася баба Верка, і смяялася. А на падворку дык разрагаталіся абедзве.

— Во, наследніца! — з гонарам паглядзела на дзяўчынку бабуля.

## СКАРЫНКА

Упала скарынка хлеба пад стол. Цвердаватая, абкусаная, з цёмнага хлеба. Папраўдзе, сама не ўпала, а кінуў яе Паўлік. З’еў тое, што яму смакавала. І не скінуў яе спецыяльна, а проста так, ссунулася з абруса. А там, упала дык упала. Бабуля не бачыла, дык нічога... Бабуля казала: упадзе хлеб, дык падымі, пацалуй, прасі ў яго прабачэння, што не ўшанаваў. Хлеб — святая рэч. Без хлеба няма жыцця. Колькі зярнятак у адным каласку, колькі калосся на полі! Колькі поту калісь вылівалі людзі, каб сабраць плён! Змалаціць, змалоць. Спячы. Цяпер і на вёсках хлеб купляюць. Скарынка была ад „віленскага” хлеба, цёмнага, на квасе, з дадаткам кмену. Нават на скарынцы тое зерне кмену паблісквала, прыпечанае. Час часом Паўлік любіў пагрызці скарыначку, пажаваць зерне. А сёння тая скарыначка ўпала... Ну, дык хай і ляжыць на падлозе...

Схапіў скарынку Бобік і панёс на падворак. Ды галодны не быў — якраз быў паснедаў. Дарэчы, больш даспадобы старому сабаку белы хлеб, мяккі, не кіславаты. Кінуў Бобік скарынку каля карытца з вадой, з якога пілі куры ды гусі. Звочыў певень Пеця хлеб, стаў склікаць сваіх жанок на частунак. Збегліся куры з куранятамі, накінуліся на скарынку. Вядома, у гэтым толку ніякага не было — хутчэй пасварыліся, чым наеліся. Ажно пёры паляцелі, нарабілі такога гвалту, ледзь Пеця супакоіў сваю грамадку. На крышыны зляцеліся вераб’і і дзікі сівы голуб. Зараз жа і варона раскрычалася: „Кар-кар-р-р!” — ухапіла большы кавалак у дзюбу ды з лопатам панеслася за плот, на поле, каб спакойна скаштаваць здабычу. Відаць, не вельмі смачна ёй елася, ці спалохалася трактара, які з грукатам, уздымаючы пыл, праехаў па дарозе. Кінула варона хлеб.

Засталася скарынка на полі. Не зернем ужо была, не коласам, і нават не хлебам. Пад халодным асеннім дажджом злілася з глебай.

## СКУБАЙ ДЫ КУСАЙ!

Ці вы заўважылі, што ўласнікі жывёл робяцца на іх падобныя ці наадварот? І з выгляду, і з характару. Вось, гляньце: дама з сабачкам. Яна, гаспадыня, кругленькая, нос кірпаценькі, на твары напышлівая міна, з выгнутымі, надзьмутымі губкамі, а яе сучачка-пекінэса — ну, такая ж злосная, ганарлівая пыска, і дробны, рашучы крок — ну, разыдзіся, кампанія, не бачыце, хто тут ідзе? Даць дарогу модным дамам! У іх нават і прычоскі падобныя! А калі возьмуцца за прамовы! Не ўтаймуеш залівістых выказванняў абедзвюх дам! Альбо, вось, даўгалыгі кучаравы юнак, а каля яго тупае чорны як смоль пудзель. Хлопцы крыху неспакойныя, але хада іх роўная, мэтанакіраваная. Пэўна, з прагулкі вяртаюцца, а дома чакае іх мама са смачным абедам. І няма чаго спяшацца асабліва, прыемна так сабе пахадзіць над рэчкай Белай, ды апетыт ад шпацыру робіцца большы. А што там мама згатавала?.. Можа, і яна такая кучаравая, статная, хоць нестарая. Гаспадыня, у якой двух такіх юнакоў, якіх накарміць трэба... А, вось, гаспадар бульдога, таксама самавіты, з выразным тварам, які не кожнаму спадабаецца, нязлосны, ды да такога лепш не падыходзь. Тым больш, што наморднік свайму кампаньёну зняў. Ой, морда, якую страшнавата напрыцемках спаткаць! Ды толькі выгляд такі ў сабакі, які, дарэчы, мае лагодную ды смачную мянушку Птысь.

А дзядзька Ксавер назваў сваіх аўчарак Скубай ды Кусай. І сваю мураваную хату абгарадзіў высокім плотам, каб пільнавалі яе і падворак з агародам гэтыя вялікія сабакі. А на брамку начапіў табліцы з рысункам сабачай морды: „Я тут пільную" ды другую „Вострыя сабакі". Бо і мянушкі ў сабак „вострыя" — каб скубалі ды кусалі няпрошаных гасцей. Аддаў іх, Скубая і Кусая, на навуку. Сам ён чалавек добры ды лагодны, усе дзеці з ваколіцы пра гэта ведаюць, ды багаты, і за сваё багацце баіцца. Каб не ўкралі, не спустошылі. А Кусай ды Скубай стаяць на падворку, бегаюць за плотам, і сумна ім. Бо так да дзяцей хочацца! І хоць Ігнась ды Адась, суседскія хлопчыкі, чулі, што злосны сабакі дзесьці там пакусалі ледзь не насмерць дзяцей, падыходзяць да сеткі з жалезных пру-

тоў, што акаляе маёмасць пана Ксавера, і гамоняць з Кусаем ды Скубаем, частуюць іх бутэрбродамі.

— Прадам я вас! Аддам у прытулак! — палохае пан Ксавер сваіх „вострых” сабак. — Навошта вас трымаю! Дзе ваша злосць?!

А Кусай ды Скубай шчэрацца да дзяцей у шчырай сабачай усмешцы. Бо і дзядзька Ксавер нязлосны, добры, сваё багацце нажыў без абману, рупнай працай. І ягоныя сабакі таксама добра пільнуюць гаспадарку. Ды што зробіш, калі ўсе яны дзяцей любяць?

## СОНЧЫК

Прыгрэла сонейка, злез снег, і вылез на ўзлеску з пажухлай травы сончык. Высунуў спачатку касматы лабок, пасля выпусіцў адзін лісток, другі... Хацелася б адразу пабегчы ўверх, да сонца, распрастаць лісты, расхіліць з пучка валахатыя сінія пялёсткі... Ды за ўвесь дзень, цешачыся цяплом, як ні стараўся, не змог поўнасцю развінуцца. Ну, хай там! Калі стала цёмна, сціснуўся ад болю — прыпякло ў бакі! І карэньчыкі аж падкурчыліся — холадна! Задрамаў сончык, стомлены і збалелы, на ўсё забыўся, як у зімовым сне. А раніцай зноў падняў сваю касматую галоўку. Агледзеўся. Прыслухаўся. І на дварэ, і пад зямлёй кіпела. Над траву ўздымаўся парны дымок — зямля ўздыхала, варушылася. Побач прабягалі нейкія жывыя шасціногія, віравалі над ім крылатыя істоты, вылузваліся сярод старых, бурых зялёныя іголкі травінак. Прыпоўз стары вуж, звінуўся ў кольца пры самым сончыку, і, хутка дыхаючы, прылёг жыватом да вільготнае зямлі, плечы выставіў да сонейка. Вуж вялікі, як увесь краявід... Усім так добра...

Сончыкава галоўка, атуленая пухам, расхілілася і запахла. „Ці хто мяне чуе? Ці ўсім так добра, як мне? І заціўкаў бы, як птушачкі, і зашумеў бы, як ветрык, каб умеў...”

Затупатаў нехта побач, засланіў сонца. Да кветкі з імпэтам нахілілася штосьці цёмнае. І пацямнела сончыку ў вачах, і кальнула ў бок, аж закрычаў. Хтосьці сціснуў моцна ягонае сцябло, тузануў! Адарваўся сончык ад карэння. І больш нічога не памятаў.

Сончык стаяў яшчэ два дні ў шклянцы. Мог напіцца вады. З акна свяціла сонейка. Але ці радасна было яму, што гладзіць пяшчотна яго далікатную сінюю галоўку дзіцячая далонь? Памёр сончык у шклянцы, не зведаўшы радасці дотыку пчолкі, выдання дзетак-зярнят.

## СТАРАЯ СТУДНЯ

У старой студні жыве неба. Ды не такое, блакітнае, што нахіляецца над тваёй галавой, калі ты зазіраеш у яе прахалоднае нутро. У студні, нават і ўдзень, сядзіць месяц, а сонца ў спёку, стомленае, запускае свой доўгі прамень, каб ахаладзіцца. Па абымшэлых кругах, упушчаных у зямлю, заламваецца і гіне сонечнае праменне, аксамітна коціцца голас, калі гукнуць у сярэдзіну студні. І быццам бы не ты пытаўся ў студні, а яна адказвала не табе. Быццам яна адгукаецца на пытанне, якое прагучала шмат гадоў таму, калі ў яе, маладую, з чыстым зрубам, з усё наплываючаю крынічнай вадой, заглядалі твае, малыя тады, прабабка ці прадзедка, дзед ці бабуля, і глядзелі ў той таемны свет. Далёкі і страшнаваты. Але і блізкі, як блішчастая паверхня вады, куды можна ўпасці і захлынуцца. Накрыты дашком, каб не нападала туды лісце, парушынне ды насякомыя, пад які нельга дзецям заглядваць. Пераказваюцца страшныя гісторыі, як чыйсьці хлопчык перахіліўся цераз зруб... Як свавольнае кацяня, што гуляла на краі, звалілася ў ваду ды ўтапілася...

Са старой студні п'е толькі Лысы. Стары буланы каніска. Можна сказаць, пенсіянер. Бо ў полі робіць за яго трактар. І за студню працуе водаправод. Але Лысы і не думае піць ваду з трубаў, хоць і смачная, мабыць, для кароў, курэй ды свіней, а і людзей ніхто не набірае адсюль вады, каб напіцца яе, крычнічнай, сцюдзёнай, бляшаным кубачкам, што вісіць на цвічку на плоце. Раней шмат хто з акалічных вёсак, едучы на далёкія лугі, заязджаў на гэты падворак, набраць вады. Слаўная была вада на ўсю аколіцу! І далей б'е тая крыніца, праз дно студні знізу прасочваецца вада. Дзед Іван, дзеля парадку і чысціні, выбірае тую ваду са студні, каб паліць ага-

род і даць месца новай. Але Лысы ведае — гэта якраз з-за яго, што ён, толькі ён, піць хоча тую ваду, дзьмухнуўшы спачатку з храпаў на паверхню вядра, дзе яна, вада, аж зморшчыцца, толькі ён, набіраючы ў свае мяккія конскія вусны таямніцы з нетраў зямлі, дзякуючы ўсяму гэтаму — тая студня жыве.

Стаіць студня ў амаль абязлюдзелай вёсцы. Прыходзяць да яе дзед Іван, праўнучка Еўка і праўнук Кандрат ды стары Лысы, конь.

## ПАДСТАЛОВАЯ ШКОЛА

Шурык хадзіў ужо ў школу. Хоць, па росту, не выглядаў на вучня першага класа. Пайшоў у школу ў шэсць гадоў, да таго быў маленькі ды шчупленькі — мала большы ад мяне, маладзейшай. Шустры Шурык — называлі яго бацькі ды суседзі. Надакучаў ён усім — не ўседзеў ні хвіліны на адным месцы, чапляўся да суседскіх хлопчыкаў, нават большых за яго. Дзіўным чынам не дакучаў якраз мне, чатырохгадовай худзенькай малечы. Знаходзіў час для мяне — найчасцей садавіліся мы за будынкам сіласа, каля слівак, якія сыпаліся нам на галовы, на кучы жоўтага чыстага пяску. Стаяў там і высокі стары прастакутны стол, які выкінуў з хаты мой дзедка. У стале было многа круглых дзірачак і штосьці час ад часу цыркала ды пукала ўсярэдзіне; дзедка казаў, што ў стале жывуць шведы... Калі пакрапваў дождж, можна было засесці пад гэтым населеным шведамі сталом.

Я найбольш зайздросціла Шурыку аднаго: меў лемантар і сшыткі, хадзіў у школу.

— Якая тая школа?

— Ну, называецца яна... тая... падсталовая, — паглядзеў Шурык на наш стол, пад якім мы заселі з кошчыкам поўным чорных слівак, і выплюнуў костачку. — Эт, такое там!.. Сядзець трэба ціха... Ну, адурэць можна. І ўсё пытае ў нас вучыцелька, бы сама не ведала нічога.

— То ж у школу ходзяць каб ведаць! — здзівілася я. — Кажаш, падсталовая?..

І хоць я ўжо бачыла, едучы на фуры з дзедкам ад цягніка, новы, вялікі, цагляны будынак школы ў Семяноўцы,

што каля царквы і аграмадных шумлівых дрэў на якіх крычаць галкі: „Птак-птак!”, уявілася мне, што мы з Шурыкам сядзім у сваёй школе — пад нашым сталом.

— Пакажы мне лемантар. Я пісаць хачу.

— Пойдзеш, навучышся. Няма чаго спяшацца! — цяжка ўздыхнуў Шурык. — Я потым пакажу табе літару О, нарысую палкай на сцежцы... Лепш пакажы свайго Мурынка...

Малы пластмасавы карычневы негр, мая адзіная крамная лялька, вытыркаўся з пяску. Шурык учора пераканаў мяне, што ён захварэў і памёр, і мы яго ўрачыста пахавалі.

— Ужо здаровы? Давай, пабачым, што там у яго ў сярэдзіне — мабыць, на жывот захварэў, — Шурык ухапіў ляльку за пульхную ножку.

— Ня руш! Яму баліць! — я залілася слязамі.

— Трэба было плакаць учора, як яго мы хавалі.

— Мы ж яго пахавалі толькі на адзін дзень...

Шурык калупнуў жалезінкай Мурыну збоку жывата, дзе было відаць шнар — тут яго склейвалі на фабрыцы. І распалася папалам мая лалька.

— А ён жа пусты ў сярэдзіне! Я так і думаў! — махнуў рукою Шурык і выйшаў з-пад нашае падсталовае школы.

Пасля Шурык з’ехаў у мамай у Францыю. Сустрэліся мы праз пятнаццаць гадоў. І не пагаварылі як след. Забыўся ён нават нашу мову, не то што хвіліны пад нашым сталом.

## ДАМАВІК

Штосьці жыве на гарышчы ў доме бабы Мані і дзеда Ігара. Тое штосьці тупае ноччу, качаецца па бэльках, вухкае ды стогне. Не загучна, толькі так, каб, сцішыўшы дых, прытаўішыся пад коўдрай, пачуць, як таму чамусьці таксама не спіцца так, як табе, на „вялікай хаце” ў вёсцы. І ці адплюшчыш вочы, углядаючыся ў цемру, ці цесна сціснеш павекі, так, аж пойдуць каляровыя кругі, тым больш тое таямнічае штосьці страшнейшае. Так страшна зробіцца — аж мурашкі прабягуць па спіне. Яшчэ страшней, чым ад самага страшнага фільма. Той можаш выключыць або выйсці з пакоя. А тут — не ўцячэш нікуды, хіба што да бабулі ў ложак. Ну і не ўцярпела Мартынка, хоць вялікая

дзяўчынка, бо аж васьмігадовая, спусціла ногі на выстылую падлогу, намацала тапкі і, не запальваючы святло, пасунулася ў бабуліну спальню.

— Ты што? — схамянулася бабуля, якой не палохала тое штосьці, бо ўжо з ім звыклася ад таго часу, як выйшла замуж за дзеда Ігара ды зажыла ў хаце, якую паставіў. Пэўна, у той час і тое штосьці завялося на гарышчы?

— Бабуля, чуеш — тое штосьці гуляе на падстрэшку... Мне страшна. А ты не баішся?

— А чаго мне баяцца! Звыклася. Можа, дамавік? А чаго ён енчыць, чаго вухкае? Не, не дамавік, Мартыська, не бойся — проста дошкі рассохліся, вецер задувае, можа, нейкі прэнт абсунуўся... Ноччу ўсё можа здацца. Або каты па падлозе качаюцца, гуляюць, мышак гоняць... Спі, спі ўжо, мне заўтра рана трэба ўпраўляцца.

Мартынка, рада, што бабуля не загадала ісці ёй спаць адной, прытулілася да яе і заснула.

Раніцай, калі бабуля ўстала падаіць кароў і зварыць снеданне, дзяўчынка паляжала яшчэ крыху пад цёплай пярынай. Услухалася, ці не чуваць чагосьці над столлю. У спальню заглянула кошка Мурка.

— Гэта ты гарцуеш на гарышчы? Мяне палохаеш?

— Не-а!

— Дык што там — дзьме ў дзіркі вецер?

Мурка ўскочыла на ложак.

— Не-а!

— Дык дамавік?! А чаго ён хоча? Малака, яешні? Я чытала пра дамавіка...

— Мур-р-р... Пра-а-аўда! — пазяхнула котка і звілася ў клубочак на пярыне.

Мартынка збегала на кухню, адліла на спадачак свежага малака, на шкляную талерачку адсунула крыху цёплае яешні. Пасля па драўляных усходах палезла на гарышча. Паставіла пачастунак пад кроквай.

Да поўдня страў ужо не было. Мартынка чакала вечара — ці не азвецца дамавік. Так і не пачула — так моцна спала. А Мурка толькі пасміхалася каля яе на ложку.

# ТРУСКАЛКА-ВОЛАТ

Жыў адзін аграном у вялікай вёсцы. Лічыў ён сябе вялікім аграномам і вучоным і думаў, як гэта зрабіць, каб выгадаваць самыя вялікія расліны, каб пра яго напісалі ў газетах, а нават і ў энцыклапедыі. Значыць, хацеў стаць самым вялікім у свеце аграномам. Мо не падабалася яму і тое, што вёска, у якой працаваў, мо і была вялікая, але, усё ж, не па яго мерках. Хацеў бы працаваць з яшчэ большым размахам, а даводзілася яму сеяць звычайнае насенне, рассаджваць клубні звычайных раслін, якія звычайна выраслалі ў тым клімаце. Аднойчы засадзіў поле трускалкамі.

Настала спачатку суша, пасля сталі ліць праліўныя дажджы, і з усіх трускалак прынялася толькі адна. Ды як стала расці! Ды з усіх кветачак утрымалася толькі адна. А з тае кветачкі пачала расці аграмадная ягада. Расла на дзіў усім у вёсцы, а нават і далей. Прыехала тэлебачанне. Агράном спачатку сам спужаўся ад тае раптоўнае славы, выступіўшы ў вячэрнім аглядзе навін. Трускалка разам з усім сваім кусцікам цешылася, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй. Ягада займала ўжо цэлае поле!

— Няма чаго табе так цешыцца, — зашумеў расуючы колас жыта. — Прыедуць па цябе і забяруць у свае лабараторыі, будуць рэзаць ды заглядаць, ад чаго ты так вырасла, будуць цябе калоць, пасыпаць рознымі парашкамі, глядзець пад мікраскопам твае клеткі...

— А ты адкуль гэта ведаеш? — усхвалявалася трускалка.

— Гэта генетычныя веды, якія жывы арганізм перадае наступным пакаленням. Што яны з намі не рабілі! Што не вычвараюць, каб мы, расліны, раслі вялікія, сакавітыя, ды каб карміліся мала. Уколваюць нават у нас чужародную нам матэрыю, каб мы мелі рысы іншых відаў, карысныя на іх погляд, падсыпаюць атруту, каб некаторыя з нас, як гэтак званае пустазелле, паміралі, сохлі на нашых вачах! А расцеш — не ўцячэш: корань трымае!

— А я ўцяку! — тузанулася на плоданожцы трускалка. — Натужуся, і адарвуся.

— Доўга не пажывеш, калі адарвешся ад кораня.

Трускалка падскочыла, пакацілася на другое поле, мнучы траву, мурашак і жучкоў. Пераваліваючыся з чыров-

нага боку на ружовы, рухалася наперад. Ды што там жучкі! Уцякаючы, каціласся на кароў, якім на момант цямнела ў вачах, і са здзіўленнем пасля абнюхвалі свае пахучыя сокам бакі; малако ў той дзень каровы далі бела-ружовае, словам, кактэйль, які вельмі пасмакаваў дзецям... Так і дакацілася трускалка да падножжа гары. Гэта была адзіная большая горка ў ваколіцы. Вядома, сілы мела незашмат стомленая і перапалоханая трускалка, але да поўначы з натугаю ўскараскалася на вяршыню гары. Так што, калі аграном зранку паявіўся на полі з блакнотам, не знайшоў ягады, якою ганарыўся і меў намер з-за яе стаць славутым на ўвесь свет.

Трускалка, прачнуўшыся на досвітку, з захапленнем спаглядала на краявід. Засталася б там, унізе, — ніколі не ўбачыць ёй такое прыгажосці! А калі б зачынілі яе як мутанта ў лабараторыю, то ўвогуле свету не пабачыла б! Не ведала яшчэ бедная трускалка, што жыццё трускалак кароткае. Мо і варта было б ахвяраваць жыццё навуцы?

Памацала трускалка свае бакі — пабітыя, аблітыя сокам. Крываўлю! — спалохалася. Тут пачула скрыпучы голас крывадзюбага птаха:

— А што тут ляжыць такое, на свежае мяска падобнае? Спрабую! Я ж птах драпежны, і дзецям трэба занесці, накарміць іх. А ядуць яны або па трое цялятак, або ягнятак, або казлянятак у дзень! Нуй жыркія ў мяне дзеткі! Ужо, здаецца, ледзь не ўсё ім перанасіў, а яны дзюбы разяўляюць: давайце, тата, есці! Мо, гэта, што разляглося на гары, — ядомае?

Адкусіў птах кавалак трускалкі. Скаланулася яна спачатку, ды не адчула болю. Гэта, пэўна, таму, што ад кораня я адарвалася, — падумала ягада. Птах з задавальненнем цямкаў дзюбай — смакавала. Адшчыкнуў яшчэ кавалак, панёс дзецям. Праз хвіліну прыляцеў назад. Як птах драпежны, не пытаўся, ці трускалцы баліць — такая натура ў драпежнікаў. А ягада ляжала, глядзела на неба, хмаркі, на палеткі і лугі, дзе пасвіліся каровы і авечкі са сваімі дзецьмі, на лясы, па якіх хадзілі сарны і алені са сваімі малымі. І думалася ёй, што, вось, драпежны птах не забівае іх на мяса, а носіць дзецям для спажывы кавалачкі яе цела... І была шчаслівая трускалка, што ратуе столькі істот ад смерці.

Птах карміў трускалкай сваю сям'ю аж да самае зімы,

а пасля, калі яны акрэплі, пакінулі тую аколіцу, паляцелі ўсе ў далёкія горы. А з трускалчыных зярнятак, што высыпаліся, выраслі яе дзеці. А той аграном усё садзіць і сее featured рознае, каб трапіць у энцыклапедыю, ды яшчэ не трапіў.

## ВЕЦЕР

На вуліцы, здаецца, зусім цёпла. Тэрмометр за акном паказвае 8 градусаў вышэй нуля — сама Ганулька бачыла. Вядома, і снег растаў. Толькі на загонах і палетках ляжыць ён тонкім пластом, а там, дзе яго згортвалі з дарог і вуліц — няроўнымі гурбамі той снег шарэе. Ці не вясна ўжо ідзе? Ды не, да вясны далёка, бо ж цяпер яшчэ люты. Кажуць, што ў сакавіку, і нават у красавіку зімка стараецца дакучыць вясне. То снегам сыпане, то зноў дажджом са снегам сцебане... А тут сонейка паказалася! Ганулька выбіраецца ў школу. Нашто шалік ваўняны, які ціснe ў шыю і кусаецца! А тоўстая шапка, ад якой у галаву цяжка! Сцягнула паціху Ганулька шалік, на галаву надзела сваю ўлюбёную шапачку-вязанку, што яе восенню бабуля Вера на прутках ёй спляла. І да аўтобуса. А ён узяў ды па-аа-аехаў! Не пачакаў Ганульку школьны аўтобус! Вядома, да чаго даводзіць тое, што зранку так спаць хочацца...

Ну, што ж, прыйдзецца ісці пешшу аж чатыры кіламетры! Паправіла Ганулька на плячах цяжкі ранец з кнігамі, сшыткамі і дапаможнікамі. Цяжкавата. І патэпала ў бок мястэчка, следам за школьным аўтобусам, якога і след ужо прастыў.

Ідзеш, ідзеш, ідзеш... Левай абочынай тэпае Ганулька — так і трэба. Па асфальце ідзеш, дык не так гразка. Але страшнавата. Насупраць што і раз машыны едуць — зыходзіць трэба на старую траву і гразь. А ў твар вецер дзьме! Пад шапачку ўціскаецца, за каўнер улазіць. Хоць сонейка грэе з усяе зімовае моцы, дык якое ад яго цяпло!

— Ты што, вецер, так мяне мучыш! — пакрыўдзілася Ганулька. — З дарогі збіваеш! У шыю студзіш!

— Я — зімовы вецер! — шугануў дзяўчынцы каля вушэй вятрыска, закружыўся вакол ранца, падняў леташнія лі-

сты з асфальта. — А ты чаму ў тонкай шапачцы? Бабулі паслухала б! Я ведаю тваю бабулю!

— Ты не здзекуйся! Не буду цябе любіць! Ну, хто ж цябе любіць, вецер!

Лепш бы Ганулька і не гаварыла! Вецер у рот ёй так дзьмухнуў, што амаль не зайшлася!

— Я не жартую! І шалік твой дзе? Я так люблю размахваць тваім чырвоным шалікам, з кутасікамі на канцах!

— Ты ведаеш мой шалік? Бабуля мне яго звязала!

— А хто не ведае, Ганулька, тваё бабулі Веры! Яна ж умее і вецер загаворваць!

— Ветрыку, дык я цябе прашу па знаёмству, не дзьмі мне ў вочы. Лепш у спіну мяне, у ранец папіхай! А то мне так холадна, і ў школу магу спазніцца...

Засмяяўся вецер, крутануўся ў другі бок.

— Ну, Ганулька, ты не горшая ад свае бабы! Загаварыла мне, так сказаць, зубы! Давай, памагу табе!

І давай дзьмуць з другога боку. Ды так моцна, што Ганулька амаль подбегам рушыла ў школу. Толькі яшчэ каўнер наставіла, як ветразь.

## ЗОРКІ

Валік сядзеў пад акном і доўга ўзіраўся па-над дамамі на ўсё цямнеючае неба. Чамусьці не запалілі яшчэ лямпу на слупе, што стаяў у агародзе суседа. Ва ўсёй вёсцы толькі чатыры ляпмы, а запальваюцца яны аўтаматычна — летам вельмі позна, зімою — як толькі надыходзіць змрок. А да Новага года — ночы якія доўгія! Зрываешся на школьны аўтобус у змрок, вяртаешся — таксама цёмна. Нават калі ты ў першым класе. Хатай нацешышся адно ў святочны перапынак або зімовыя канікулы. Альбо калі, не дай Бог, захварэеш. Толькі незамоцна, бо тады прыемнасці ніякай няма, і мама і бабуля перажываюць. А так — ляжыш, адпачываеш, думаеш... Сузіраеш плямы сонца, як перасоўваюцца з аконных шыб па сценах. Альбо ў пакрытай марозам дзівоснымі кветкамі шыбіне прахукаеш круглую як залатоўку праталінку і пазіраеш на сінічак-эквілібрыстак на кавалку саланінкі... А ўвечары...

— Ты што так прыстаў да таго акна? — здзівілася мама.

— Уключыў бы тэлевізар.
— Зорку шукаю.
— Ты што, цемень такая… Хмарна. Нічога не ўбачыш.
— Ёсць! Мам, глядзі! Падае?!
— Падумай пра штосьці, каб збылося! Толькі пра адно.
У Валікавай галаве маланкава прамільгнулі ўсе свежыя мары… Паехаць з мамай у Дыснейленд? Атрымаць ад Дзеда Мароза… горны веласіпед… самы сучасны! З татам хутчэй сустрэцца! Ага! Што там лісты ці пасылкі з тае Амерыкі! Што можна пахваліцца перад калегамі!
— Мама, ты пра тое самае падумала, праўда?
— Так, пра тату, — уздыхнула мама і, узяўшы сына за плячо, хутка адвярнула ад акна. Каб не прыкмеціў, што гэта не зорка бліснула, падаючы, а памаленьку па небе сунецца самалёт.
У апошнім лісце мама атрымала павестку з амерыканскага суда пра развод.

## ЗВЯРКІ

Агатцы выезд у горад — атракцыён. На адзін дзень, а на тры тыдні. Асабліва да цёці Яны і дзядзькі Толіка. Вялікіх арыгіналаў. Цёця — пісьменніца, дзядзька — мастак-сатырык. Дзяцей у іх сваіх няма. Затое поўны падворак звяроў. Бо хоць жывуць яны амаль у цэнтры горада, ды на ціхай вуліцы з невысокай драўлянай забудовай, у цяні старых дрэў. Ну, быццам у вёсцы. А дом у іх драўляны, з падстрэшкам, хоць з усімі выгодамі. І садок парослы акуратнай муравай, і грэцкія арэхі там растуць, па якія прыбягае вавёрка ды сварыцца за іх з дзядзькам Толікам. У садку — невялікі абмураваны басейн з рознымі ўзроўнямі вады. Прыемна! Файны адпачынак! Шкада толькі, што прыйдзецца больш часу самой праводзіць, і займацца звярынцам. Аб гэтым сказала Агатцы цёця Яна — яна едзе на выстаўку ў горы, а дзядзька, як, вядома, сатырык, часам забываецца, на якім свеце жыве. А дома — гаспадарка!
— Вось — Мышка, — прадставіла была Яна Агатцы вялікую шэрую сучку. Мышку ўзялі ў прытулку для звяроў яшчэ маленькім шэрым шарыкам, і вось якая „мышка” вырасла!

— А гэта — Буба, — паказаў дзядзька на тоўстую рудую таксіху. — Яна тут пані Буба, кіраўнічка ўсяго што жывое. Трэба з ёю лічыцца.

— А гэта — Бегемот, — прадставіла цёця вялікага чорнага ката. — Ён важыць дзесяць кілаграмаў і патрабуе пашаны.

Бегемот, сапучы ад натугі, ускараскаўся Агатцы на калені. Сапраўды, быццам дзесяць торбаў з цукрам узваліліся. Відаць, есці любіць!

А яшчэ і рыбкі, і два папугайчыкі!

Пільнаваць іх не трэба — кожны мае занятак. Бегемот ходзіць кудысьці па сваіх справах, сабакі ганяюцца па садку. Дзядзька Толік малюе розныя смешныя малюнкі, смяецца з іх сам, рагоча пад арэхам. Увечары зводзіць Агатку ў кіно, пасля сам кудысьці прападае. Нудна! Нават тая вавёрка не такая цікавая.

Аднойчы пад раніцу сабакі і кот звар'яцелі. Ганяліся па падворку з лямантам. Дзядзька Толік выйшаў на парог.

— Агатка, глядзі, фазана ловяць!

Агатка працерла заспаныя вочы. За птахам бегалі Мышка, Буба і Бегемот. Загналі яго пад дошкі, нарыхтаваныя для пабудовы шопкі.

— Дзядзька Толік, ды ж гэта не фазан, а анёл! — крыкнула Агатка. — Ратуйце яго.

— Вось табе наснілася! — дзядзька залез пад дошкі, схапіў фазана за крылы і вывалак, беднага, з-пад зубоў натхнёных паляваннем жывёл. — Вынесу яго на бераг рэчкі Белай, выпушчу, хай ляціць да сваіх.

— Хай ляціць да анёлаў! — не здзівілася Агатка.

## САД

Нашто людзі адгароджваюцца ад іншых? Ставяць платы, парканы, муры, жэрдкі, плетні, развешваюць калючы дрот, нават падключаюць да дратоў электраток... Каб ніхто не ўлез на тваё. Не ўзяў твайго. Не падглянуў, што робіш. У загарадзі пускаюць злых сабак, каб палохалі чужых. Іншых ад цябе і аб тваіх. А сабакам загадваюць: „Не руш, гэта **свой**". А калі чужы: „Кусі яго!"

Паставіў плот дзед Мітрук. Абгарадзіў малады сад. У садзе — яблынькі, грушы, слівы, чарэшні ды вішні. І кусцікі

**парэчак — чорнай і чырвонай. За садам — лес. Плот для таго, каб зімой галодныя зайцы ды сарны не занадзіліся, не абгрызалі кары дрэўцаў. Ды якія зімы калісьці былі! Марозныя, снежныя! Насыплюцца гурбы снегу — роўна з плотам. Што зайцу такая перашкода! Хадзіў дзед Мітрук начамі, пільнаваў з сабакамі саду. Вырас сад на славу, хоць старэнькі дзедка мала плёну ўбачыў. Так ёсць у жыцці. Хочаш мець памяць па сабе — садзі дрэвы, будуй дом, нараджай дзяцей і выхавай у іх пашану...**

**Плот, які паставіў дзед Мітрук, салідны быў. Роўны светлы частакол, слупкі-пянькі, простыя жэрдкі-перакладзіны. Пасля штыкеціны пашарэлі, абраслі мохам, слупкі змуршэлі. Паправіў яго дзедаў сын — Іван. Дрэўцы давалі багаты плён. Іван вазіў прадаваць фрукты на рынак і па вёсках. Ніхто ў ваколіцы такіх пладоў не меў — Іван прышчапіў новыя сарты. Іван усё паглядаў на сваіх унукаў, і бацьку свайго ўспамінаў, што сад вырошчваў. На ўнукаў глядзеў — бо сына Іванавага сад не цікавіў. Займаўся Зянон тэхнікай, машынамі. Усё хацеў бы рацыяналізаваць. Нават уборку пладоў. А яблычка, ігрушку — усё рукамі трэба сарваць, далікатна, каб не пашкодзіць. Стукнеш, сціснеш — пачарнее, папсуецца. Зімы не дачакае...**

**Павырасталі дзедавы ўнукі, паехалі ў горад вучыцца. Там і засталіся, пасяліліся. Памёр дзедка Іван у амаль сто гадоў, перажыўшы свайго сына, паглядаючы на развалены плот. І зім такіх сёння няма, і зайцы не такія нахабныя. І ад злодзеяў няма вялікае шкоды, бо людзей мала ў ваколіцы, ці добрых, ці кепскіх. Яблыні, грушы, слівы, старэнькія, раскідзістыя, кожную вясну абліваюцца квеценню, гадуюць на сабе плады. Заходзь у сад — бяры, што хочаш. Пашкадуй старанне старых дрэў, памяць дзеда Мітрука.**

## ЗІМКА

**Прыгрэла зімовае сонейка, і адразу весялей стала і людзям, і звярам ды птушкам, і ўсёй прыродзе. Іскрыўся снег, паветра аж звінела. Алінка весела пазірала з-пад свае цёплае шапкі на ўсе зімовыя прыгоствы: у такі час хочацца, каб зіма не мінала. Найгорш, калі мароз такі, што, здаецца, нос табе адпадзе — так ён шчыпае ды кусае,**

і вятрыска дзьме, колкімі мурашкамі залазіць табе пад паліто, у рукавіцы. Алінчына мама кажа:

— Вось, пахадзіла б ты ў школу як я — туды і назад разам шэсць кіламетраў, і не па расчышчаным асфальце, а па гурбах табе па пашкі! У валёначках з чорнымі галошамі, якія пасля можна было скінуць у школе, каб па калідорах ціха хадзіць (бо як жа пабяжыш — досыць коўзка!) у саміх валёнках, хто ў шэрых — з воўны шэрых авечак, хто ў чорных — з чорных. А ў нашай школе не было тады батарэяў, а стаялі печкі, якія дзядзька Антон распальваў яшчэ на досвітку, каб нагрэліся, пакуль прыйдзем на ўрокі. А мы на перапынку, замест бегаць па калідорах, пастаем спінамі да кафляў, грэем далоні. Глядзіш, а яны чырвоныя робяцца: ад марозу.

— Гэта не той час, — кажа Алінка. — Цяпер, пакуль заеду ў гмінную школу, нават не змерзну. А ў нашай школе абаграваюць знізу, ад падлогі, уяўляеш сабе? У тапцях горача хадзіць...

— А мая школа пустуе... Будавалі яе нашы бацькі, пасля так прыгожа разбудавалі, цэнтральнае ацяпленне ўставілі, кухню зрабілі, каб не толькі параным малаком зімой дзеці падмацаваліся ды нагрэліся, — уздыхае мама. — А ты ніколі не забывай шапкі, глядзі, рукавічак не згубі.

Колькі там чалавеку думкі пра шапку ды рукавіцы! На перапынку выбеглі дзеці са школы, бо ж не ўседзіш у такое надвор'е. Нават не надзела шапку Алінка, не выцягнула яе з кішэні. А рукавіца выпала, невядома дзе — на падворку, ці ўжо ў гардэробе. А шалік, як сядзеў у рукавах, так і дзесьці выпаўз. Стала шукаць іх Алінка, бегаць па школе, а аўтобус з дзецьмі ўзяў дый паехаў. Шалік знайшла пад уваходнымі дзвярыма, ды не свой. Выйшла Алінка на вуліцу пад школай. Накінула капішон на галаву, ды холад усё ж шчыпае. Рукі ў кішэні запхнула, ды давялося адну выцягнуць — стала махаць рукой да праязджаючых машын, каб падвезлі дахаты. Малы „фіат" ехаў у вёску, дзе стаіць маміна школа. Дзевяць кіламетраў праехала Алінка, здавалася, вельмі хутка, але стала цямнець. Выкараскалася дзяўчынка з аўто, завязала на галаве чужы шалік, зацягнула каптур шнурочкам найцясней як магла, адну рукавічку надзела на правую руку, каб набіраць размаху, і патэпала маміным шляхам дахаты. Праз лес, побач заснежаных палеткаў. Праўда, ужо па асфальце, і не ў шэрых валёначках.

# ШАР

Мама Яся шыла шар. Шар быў сапраўдны, такі, які часам бачым на небе, як памаленьку сунецца па-над зямлёю, з кошыкам пад сподам, у якім сядзяць людзі. Аэрастат. Ён здалёк здаецца зусім малы. Калі мама, Яся, Аня шыла шар, славуты паветраны шар студэнцкага аэраклуба, на якім лcraталі пасля яе калегі нават над Аўстраліяй, на Кубак свету, сшыла толькі свой маленькі кавалак. Не быў ён, той кавалак, такі і маленькі, але тых частак было шмат-шмат, і толькі калі спалучылі ўсе часткі шара, атрымаўся ён вялікі. Каб, падагэрты газам, набраўшы цяпла ў чашу, узняўся ў паветра разам з кашом і пасажырамі...

Ды здалёк тае латкі, што сшывала мама Яся, Аня, амаль і не відаць — столькі тае матэрыі, здаецца, як на палец. А калі б не было яе — не было б і цэлага аэрастата. Так бывае — без таго, што ўгледзіш здалёк, не бачыш цэласці. А без любога кавалачка, нават найменшага, цэласць будзе няпоўная. І калі б не было кавалка, які сшывала мама Яся, шар не паляцеў бы, вядома...

І хоць Ясева мама ніколі на тым аэрастаце не лятала, будучы нават сябрам студэнцкага аэраклуба — якраз кончыла навуку ў вышэйшай школе, стала на працу, выйшла замуж, нарадзіла сына... — з вялікім хваляваннем сачыла за сваім шарам на небе...

— Гэта мамін шар! — кожны раз з гонарам заяўляў Ясь калегам, калі над горадам павольна плыў паласаты аэрастат студэнцкага клуба.

— Які ён „мамін"! — смяяліся суседскія дзеці, асабліва хлопцы. — Яна ж на ім не лятала! І яна ўжо... старая! І не паляціць!

— А не, паляціць, і я з ёю!.. — Ясь стараўся гаварыць упэўнена.

Ды аднойчы... Гэтак, як у казцы бывае... На Дзень дзіцяці на латарэі Ясь выцягнуў фант-узнагароду — палёт на аэрастаце. І, падумайце, якраз на гэтым самым, хоць у горадзе шмат ужо ёсць такіх паветраных шароў, а маміны калегі выйгралі нават сусветныя спаборніцтвы! І разам з мамай узняўся Ясь на аэрастаце над Беластокам.

А мама ў Яся — заўсёды маладая!

# АЎТО З ПЛАНЕТЫ МАКІН

Самаходы на планеце Макін не адразу дарослыя, вялікія. Праўда, нараджаюцца яны ў фабрыцы, але ёсць у іх не толькі інжынеры ды рабочыя, якія займаюцца імі ў час узнікання, але і бацькі, і дзяды. Проста, у пашпарце кожнага напісана, хто такое аўто па бацьку ды маці, адкуль родам. Пасля сямейнікі займаюцца малым аўтамабілікам, пакуль не вырасце і не набудзе ўсіх ведаў, неабходных для ўсіх самаходаў на планеце. Значыць, нараджаюцца самаходы на планеце Макін малымі, і растуць. Зусім не так, як у нас, на Зямлі, дзе самаходы нараджаюцца ў фабрыках толькі вялікімі, і дзяцей яны не маюць. А дзеці, як усе дзеці на свеце — цікаўныя, ахвотныя пазнаваць новае, гарэзлівыя і час ад часу непаслухмяныя. Гэта ўсё з-за цікаўнасці, усе гэтыя выбрыкі і дурненькія задумы, якія могуць кепска кончыцца... Толькі што ў малых самаходзікаў з планеты Макін розум крыху інакшы, чым у нас, людзей, калі мы яшчэ зусім маленькія; нараджаемся быццам „незапісаная табліца", а яны, на Макіне, маюць о-гого якія камп'ютэрныя праграмы ўстаўлены! Маюць такія веды адразу ў найважнешай частцы арганізма, галаве быццам бы, устаўлены, якіх нам трэба вучыцца ды вучыцца, аж абрыдне. А нашы зямныя аўтамашыны дык увогуле зусім простыя ў параўнанні з імі!.. Ну, мы не будзем пра тое тут разважаць, пра тыя адрозненні ў канструкцыі. Раскажам пра маленькі самаходзік з планеты Макін, якому было вельмі цікава пабачыць Зямлю. Увогуле, жыхарам гэтае планеты, Выстворам, Жывінам і Махінам, у тым і макінскім самаходам, Зямля — цікавая планета, паколькі развіццё жыцця на Зямлі нагадвае колішнія прапачаткі, ужо забытыя, жыцця на Макіне, а клімат у нас падобны. А маленькі Самаходзік, лепш назваць яго Самаездзікам, хоць усе веды, якія пра Зямлю макінская цывілізацыя ўжо спазнала, атрымаў на маленькай магнітнай бляшцы, якую на пару хвілін падключылі да яго мозгу-камп'ютэра (калі б называць па-нашаму) лічыў, што гэта не ўсё. Ён тужліва спаглядаў з панадворка перад сваім сямейным гаражом на Зямлю, якая, бы блакітная зорачка, пульсавала над гарызонтам...

Пра што думаў Самаходзік? Пра тое, як жывуць зямныя

самаходы, якіх вучоныя на Макіне лічылі найбольш актыўнымі жыхарамі нашай планеты, даследуючы іх хуткасць, спрытнасць і моц. Як бачыце, веды пра нашу планету на Макіне, мякка кажучы, толькі частковыя і нязгодныя з праўдай. Бо ўсё ж, так, як мы тут думаем, найважнейшы на Зямлі — чалавек!

Самаходзік ведаў, што не возьмуць яго на Зямлю, бо, проста, яшчэ не вырас. У школу ходзіць, а, каб быць высланым у касмічную экспедыцыю, трэба мець вялікія веды і выказацца навуковымі дасягненнямі і публікацыямі ў кнігах і часопісах. На Макіне навукай не хіба толькі Жывіны (скажу вам у таямніцы, што яны трохі падобныя да нашых людзей), а Вытворы і Махіны лічаць гэта сэнсам жыцця: як найбольш спазнаць і ўчыніць нешта на карысць цывілізацыі. Каб усе былі здаровымі, задаволенымі, бяспечнымі, мелі цікавы занятак і жылі ў згодзе і любові адны з аднымі і з іншымі істотамі.

Праўда, дзеці на Макіне — паслухмяныя па сваёй натуры і ведаюць, што можна, а чаго нельга. А нельга самому без дазволу дарослых і настаўнікаў рабіць небяспечнае, а тым больш пакідаць планету. Космас — справа сур'ёзная! Але Самаходзік, падлетак ужо, не мог стрымацца ад цікаўнасці, і калі вялікая грамада жыхароў Макіна пайшла праводзіць касмічны экіпаж (а мільёны гледачоў маглі гэта ўбачыць з трансляцыі ў відзіне), пакрунуў сваю таемную гайку, якая, у залежнасці ад патрэбы, магла цябе пабольшыць ці паменшыць, закаціўся ў люк, цераз які ўваходзілі на карабель касманаўты. Стаў такім маленькім, што ніхто яго не ўбачыў. Толькі ягоная мама, якая сачыла са свайго агародчыка за стартам карабля, адчула ў сваіх металёвых грудзях нейкі сум і трывогу.

* * *

Самаходзік крадком закаціўся ў люк касмічнага карабля. Дарогі на зямлю не памятае — паколькі адлегласць да Зямлі ад планеты Макін лічыцца ў тысячы святлавых гадоў, і касмічны карабель перамяшчаўся хутчэй чым імчыць святло. Інакш, усе тыя, хто ляцеў бы на іншую планету, нават у сваёй галактыцы, калі б нават дажыў да таго часу, дык быў бы неверагодна старым. А развіццё ведаў ды выкарыстанне іх на планеце Макін дасягнула вялікіх поспехаў, а адным з самых вялікіх, які адмяніў жыццё і разуменне сусвету, была Новая фізіка, якая перавярну-

ла ўсё, да чаго прывыклі макінцяне. Група навукоўцаў дайшла да таго і даказала, што час можа бегчы ў іншы бок, і ўсе тэорыі, якія апіраліся на падобных да нашых сучасных, гэта проста няпраўда. А гэта, хоць можа шакіраваць і вучоных, і звычайных жыхароў нашай планеты і сусвету, можа дазволіць на падарожжы не толькі ў лінеарным часе, але і ў будучыню, і ў мінулае!

Самаходзіку час падарожжа мінуў хутка — ён поўнасцю адключыўся і паглыбіўся ў сон, у якім папраўдзе не спіцца — усе функцыі арганізма самі рэгулююцца і ўдасканальваюцца. Было гэта вялікім дасягненнем макінскай эвалюцыі — не толькі арганізмы Жывін і Выстравоў маглі гэта рабіць у час сну, таксама і неарганічныя целы Махін самарэгуляваліся і самалячыліся ў час адпачынку, да таго ж і набывалі веды, падключыўшыся да лініі сеткі Супервука. Рабілася гэта аўтаматычна, хоць спачатку дзеці Выстравоў, Махін, а тым больш лянівых Жывін, якія лічылі сябе асаблівымі індывідуалістамі, забываліся ўтыкнуцца спецыяльным тонкім пальчыкам-кабелькам у сетку Супервука (разеткі да ягонае сеткі размяшчаліся паўсюдна, у зручных месцах, і трэба было старацца як найчасцей гэта рабіць, каб паспяваць за дасягненнямі навукі). Так што Самаходзік, устаўшы ўжо на Зямлі, быў намнога разумнейшы чым тады, калі ўваходзіў на касмічны карабель!

Выкаціўся Самаходзік у адзін чэрвеньскі еўрапейскі дзень са свайго карабля на Зямлю. Пакрунуў сваю гайку-павялічку, і зрабіўся недзе ў палову нашага еўрапейскага малалітражнага аўтамабіля. Падумаў, і зменшыўся яшчэ напалову. Сонца свяціла моцна, зырчэй чым на Макіне. Вось добра! — можна будзе пакарыстацца палівам! І Самаходзік узняў над сваім тулавам люстраную талерку, якая адразу пачала хапаць сонечныя праменні, накапляць іх у акумулятары, каб нават і ноччу можна было карыстацца каштоўным палівам. Самаходзік ціха рушыў з-пад кустоў, разглядаючыся па ўсіх баках сваімі бліскучкамі-лямпамі. Пакаціўся па пясчанай дарозе. Насупраць яго крочылі на тоненькіх ножках дзве істоты, падобныя часткова да макінскіх Выстравоў і Жывін, толькі намнога меншыя, да таго з целамі часткова накрытымі іншай матэрыяй...

* * *

Насупраць Самаходзіка стаялі двое малых зямлян, людзей. Яны пачалі перамаўляцца адно з адным тоненькімі

гукамі. Самаходзік уключыў свой слоўнік-перамоўнік, але доўгі час не мог зразумець, якой мовай карыстаюцца істоты. Толькі нядаўна быў даведаўся з Супервука, што гэту мову лічаць некаторыя ўжо мёртвай, а нават не мовай, а дыялектам ніжэйшай формы жыцця ў Цэнтральнай Еўропе. Досыць сказаць, што з самаходаў (паводле жыхароў планеты Макін — найвышэйшай форомы жыцця на Зямлі) толькі адзін від меў назву на гэтай мове, — „Ніва". Пі-пік-пік, — пачулі дзеці гукавы вынік гэтай аперацыі, і прагучаў металічны голас:

— Добры дзень. Мяне завуць Самаходзік, варыянт Б, восем гадоў ад праекту.

— Я — Міхась, — сказаў хлопчык, зусім не здзіўлены, і паказаў рукой на дзяўчынку: — А гэта — Юльця. Можна ў цябе сесці?

Самаходзік расчыніў дзверкі. Памаленьку пакаціліся па палявой дарозе. Ніколі Самаходзіку не давялося ехаць па чымсьці такім, мяккім і пыльным, але хутка пераставіў свае параметры, і памчаліся зусім хутка, ды Юльця аж запішчэла:

— У нас няма правоў! Нельга дзецям ездзіць адным на машыне!

— Э-э-э, яна так заўсёды: баіцца! — засмяяўся хлопчык, але сапраўды, нельга ж дзецям самім ездзіць з чужымі.

Сказаў Самаходзік адкуль ён. Нетутэйшы, значыць, зусім іншы ад зямных машын, якія амаль усе без чалавека нікуды не рушацца, нічога не зробяць. Нават калі яны — аўтаматы, робаты. На вялікі сум навяло Самаходзіка тое, што ніяк не можа паразумецца з зямнымі самаходамі. Пад'ехалі да стаянкі каля крамы, а аўтамабілі вырачылі толькі на яго свае шкляныя вочы ды маўчалі. Гэта ж зусім нязгодна з меркаваннямі макінцян наконт іхнай, самаходнай, асаблівай інтэлігентнасці! Лепш удаўся кантакт Самаходзіка з жывёламі, ды, пакуль, толькі з тымі, што прабывалі блізка сяліб. Найцікавейшую размову правёў з сабакам ды свіннёй, што рылася ў зямлі каля плота. Юльця і Міхась не маглі зразумець, як гэта доўга можна хрумкаць, квікаць, віскаць, чмыхаць і цямкаць ды што можа з гэтага вынікнуць. Самае смешнае, што такія ж гукі выдаваў з сябе і Самаходзік.

— Нецікава ім жывецца, — сказаў дзецям, калі рушылі на луг. — Нашы Жывіны, незалежна ад таго, ці траваед-

ныя, ці сонцаедныя, калі б не Супервук, дык зусім не былі б такія разумныя і акуратныя. А ваша свіння — вось інтэлект! Якое ў яе разуменне сусвету! Якая дабрыня! Які матэматычны спрыт!

Пачуўшы слова „матэматычны", дзеці скрывіліся.

— Вы што? — здзівіўся Самаходзік. — Матэматыка — сапраўды каралева сярод навук. Гэта мова, дзякуючы якой я магу з вамі кантактавацца...

* * *

— Давай, будзем цябе называць Сонік, — запрапанавала Юльця. — Таму, што гэта прыгожа. І сонцам кормішся.

Юльця асабліва не арыентавалася ў тэхніцы, і Сонікава тэхніка асабліва яе і не цікавіла, і не здзіўляла. Затое Міхась: о-го-го! Калі б мог, дык патрактаваў бы Самаходзіка-Соніка не лепш, чым дзесяткі сваіх цацак! Таму і ведаў, якая небяспека чакае госця з планеты Макін. Дарослыя ўжо мужчыны не менш цікаўныя да таго, каб растрыбушыць яшчэ адну цацку, хай яна і з іншага свету!

— Сонік, мусім цябе кудысьці схаваць, — рашыў хлопчык. — Бо інакш прыйдуць дарослыя дзядзькі, і забяруць цябе ад нас. А з імі ніколі невядома. Разбяруць цябе на часткі, і не збярэшся ў купку. Расцягнуць кавалачкі цябе па лабараторыях, будуць углядацца ў твае клеткі...

— Клеткі, такія як у вас і хоць бы свінні маюць у нас Выстворы і Жывіны. Выстворы часткова збудаваны з неарганічных структур...

Міхась махнуў толькі шматзначна рукою, кінуўшы вокам на дзяўчынку. Юльця, здаецца, не заўважыла няўпэўненасці ў вачах сябра. Ён, паводле яе, быў вельмі разумным хлопчыкам, з якім гонар быў сябраваць. А Міхасю падабалася яе гарэзлівасць і весялосць. Дабрыня. Юльця, так як і Міхась, вельмі любіла ўглядацца ў жыццё прыроды. Асабліва ўсё маленькае — якое яно цікавае! Чым меншае, мініяцюрнае нават, тым больш прыгожае, хвалюючае. Меншае за іх, дзяцей! Працавітыя мурашкі, жучкі-красуны, казюркі ды матылькі ў колерах вясёлкі... Траўкі, каменьчыкі абточаныя вадою. Дрэвы, што моцна трымаюцца зямлі — жытло тысяч птушак, звяркоў усялякіх... Павучкі, што не баяцца паднебнай прасторы, а іхнія верацёнцы снуюць нітку мацнейшую за ўсё на свеце!..

Павялі дзеці Соніка па лузе, па полі, па лесе... Ля вады прыселі. І расказвалі, і паказвалі. А Сонік, на здзіў, з усім

умеў паразумецца. Разгадваў мову дзятла, вавёркі, дажджавога чарвяка... Ды раптам адчуў, што робіцца нейкі большы, быццам цесна яму ў ягонай металёвай скуры. Горача... Ці не перагрэліся яго камутарары? Вядома, не ад перагрузкі ведамі — ніколі не меў праблем з Супервукам. Гэта, пэўна, ад хвалявання! Ад радасці сустрэч з такімі цікавымі аб'ектамі — малымі і большымі жыхарамі паверхні Зямлі і яе кары, а найбольш з маладымі чалавекамі. „Мы — людзі!" — з гонарам сказала Юльця. — Людзі гэта яшчэ мамы і таты, бабкі і дзядулі, цёці і дзядзі. Людзі маюць колер скуры белы, чорны, карычневы, жаўтаваты..." — „Гэта як і ў нас, на планеце Макін, — уцешыўся Сонік. — І ў вас таксама не мае значэння, які хто колер мае? Праўда? Колер гэта не паказальнік каштоўнасці ні істоты, ні рэчы!"

* * *

Міхась і Юльця паказвалі Соніку з планеты Макін усё тое, пра што ведалі. Пра што ведаюць дзеці на Зямлі ў іх узросце. Напэўна, намнога больш, чым калісьці ў такіх гадах іхныя дзяды, але ўсё ж, не столькі, колькі ведаў Сонік, увесь час падключаны да Супервука, навучальна-навуковага камп'ютэра, якога заданнем было ўсіх жыхароў планеты, незалежна ад віду, пароды ці расы інфармаваць пра новыя дасягненні навукі і падказваць, як усё тое, што пачулі, выкарысталі на практыцы. Калі камусьці прыходзіла ў галаву нейкая новая ідэя, выдумка ці рацыяналізацыя, мог таксама ў любы момант падключыцца, параіцца ў самога Супервука або іншых карыстальнікаў, ці ягоная задума гэта штосьці вартае апрацоўкі і ўвядзення ў жыццё дзеля дабра. Ды нікому ж не прыходзілі ў галаву бесталковыя ці страшныя ідэі, напрыклад, пра новае ружжо для знішчання каго-небудзь ці чаго-небудзь, бо ўсе ведалі, да чаго гэта можа давесці. Ведалі са сваёй гісторыі і з назіранняў над жыццём на іншых планетах. Ну, падумаеце, калі яны ўсе такія разумныя на той планеце Макін, дык чаго ж ім яшчэ шукаць? Ды і шмат памылковых тэорый там у іх, праўда, калі маглі падумаць, што на нашай Зямлі — самыя разумныя — аўтамашыны?!

— Вы замнога пра нас ведаеце, — пакрыўдзілася Юльця. — Ты больш ведаеш ад мяне, напрыклад, бо ж я яшчэ толькі трэці год хаджу ў школу. Хаджу, хаджу! Столькі тае хады! А калі б вечарком падключылася сама да тако-

га Супервука, дык устала б разумнейшая ад майго дзядзькі Аліка! Ён займаецца камп'ютэрамі, яго яны слухаюцца!

— Ды што ты, — махнуў рукой Міхась. — Акурат там у іх, у камп'ютэраў, розум які ёсць! Слухаюцца! Гэта ён ім загадвае, на ўсё ёсць праграма. Хочаш — будзе з табой у шахматы іграць, такі камп'ютэр, але, калі на майстра трапіць, дык прайграе! Лічыць то ён умее...

— Тут справа не толькі ў той, скажам, матэматыцы, — сказаў Сонік вельмі разумна, на Юльчын густ, аж яе скаланула, бо ўспомніліся ёй задачы пра два цягнікі. — Тут істотнае ўяўленне. Вось у нас з гэтым клопат на Макіне. Самое ўяўленне цяжка ўявіць, што гэта такое. Мы ў яго перасталі верыць, бо нам яно ўжо непатрэбнае. І цікаўнасць у мяне не такая, як, скажам, у майго дзядулі. Самому не трэба шукаць, усё — у Супервуку. Пра нас, пра іншых. І тым больш сумненняў няма, бо ж ведаем, што Супервук — справядлівы, праўдзівы, можна яму абсалютна верыць. Ён прыхільны да ўсіх аднолькава, шчодры, аб'ектыўны...

— Нам бы такога настаўніка... — уздыхнуў Міхась.

* * *

— Мы пра вас ведаем так мала, а вы, усё ж, шмат, — пакрыўдзілася Юльця. — Гэта проста несправядліва.

— Чаму несправядліва? — здзівіўся самаходзік Сонік. — За намі, жыхарамі планеты Макін, стаяць гады і стагоддзі дасведчання і кантактаў з Іншымі ў касмічнай прасторы. Мелі мы пастаянныя сустрэчы і з Зямлёй, яшчэ да вашай так званай эпохі старажытнасці, прызямляліся тут не раз...

— Ты, Сонік, гаворыш гэта так, быццам сам гэта рабіў. Табе ж толькі сем гадоў! Тую старажытнасць нам цяжка нават уявіць, калі гэта было... Не мелі ж мы яшчэ ў школе такога прадмета як гісторыя... — паківала галавой Юльця.

— Кажу „мы", бо гэта традыцыя, пачуццё сувязі з тым што было, што чынілася кожным з нас асобна і разам. Ці Жывінамі, ці Выстворамі, ці наканец Махінамі. І іншымі істотамі з іншых светаў, з якімі мы супрацоўнічаем.

— А ці ўсе хочуць з вамі супрацоўнічаць? Нам усё ў кіно паказваюць зорныя войны, — здзівіўся Міхась і паглядзеў на неба, якое сталі завалакаць хмары.

— Вайна — гэта не ёсць добры прыклад для нікога, бо не вядзе да нічога добрага, — сказаў Сонік і звінуў са свайго даху сонечную карбаваную талерку. — Ці не на дождж збіраецца?

**— Ага, — пацвердзіў Міхась. — Мусім цябе некуды схаваць. Ведаем адно такое месца, куды мала хто заходзіць. Гэта пунька дзеда Івана. Калі нават дзед цябе ўбачыць, будзе ведаць, што ты — наш. Рознае ў тую пуньку звалакаем...**

**— Я згодны. Маю толькі пытанне, ці там ёсць громаадвод. Бо ж на буру збіраецца. Калі няма, дык прыйдзецца мне хуценька яго змайстраваць. Маланкі — справа вельмі небяспечная. Іх баіцца нават Супервук. А раз, ведаеце, праз выпадковае загаранне ў кантактах стварылася новая тэорыя, якая...**

**— Не вельмі я цямлю ў гэтакіх справах, — уздыхнула Юльця. — Але ў выпадковае стварэнне цуду я веру. Хоць бы, напрыклад, разліла я мінулай вясною зялёны атрамант, і выліўся ён мне ў вельмі цікавую пляму. Забаўлялася я, пэцкала фарбамі, а ўчора даведалася, што мая карціна выйграла міжнародны конкурс!**

**— Вось дык мастацтва! — ухмыльнуўся Міхась; ён таксама стартаваў у гэтым мастацкім конкурсе для дзяцей „Наша Зямля праз чвэрць стагоддзя" (за іх бацькоў арганізоўваліся такія конкурсы „Зямля праз сто гадоў" або „Зямля ў наступным тысячагоддзі"), намаляваў быў аўтаматы замест людзей, дык чамусьці міжнароднае журы ягонай працы не заўважыла, а вось, гляньце, узнагародзіла такую пэцкалу!**

**— Вось дык мастацтва! — сказаў і Сонік. — Вось гэта і ёсць уяўленне!**

*** * ***

**Збіралася на дождж, дык дзеці завялі Соніка на падворак дзеда Івана. Дзед Іван гэта не быў дзядуля ні Юльцін, ні Міхасёў, а дзед усіх дзяцей у мястэчку. Як казаў, не быў ён „такі стары", бо толькі васьмідзесяцішасцігадовы (ой, якое ж доўгае слова!), і такі, як усе дзяды павінны быць — сівы, нават барадаты. Была ў яго калісьці і баба Люба, ды захварэла так моцна... Дзеці вельмі шкадавалі, што няма ў іх цяпер бабы Любы, якая частавала ўсіх грушкамі-дзічкамі і пірагом, ткала каляровыя паяскі і ведала тысячы казак! Тысячы! Дзед Іван таксама ведаў казкі, ды не такія, што ў кніжках друкуюцца — пра цмокаў, бабаўягаў, гномаў, жалезных ваўкоў... Ага, пра жалезнага ваўка казку ведаў, ды той воўк дык увогуле мала што жалезны быў, ды і лятаць умеў, насіў Яську-героя ў паднябессі...**

**Тэхніку добра ведаў дзед Іван, а ў ягонай пуньцы, куды і дзеці, як мы ўжо ўспомнілі, „звалакалі" ўсякую ўсячыну, таксама і жалезіва рознае, якое траплялася на дарозе, было ўсяго! Не пералічыш: і гайкі, і колы, і часткі гадзіннікаў, і камп'ютэрныя маніторы, радыёпрыёмнікі, якія яшчэ працавалі, час ад часу нават не чапаныя папісквалі таямніча... „Гэта хвалі!" — тлумачыў тое папіскванне ды булькание дзед Іван. — Радыёпрыёмніку сумна, дык шукае суразмоўцы... там, далёка!" Падымаў сваю белую бараду дзед Іван, папраўляў акуляры на гарбатым носе, і тыкаў пальцам проста ў неба. Іншыя людзі называлі старога, лагодна кажучы, дзіваком, лічылі яго несур'ёзным пенсіянерам, які забаўляецца, не меўшы іншага занятку. Дзед на пенсіі быў даўно. Казаў, тры войны перажыў, маленькім быў у далёкай Сібіры, пасля, вялікі ўжо, зноўку туды трапіў. Пра гэта не вельмі любіў расказваць, ці добра яму там было, ці кепска... Увогуле, не любіў наракаць, а, наадварот, умеў суцешыць кожнага, хто зайшоў у ягоную хатку, дзе жыве з кнігамі і коцікам ды сабачкам, ці ў пуньку, дзе многа цікавага можна ўбачыць і зрабіць.**

**Павярнуў сваю памяншальную гайку Сонік, заехаў у дзедаву пуньку. Ледзь паспелі перад дажджом, які забубніў у бляшаны дах. Дзед Іван нічагуткі не здзівіўся, убачыўшы пасярод ламачча супер-бліскучую аўтамашыну. Тым больш, калі яна азвалася да яго па-беларуску.**

**— Ага, Сонік называешся, з планеты Макін! Спадзяваўся я, што ўрэшце ўбачу адтуль кагосьці. З пасланнем прыбываеш? Для ўсяго чалавецтва?**

**— Не, я проста так... з цікавасці.**

**— А не страшна табе? — пагладзіў дзед Іван Соніка па капоце. — На Зямлі рознае чакаць можа істоту іншую чым усе. Я добра ведаю... Казаў я ў свой час пра Вас, пісаў артыкулы, дык палічылі мяне шаленцам. Ой, дай, дакрануся да цябе яшчэ раз, а вы мяне ўшчыпніце, дзеткі, бо мне здаецца, што сню...**

*** * ***

**Дзед Іван не здзівіўся ані крышкі, убачыўшы ў сваёй пуньцы дзяцей з Сонікам, праўда, рашуча паменшаным, але, усё ж, па якім адразу відна было, што аўтамабіль ён не наш, нават не заходні, а ёсць у ім штосьці суперсучаснае. Можа, гэтая незвычайная гладкасць чыстага капота, які, незалежна ад таго, што Сонік ганяўся з Міхасём і Юль-**

цяй па пыльных дарогах, не страціў свайго бляску? Вядома, кожны чалавек, дарослы і інтэлігентны, не паверыць, што машына, тым больш аўто, можа гаварыць. Праўда, бываюць машыны, якія выказваюцца, але ж усё там у іх запісана як на магнітафоне; уключыш, адкажа, але толькі тымі самымі словамі, што яму загадалі. А каб свабодна паразмаўляць на розныя тэмы? Самому задаць цікавае пытанне? Для гэтага патрэбны мозг, не такі, як маюць звычайныя машыны!

Звычайнае, **нармальнае** не здзіўляе нармальных, звычайных дарослых людзей. Іншае лічаць дзівам, глупствам, выбрыкам натуры, мутацыяй або вынікам хворага ўяўлення. Таму дзеду Івану, калі пісаў і гаварыў пра Нязведанае, раілі ісці лячыць свой розум. Калі б ён быў дзіцём да гэтай пары, можа, гэта дарослых людзей не здзіўляла б; самі расказваюць сваім дзецям казкі, дзе поўна фантастыкі ды магіі, але вядома ўсім дарослым, што таго няма ў рэальным свеце. А калі б убачыў які такое дзіва ўласнымі вачыма, дык падумаў бы, што, вось, сам з глузду з'ехаў. Менавіта так. І каб ніхто гэтак пра яго не падумаў, дык маўчыць. Няма гномікаў, сапраўднага Дзеда Мароза, зданяў і, вядома, іншапланецян... Не верылі ў перадаванне на адлегласць гуку ці вобразу (тэлефон, тэлебачанне), як цяпер пра тэлепартацыю, тэлекінез і іншыя тэле-чарадзействы. А кожнае дзіця ведае, што калі ты далёка ад мамы, а яна пра цябе падумае, ты адразу ведаеш пра гэта. А калі пра штосьці марыць, дык яно здзейсніцца. І што рэч можа быць іншай рэччу, калі мы гэтага хочам або назавем яе інакшай...

— Табою, Сонік, апрача цікавасці, не кіраваў ніякі іншы намер? — запытаўся дзед Іван. — Я, калі б трапіў да Вас, хацеў бы даведацца як найбольш карыснага, а пасля вярнуцца, і запрапанаваць нашым розныя новыя рашэнні... Хаця, хто там гэта ведае, як гэта прынялі б людзі, калі б даведаліся, што гэта ўсё — ад іншых, больш развітых, таму і небяспечных...

— Мы зусім не небяспечныя! Нікому не пагражаем і не хочам, каб нас баяліся. Мы добрыя.

— Людзі заўсёды бачылі небяспеку ў тых, хто вылучаўся. Ты чуў пра Ісуса?

— Ісус з Назарэту, яўрэй па паходжанні. Мы з яго думкі ўзялі шмат у 2033 годзе вашай сучаснасці...

— Дык ведаеш, чым кончыўся яго зямны быт?..

— Ведаю, дык папраўдзе няма чагосьці такога як смерць матэрыі...

Міхась ды Юльця цяжка ўздыхнулі. Па даху пунькі тупацеў лівень, паветра сустрасаў часты гром.

* * *

За сценамі пунькі дзеда Івана разгулялася бура. Было трошкі страшнавата. Хіба толькі дзед, які рознае бачыў у сваім жыцці, над якога галавой гудзелі калісьці выбухі снарадаў і бомб, здавалася, зусім не лякаўся. Паадключаў толькі розныя машыны ад электрычнага току, бо ў час навальніцы небяспечна карыстацца такім абсталяваннем. Сонік, выставіўшы чатыры антэны, усхвалявана перавальваўся з кола на кола, ёрзаў, тузаўся то ў адзін, то ў другі бок па застаўленай тэхнікай пуньцы.

— Ты баішся... — паляпаў яго па капоце дзед Іван. — Няма чаго.

— Мне не так страшна, ды наш карабель там застаўся... У ляску. Што будзе, калі...

— Напэўна, забяспечыліся ад такіх выпадкаў. Праляцелі такі кавалак космасу, а баяцца звычайнай буры? — здзівіўся Міхась.

— Я благое прадчуваю... У нас, малых, вельмі развінута інтуіцыя... Мне трэба да іх...

— Давай, спакойна пасядзім... Хочаш, уключу цябе ў Інтэрнэт. У мяне доступ да яго добра забяспечаны, нават у буру нічога на пагражае.

— Ой, добра, — уцешыўся Сонік. — Хоць крыху займуся, каб не думаць... Ды і за Супервукам я засумаваў... Давай...

Адсунуў дзед Іван аграмадны бляшаны ліст, які служыў за шырму, засланяючую найбольш таемную частку старое пунькі, і ўсе ўбачылі сучасны камп'ютэр. Раней тут стаяў шэры складачок, знаёмы дзецям, які, праўда, спалучаў з усім светам, але дзе яму было да гэтай цацкі!

— Набыў за ашчаджаныя грошы, — усміхнуўся дзед Іван і падвёў Соніка да машыны. — Японскі.

Сонік піснуў, забулькаў, выцягнуў антэнку, даткнуў ёю да камп'ютэра. Адтуль азваліся такія ж галасы. Сонік прымасціўся зручней. На экране нешта захвалявалася, а пасля зрабіўся ён блакітна-шэры, і штосьці там вурчэла ціхенька, як кацяня. Працягвалася гэта якіх хвілін пяць. У той час Юльця занялася нейкімі пруцікамі, што ляжалі на стол-

ку, стала звіваць іх у пружынку. Міхась утаропіўся ў экран. Дзед сядзеў у старым фатэлі і ўсміхаўся.

— Ну і што, Сонік? Усё табе прыдасца з таго, што даведаўся?

Сонік адключыўся ад камп'ютэра.

— Не вельмі ўпэўнены я ў гэтым. Ёсць такія інфармацыі, якія пярэчаць адна адной. Зусім нелагічна, бо ўсе яны падаюцца як праўдзівыя. Але, практычна, у маёй памяці цяпер усё... з усяго вашага свету...

— Як ты гэта можаш вытрымаць? — здзівілася Юльця. — Мне, калі я трохі больш павучуся, дык галава моцна баліць. А, вось, я табе аздобу зрабіла, медную пружынку, на памятку...

* * *

Навальніца сціхла. Сонік памалу аддыхваўся ад аграмаднай колькасці інфармацый, якія трапілі ў яго памяць з Інтэрнэту. Штосьці ціха шумела ў яго сярэдзіне.

— Перабіраю інфармацыі, — растлумачыў самаходзік. — Для разгляду, праверкі адкідаю інфармацыі, нязгодныя адна з адной. А то, сапраўды, ад гэтага смецця можна папсавацца, словам — здурэць!

— Вось, вось! — згадзіўся Міхась. — Таксама ў школе: калі не перафільтруеш усяго ў мазгах, дык поўнасцю з глузду з'едзеш!

— З чаго з'едзеш? — перапытаў Сонік. — Як файна сказана!

Выйшлі з пунькі на вуліцу. Ужо вечарэла. Трэба дадому дзецям збірацца.

— Давайце, падыдзем да таго месца, дзе мы прызямліліся, — папрасіў Сонік. — Неяк мне неспакойна на душы...

На палянцы, дзе прызямліўся быў касмічны карабель з планеты Макін, апроч выгарэлага круга, цяпер поўнага дажджавой вады, нічога не было. Сонік пад'ехаў да самага берага долу.

— Няма іх, — прастагнаў самаходзік, а голас яго быў металічны, зусім іншы, чым нядаўна. Напэўна, моцна хваляваўся.

— Не перажывай! — суцешыў яго дзед Іван. — Можа, не адляцелі?..

— Таму мне і страшна! А што, калі іх хтосьці тут знайшоў?! Калі забралі іх вашы? Або... згарэлі ад перуна?!

— Калі б ударыў у іх пярун, дык мы пачулі б? Праўда, дзеці?

**— Напэўна! — усклікнула Юльця — Сонік, напэўна твае макінцяне падаліся кудысьці далей, схаваліся. А калі што, дык... заставайся з намі!**

**Сонік заціх.**

**— Медзь! Медзь! — раптам усклікнуў. — Юльця, дзе твая пружынка? Дай мне яе сюды!**

**Юльця прыклала пружынку да антэнкі, якую працягнуў Сонік. З антэнкі высунуліся шчупальцы, якія спраўна ўхапілі пружынку і прыклалі яе да берага абгарэлай ямы.**

**— Не прапалі, не згарэлі! І не адправіліся яшчэ назад... — голас Соніка задрыжаў.**

**— Думаеш пра родных, пра дом... — усміхнуўся дзед Іван. — А, можа, усё ж, астанься з намі. Наведаем усю зямлю, усё, што зможам, табе пакажам...**

**— Засумаваў я за татам, мамай, дзедкам, бабуляй, братам... — уздыхнуў Сонік. — Найбольш мне мамы шкада! Уяўляю, як яна там перажывае! Напэўна, дадумалася, што я самавольна ўцёк на Зямлю. А гэта ж не былі ўцёкі, проста, выбраўся я да вас, паглядзець, як там на Зямлі жывецца...**

**Сонік ад успаміну, здавалася, аж засвяціўся.**

*** * ***

**Ужо сцямнела. Самаходзік з планеты Макін, які разам з Юльцяй і Міхасём ды дзедам Іванам шукаў сваіх таварышаў і касмічны карабель, на якім прыляцеў на Зямлю, засумаваў.**

**— Пераначуеш у нас, — запрапанавала Юльця. — Я забяру цябе дахаты. А заўтра — нядзеля, дык у нас часу будзе шмат, будзем далей шукаць твой карабель. А мо назаўсёды ў нас застанься...**

**— Ага, забярэш! Куды яго паставіш? Лепш няхай застанецца ў пуньцы ў дзеда Івана, або ў мяне! — запрапанаваў Міхась. — Ты, Юльця, жывеш у кватэры, а ў мяне дом з падворкам...**

**— Я ж паменшыцца ўмею, хопіць абярнуць гайку. Маленькі стану зусім...**

**Сонік маланкава стаў змяншацца, аж стаў такі малюсенькі, што Юльця паклала яго ў кішэню. Дзяўчынка, на зайздрасць Міхасю, забрала Соніка дадому. Бо ж позна ўжо было, тата з мамай неспакояцца. І праўда, яе бацькі ўжо званілі сям'і Міхасёвай, пыталіся, куды падзеліся дзеці. Праўда, бывала, што, зацікаўленыя чымсьці, проста за-**

**бываліся, на якім яны свеце, але ж заўсёды маглі пазваніць дахаты. Калі не знайшлі іх у дзеда Івана, дык збіраліся ўжо на паліцыю тэлефанаваць! Рознае ж на свеце бывае — паглядзіце толькі ў тэлевізар, паслухайце радыё! Колькі дзяцей прападае!**

**У тую ноч Соніку не спалася. А ж мог поўнасцю адключыцца — пасля такога падарожжа ды дня на Зямлі! Пад раніцу выкаціўся з-пад Юльчынай падушкі, паехаў на балкон і спусціўся з першага паверха. Пакаціўся ў бок пунькі дзеда Івана. Дзед таксама не спаў, сядзеў на лаўцы пад пунькай, узіраўся ў неба.**

**— Так, дачакаўся я... — уздыхнуў дзед Іван. — І рады я вельмі, што вы, на планеце Макін, справіліся з праблемамі...**

**— Шмат залежыць ад тых, хто кіруе. Выбіраем самых разумных і добрых з усіх Жывін, Выствораў і Махін, карыстаемся найлепшымі дасягненнямі іншых, — адказаў Сонік, які прымасціўся побач на лаўцы, маленькі ў гэты момант, і вельмі забаўна выглядала б гэта, што ён сказаў з прычыны яго цацачнага выгляду. Ды дзед Іван не смяяўся.**

**— Неўзабаве вернешся да сябе, праўда? А што возьмеш ад нас?**

**— Няхай дзеці скажуць.**

**— Добра, няхай падумаюць. Таксама тыя, хто чытае нашу гісторыю...**

**Калі ласка, напішыце ў „Зорку", што вы хацелі б перадаць праз пасрэдніцтва Соніка жыхарам планеты Макін.**

## МУРАШКА ПАРАСКА

**Мурашак у мурашніку... Ну, колькі іх там? Як думаеце? Сотні, тысячы, мільёны? Многа-многа! А кожная з іх ведае, дзе яе месца. Выклёўваецца, як кожнае насякомае, і адразу ведае, што рабіць. Ці яна матка-каралева, ці работніца, ці кладаўшчыца, ці стражніца-ваярка. А мо ў іх і мурашыная школа ёсць там, не ведаю, там, дзе маленькія мурашачкі вучацца, як жыць у гэткім аграмадным доме, а можа нават і дзяржаве, бо ў якім доме столькі народу жыве! Пэўна, і цэнтр прыбірання ў мурашніку патрэбны, бо, пэўна, смяццё іх засыпала б, як, скажам, Нью-**

Йорк за час уік-энду. А, можа, і не — кожная мурашка дбае пра чысціню, і тых прыбіральшчыц не трэба? І кожная жыхарка таго мегаполіса, як я ўжо сказала, ведае, чым ёй заняцца, куды спяшаць, якая мэта яе існавання ў гэтым арганізме. І імя ў кожнае ёсць сваё, па ім яе сёстры распазнаюць. Гэта як знак, які вынікае з генетычнага коду і прыдатнасці ў грамадстве.

А мурашка Параска не ведае, што ёй рабіць. Мо ў час, калі ў яечку і лічынцы развівалася, штосьці здарылася з тым яе кодам? І вырасла Параска, і не ведае, куды дзецца. Пабегла пытацца, а кожная дарослая сястрыца занята сваёю справай. Матка толькі яечка зносіць, бабулі памаленьку свае пенсійныя заняткі адрабляюць. З яечкам ці лічынкай не паразмаўляеш. Куды ні ткнецца Параска, усюды перасякаюць ёй дарогу працоўныя мітуслівыя шляхі. Спрабавала далучыцца да мурашак, што валаклі ў кладоўку мёртвага матыля, дык ім толькі перашкодзіла — яны так спраўна перабіралі лапкамі, падымалі аграмадзіну на сваіх спінах! Прыпадняла сваім ахвотным плечуком Параска таго матыля, дык здабыча зусім звалілася. Злякалася Параска, што мурашкі на яе пагневаюцца, ды тыя толькі страпянуліся, ухнулі, падчапілі матыля і зноў спраўна панеслі яго ў мурашніковы лабірынты.

Параска рушыла наперад, праз лес. Праз лес травы, кустоў, дрэў... Трава тая для яе як для нас аграмадныя дрэвы — уяўляеце сабе, як можа быць страшна ёй, малюсенькай мурашцы? Напэўна страшней, чым нам у новай школе! А Параска, натэпаўшыся па лесе, полі, абочыне асфальтавай дарогі, трапіла якраз у школу. Пачаў пакрапваць дожджык. Параска палезла па сухой шчыліне ў муры, перабегла падваконнік і прытаілася ў цяпле кухні вясковае школы. Яна, вядома, не ведала, куды трапіла. Але з прыемнасцю пачаставалася крышталікамі цукру, якія хтосьці тут рассыпаў. Ужо задрамала, падклаўшы лапкі пад галаву, як пачула страшны лямант мух: „Бз-з-з, жыць нам не даюць, у-у-у!" Гэта вялікая кухарка, баба Зося, размахваючы аэразолем, пыліла ім па ўсім памяшканні. Словам, праганяла мух са школьнае кухні, палохаючы іх смяртэльнай атрутай. Параска пабегла за акно, прытаілася ў цёплай шчыліне...

* * *

Мурашка Параска, прытаіўшыся ў нагрэтай сонцам шчыліне ў муры школы прачакала чэрвеньскі лівень над вё-

скай. Калі кухарка расчыніла акно, з залы даляцеў едкі і непрыемны пах атруты на насякомых. Ды ніводная муха не загінула ў гэты раз — паўцякалі ўсе. Жыць жа хочацца і мусе, і мурашцы, і чалавеку, хоць кожнае з іх рознае па росту.

— Маеш і ты шчасце, малая! — прабзычала тоўстая муха Маланка. — Чаго ж перціся ў такі момант у школу!

— А што такое школа?

— Гэта тут, дзе цёпла, смачна, і вельмі гучна. І брудна дзе-нідзе... Я, калі брудна, люблю.

— А што гэта брудна?..

— Гэта калі многа смаку, паху, макроты... Смецця ўсялякага цікавага. Там рассесціся можна, наесціся, пакупацца ў брудзе... — паглядзела на Параску муха сваёй тысячу вачэй.

— Ыыы-ыы, — заныла штосьці ў Парасчыных вантробах.

— Гэта, здаецца, непрыемна... У нас у мурашніку ўсё чысценька, прыбрана, няма лішняга смецця...

— Мурашнік? Бз-з-з... Бачыла. Выглядае як куча смецця. А што вы там робіце?

— Працуем. Будуем, рыхтуем ежу, гадуем малых, — успомніла Параска. — Ага... Я нічога не ўмела, дык не рабіла. Яшчэ...

— Вось таму, што не навучылася. Трэба ў школу хадзіць.

— А ў вас мушыная школа ёсць?

— Я ў мушыную не хадзіла, а ў гэту. Люблю на геаграфію лятаць — там на картах столькі находзішся! Па ўсім свеце! Наставіла я на тых картах сваіх кропак! Дзе была, усюды значыла: „Тут была Маланка!" Ведаюць мяне і ў Канадзе, і ў Аўстраліі...

— Ох, а дзе ж гэта ёсць?

— Аўстралія з другога боку свету. Там, чуеш, нават людзі ўмець хадзіць як мы, дагары нагамі. Уяўляеш сабе, людзі! Ляцім, пакажу табе карту.

— А ў мяне крыльцаў няма...

— З-э-э! — махнула лапкамі на мурашку муха ды паляцела ў акно на другім паверсе.

— Далё-ёка! — задзерла ўверх галоўку Параска. — Мо там тая Аўстралія?

Палезла па ліштве ў другое акно, з якога не пахла атрутай. А там у класе сядзелі дзеці, пазяхалі ды чухаліся па вушах — ніяк ім туды не лезла навука. То ж канікулы не за гарамі. Параска прысела за вазонам на стале настаўніцы.

— Папрацуйце яшчэ крышку, мае вы мурашачкі, — папрасіла пані. — Гэта ж апошнія дні ў школе ў гэтым школьным годзе. І ўвогуле ў нашай школе. Я столькі год тут працавала, вучыла і вашых бацькоў... І сама тут вучылася. Нашу школу зачыняюць...

З вачэй настаўніцы на стол штосьці капнула. Лізнула Параска — салонае...

* * *

Параска слухала, як настаўніца ціхім голасам чытае верш — неяк ён закалыхваў яе душу, наводзіў нават крыху дрэму... Вучні таксама прыціхлі — можа, захапляліся вершам, а мо таксама пачалі падрэмваць. А за адчыненым акном штосьці дробненька затупацела, запырхала.

— Ты, Цьвіркевіч, — азваўся адзін верабей, шэры з чорнай шапачкай, што прысеў на падваконніку з другога боку, — зноў слухаеш вершыкі? Такі ты сам тутэйшы, як і я! А мне ў галаве толькі адно: паесці каб добра было, хутка ды смачна, а ты мне пра „мой родны кут"! Каб умеў так лятаць, як буслы ды жаваранкі, ды і не ленаваўся, дык паляцеў бы нават і ў цёплы край! Абы цяплей! Абы смачней! Хоць, ціў ды ціў, мне тутака добра — там зернейка, тут зернейка, там крышынка хлеба, тут бульбы з паловай кавалачак... А што вераб'ю больш да шчасця трэба. І каб які куточак паспаць, схаваўшы галаву пад крыло... Адно мне зімы не вельмі падабаюцца...

— Многа ты зімаў бачыў, Сьвіркевіч! Ды і зімкай так прыгожа... — падскочыў рудаваты Цьвіркевіч. — Ну, зусім ты не патрыёт! Яшчэ крыху, дык загаварыў бы па-буслінаму, па-сойчынаму!

— Нікому веданне моў не пашкодзіла ў жыцці! А ў кар'еры, дык падумай! Клекатаў бы я як бусел, дык... Ты чуў пра Егіпет! Ну, на ўроку геаграфіі, на другім паверсе... Там, дзе канапкі з сырам дзеці выкладваюць на падваконнік?.. Ну?

— Прычым тут сыр! Табе што, здаецца — вывучыў мову, дык ты ўжо бусел? А як ты з мамкай размаўляць будзеш?

— Што там мамка! Аджыла пад сваёю страхой, нічога не ведае! Сорамна мець такую мамку... Нідзе не бывала, свету не бачыла, не разбіраецца ні ў чым... Адно яйкі ўмее несці, выседжваць, чарвячкоў шукаць! Сыру, вось, у дзюбу нават і не брала!

— Ты, Сьвіркевіч, не ганьбуй ёю! Што я аддаў бы, каб

мая мамка жыла! Нашто ёй, маладзенькай, было крыльцы скласці...

Параска ўздыхнула. А дзе ж яе мамка? Мамка мурашыная столькі дзетак мае... Ці памятае адну сваю дачку, маленькую Параску? Было ж тых яечак!.. Папраўдзе, Параска не мела часу нават да мамкі прытуліцца... Можа, Параска да яе зусім непадобная, нейкая няўдалая... Помніцца ёй нешта як агульная калыска, адкуль выкараскалася, і мамкі не было ўжо, а нянькі агледзелі маленькую, праверылі, ці ўсе ў яе ножкі ды вочкі, ды адправілі ў свет — ідзі, рабі што трэба!

— Ай! — піснула Параска, ды яе голасу не пачулі ні пані, ні дзеці, ні верабей Сьвіркевіч, які нацэліўся ўдзябнуць ёй у жывот. Стрымгалоў кінулася ў цёмную пячору вялікай сумкі настаўніцы.

* * *

У сумцы настаўніцы было цеснавата мурашцы — куды ні сунешся, усюды сашчэпленыя паперы, сшыткі, аўтаручкі, алоўкі, гладкія, коўзкія вокладкі кніжак, калькулятар... Панаваў у вялікай сумцы ледзь улоўны пах, які Параска ўчула і ў школе, да таго папахвала чамусьці і лесам — сасной і траўкамі неслася ад маленькай бутэлечкі, якая спачывала ў асобнай сумачцы, разам з папяровымі хусточкамі і іншымі рэчамі, прызначэнне якіх мурашцы было невядомае — бо адкуль жа ведаць, што носіць у сваёй сумцы чалавек? Торба пагойдвалася — настаўніца ішла, прыставаючы, аж урэшце скрыпнула брамка, зусім блізка Парасчынага вуха забрахаў сабака, пасля запішчаў, і торба небяспечна загайдалася — сабака пазнаў настаўніцу, і ад радасці ўскочыў лапамі на яе сумку. Жанчына лагодна прамовіла да яго. Пасля заскрыпелі дзверы, загаманілі людзі. Параска ўчула далікатны тоненькі галасок, які заінтрыгаваў яе так, што хуценька вылезла дзірачкай каля замочка ў сумцы, падзівіцца.

Настаўніца сядзела за сталом. На стале ляжалі кнігі, шумеў уключаны камп'ютэр. У высокім крэсле на калёсіках сядзела дзяўчынка, падпярэзаная паясамі. Галоўка яе слаба трымалася на тоненькай шыі, але дзяўчынка бадзёра ўсміхалася. За ёю стаяла яе мама. Гэта напэўна мама дзяўчынкі, падумала Параска, бо ў яе самое аж зашчымела сэрца — столькі любові і шкадобы было ў вачах гэтага чалавека! Параска перабегла са стала па руцэ дзяўчынкі,

прысела на яе плячы.

— Вельмі дзякуем за дапамогу нашай Басі, пані Марыся, — сказала Басіна мама.

— Бася — надта таленавітая і працавітая дзяўчынка. І характар у яе моцны. А на камп'ютэры знаецца куды лепш за мяне! — усміхнулася настаўніца і пагладзіла вучаніцу па галоўцы. — Новыя адукацыйныя праграмы — вялікая дапамога для дзяцей, якія не могуць хадзіць у школу.

— Школа гэта не толькі набыванне ведаў, — сумна азвалася Бася.

Параска ўздрыганулася. Праўда, ёй без іншых мурашак таксама стала сумнавата. Праўда, не было часу сумаваць, бо ўсё наўкола такое цікавае. І як добра, што Параска можа бегаць, хадзіць, а вось чалавечая дзяўчынка не можа сама варухнуцца, а пальчыкі ў яе — кожны ў свой бок... Паглядзела мурашка на свае ножкі ды лапкі, спраўныя і рухавыя, выгнула свой стан, пакруціла галоўкай. Вось якое шчасце — усё ў парадку, усё цэлае, гнуткае, пругкае. І пабегчы можна і ў школу, і ў поле...

Адчула Параска на сабе чыйсьці позірк. Адчувалі вы такое? Быццам да вас дакрануліся чыесь вочы, нават калі той хтосьці за вашаю спінаю стаіць. А гэта Бася ўбачыла Параску, і вочы ў яе засвяціліся.

* * *

Параска прысела на рукаве Басінага валахатага швэдрыка. Пушыстыя валасіны, з якіх было сплецена адзенне, тырчалі каля яе цела, як травіны, казыталі Параску ў нос. „Пчых!" — чхнула мурашка.

— Будзь здаровая! — адказала ёй Бася. — Ты, мурашачка, здаецца, алергічка, не пераносіш казінай шэрсці. У мяне алергія на каровіна малако, на каціныя ды сабачыя валасы, і мне нельга дакранацца да звяроў. А так мне хочацца мець такога жывога сябра...

— Не ведаю, ці ў мяне ёсць гэтая... алер... як ёй там... Здаецца, у мяне была алергія на мурашнік, або іншыя мурашкі на мяне яе мелі... Ніяк я там не ўжылася... І сяброваk там у мяне не было... Дык зышла я адтуль...

— Таму што ты яшчэ маленькая, дык не мела часу здабыць сяброў. Ніхто з табою не паспеў пазнаёміцца, убачыць, што ты добрая, разумная, прыгожая...

— Я... прыгожая? Разумная! Ой! — уцешылася Параска. — А адкуль ты, дзяўчынка, гэта ведаеш?

— Я вельмі моцна гэта адчуваю. Бачыш, мне цяжка варушыцца, не магу рабіць шмат што... Пра гэта той, у каго праблем няма, нават і не думае... І шмат у мяне часу на думкі. А калі вельмі, вельмі моцна падумаць, усёй душой, дык бачыш нябачнае.

Параска заплюшчыла вочы, абхапіла лапкамі галоўку і пастаралася вельмі глыбока задумацца. Спачатку ў вачах стала цёмна, пасля пайшлі кругі... Пасля Параска адчула нейкае цяпло, дабрыню, супакой, і ўбачыла сваё гняздзечка, дзе нарадзілася. Пасля абнялі яе цёплыя лапкі. Мурашка-нянька дакраналася да ўсіх частак Парасчынага цельца, правярала, ці яна здаровая, цэлая, пасля... Пагладзіла па галоўцы. Праўда! А Парасцы гэты момант калісьці здаўся нейкім халодным — быццам вось памацалі яе, пералічылі ўсе лапкі, палічылі яе здаровай, нармальнай работніцай мурашніка — ды ідзі! — кінулі ў той звычайны свет! Нават дзіцём не пабыла. А, можа, ужо забылася... Час у мурашак бяжыць зусім іначай, як у людзей...

— А мову адкуль нашу знаеш? — запытала Параска дзяўчынку.

— Усе дзеці ведаюць мову мурашак, ды пасля, калі вырастаюць, у школу ідуць, забываюць. Не толькі мурашыную мову ведаюць, а ўсіх звяроў, птушак, ветру... Пані Марыся, настаўніца, яшчэ крыху памятае. Яна вершы любіць чытаць. Мой камп'ютэр гэтага не ўмее. Але будзе такі час, што і камп'ютэр зможа думаць самастойна, і верш складзе...

Мурашка па Басінай руцэ перайшла на стол, а па стале — да камп'ютэра, а затым — у нейкую шчылінку ў гэтай машыне, што ціха пасапвала і гудзела.

— Ён — цёплы, — азвалася Параска і вынырнула з нутра камп'ютэра.

Значыць, жывы... Можна з ім пасябраваць.

— Не вельмі, — уздыхнула дзяўчынка. — Можа, ты пабудзеш са мною? Пакуль не пойдзеш далей шукаць свайго месца ў свеце?

# ПЧОЛКА ЁЛЬКА

— Усе пчолкі — аднолькавыя! — сказала Каралева вулля малой дачцэ, адной з... мільёна? Колькі дзетак у матулі-каралевы! Не злічыць іх! І ўсе імёны спамятаць!

Што, у пчол імя няма? Таму, што іх столькі, нават у адным вуллі? А ці маці не адрозніць іх аднае ад аднае? А пчолка Ёлька ўзіраецца ў кропельку расы, хоча распазнаць сябе і адрозніць ад маці, іншых маладых пчолак, усяго свету. Усё ў яе — як у звычайнае пчолкі. Галава, вочы, лапкі, калматы паласаты жывоцік... Дакранулася пчолка Ёлька да свайго цела, умакнула лапку і ў кроплю расы... Люстэрка прапала!

— Усе пчолкі аднолькавыя, — паўтарыла маці-каралева. — Ды што я табе буду казаць! Няма ў мяне часу на размову. У школу бяжы, вучыся хутка, што рабіць, каб ведаць сваю ролю ў жыцці!

Падставіла пчолка Ёлька сваю галоўку пад матчыну лапку, каб пагладзіла, паблаславіла на дарогу і, азіраючыся, падалася ў пчаліную школу. А ў школе, як у нашай, толькі намнога хутчэй усё адбываецца. У нас, людзей, сядзіш у той школе гадзіны, тыдні, месяцы, гады... Ой, абрыдне, калі нават і цікава! А ў пчол — раз-два, і ўсё ведаеш! Хто ты будзеш у жыцці, што маеш рабіць, дзе твой дом ды сям'я — каб не блукаў па свеце, а дамоў прылятаў з усенькіх вандровак... Простая справа. Выбар невялікі. Лятай, шукай, прынось пылок... Іншыя пчолкі сядзяць у вуллі, кляяць соты, цэдзяць мёд, кормяць ды вучаць дзетак, а Каралева, хоць і пануючы, напрацуецца як ніхто. Бо ж новыя пакаленні выводзіць!

Разведала пчаліную справу пчолка Ёлька тэарэтычна, увяла ў сваю памяць карту наваколля, і рушыла па пылок. А ўсюды так прыгожа! Сонейка грэе, вецярок варушыць крыльцы, цудоўныя пахі ідуць ад усяе зямлі...

— А чаму ў школе не сказалі, што жыць, апрача таго, што карысна, дык і прыгожа? Цікава, ці іншыя пчолкі, аднолькавыя, як сказала мама, як і я, адчуваюць тое ж самае, ці толькі мне так цудоўна?

— Зум-зум-зум! — адспявалі і іншыя пчолкі сваю праўду. — Прыгожа! І ў кожнае з нас — сваё імя!

## ПЕЦЬКАВА МАРА

Марыў певень пра падарожжа. Ад дзяцінства пад крыламі матулі, разам з гурбой іншых куранятак — жоўтых пухнатых братоў і сясцёр, пасля цікаўных падпеўнікаў і жвавых курачак, калі глядзеў на адчыненую браму, адчуваў прагу пабегчы ў свет. Што там пабегчы — паляцець! А ўдалося толькі разбегчыся, падскочыць, і ўзляцець на жэрдку. Вышэй ад ішных курэй. І заспяваў Пецька хрыплым галаском маладога дваровага певуна, пахваліўся ўсяму свету, што, вось, апынуўся вышэй за іншых курэй. І каб так разам з ластаўкамі, што сядаюць на дратах ды свіргочуць, зводзяцца з яго, бегаючага па панадворку, а нават і з вераб'ямі, што частуюцца з курынага карытца! Ну, гляньце — такі верабей, колькі яго, а дзярэ дзюбу высока! Ніякай пашаны для большых! Пецька і злосны, і крыўдна яму — паглядзіце, атаман ён курэй, слухаюцца ўсе яго, перш за ўсё такога прыгожага, да таго ж разумнага, старанлівага гаспадара і мужа, і гаспадыня ім любуецца, хваліць, добра корміць... Жывецца ж няблага, у цёплым куратніку, і кампанія як трэба... Ну, можа той гусак — шыпун ды крыкун, ніякага класа ў такога няма, ні красы. І валочыцца са сваімі гускамі па лугах, цьфу, плавае ў бруднай вадзе рова. Прыйдуць, напаскудзяць па ўсім панадворку! Нагергечуць, наверашчаць! Якія ў іх галасы — вось, ягоныя кабеты сакочуць, радыя знесенаму яечку, матулі квокчуць, ад захаплення кудахтаюць, а сам Пецька — як жа ён пяе! І як тут кінуць такое месца, дзе яго паважаюць, даюць есці яму і ўсяму сямейству, і захапляюцца яго майстэрствам... Ах, а калі б у той свет! Увесь свет пачуў бы Пецькаву песню! Вось было б! На зайздрасць усім суседскім пеўням! На зайздрасць нават шпакам з вераб'ямі! Той бусел нават задзівіўся б, а ён жа з жонкай бывалыя ў свеце, хоць на спеве не разбіраюцца...

Устане Пецька рана-рана, спаць не можа. Усё думае пра падарожжа. Свет недалёка — зараз жа за брамкай дарога, па якой ходзяць людзі, каровы, сабакі, машыны... Ай, страшна! Трактар, несумненна, Пецькавым спевам не захопіцца. Як ні стараецца Пецька кукарэкаць, ніяк яго не перакрычыць. Пыхкае, вуркоча, раве той трактар. Якое тут мастацтва! Ледзь ад яго ўцячэш! А іншыя

машыны! Усе яны пахнуць непрыемна і ніяк не баяцца пеўня, колькі б не лапатаць на іх крыламі, крычаць ды дзяўбці. Але калі б сыходзіць ім з дарогі, дайсці можна было б далёка ў той свет... Узысці на горку, разбегчыся, і па-а-аляцець! Не спіцца пеўніку... А тут узяла яго ахвота заспяваць. Ноч яшчэ, ну дык і што?!

Высунуў галаву Пецька з-пад крыла, пазяхнуў ды выгукнуў сваё кукарэку. Раз-другі-трэці. А тут і сонца пачало ўзыходзіць. Мабыць, пачула Пецкаў кліч, прачнулася.

— Ку-ка-рэ-ку! Не такі я недарэка! Я — Петручыо! — Пецькава вока адбліснула сонечнае праменне. — Вось, бачыце, сонца мяне паслухала! Ці вы гэта чуеце?

— Чуем, чуем, — адплюшчылі вочы старэйшыя, вопытныя куры і пасміхнуліся. Яны ведалі мары кожнага пеўніка пра падарожжа, каб спазнаць красу свету. І мару кожнае курачкі, каб не толькі яйка знесці ды чарвячка выкапаць смачнага. Ды гэта курыная таямніца, як і ўвесь птушыны сакрэт. А што людзям ды свету да такога! Важна, каб сонца ўзыходзіла!

## ПЛЯШАЧКА

У дзедавай вялікай хаце — вялікі склеп. Дзед Анатоль будаваў яе ўжо пасля другое сусветнае вайны, але на месцы, дзе размяшчалася хата, якую ставіў дзед ягоны. Хата дзеда Нупрэя пратрымалася была больш за сто гадоў, хоць невялікая, драўляная. Мела, як усе хаткі, маленькія вокны. Дзед Анатоль, ставіўшы новую, уставіў як найбольшыя вокны, але і так праз дваццаць гадоў змяніў іх на яшчэ большыя. Дом абклаў цэглай, атынкаваў, і дарабіў другое крыло — летнюю кухню. Пад летняй кухняй стаў капаць новы склеп. Праўда, дзед Анатоль больш дапамагаў ды камандаваў — ужо здароўе не тое, а працавалі Адасеў тата Раман ды дзядзька Алесь, а і Адам круціўся. У жоўтым пяску час ад часу трапляліся цікавыя рэчы — а то чарапок нейкі, кавалак жалезіва, а то яшчэ што...

Гэтае цуда — гліняную бутэльку, закаркаваную пакрытай лакам затычкай, дзед Анатоль вынес з падзямелля сам. Ускараскаўся па хісткай драбіне і працягнуў буталь унуку.

— Пакліч Анельку, Адась! Глянь, што я знайшоў! Мабыць,

яшчэ майго дзеда ці прадзеда бутэлька.

— А з чым яна ёсць? Пэўна, высахла тое, што там было. Трэба пакаштаваць! — азваўся з долу дзядзька.

— Ну, ты, Алесь, дык усё на смак прабаваў бы! — засмяяўся тата. — Адась, барані Бог, не адкрывай, не прабуй!

Анелька была тут як тут — кінула кніжкі ў кут і паперла на падворак.

— Там джын! — крыкнула з захапленнем.

— Можа і джын, але тым больш не для дзяцей! — дзядзьку Алесю адно было на думцы.

— Дух джын! — пакрыўдзілася дзяўчынка. — Калі адкаркуем, няхай кожны скажа сваю мару, дык і здзейсніцца.

У гэты момант дзед раскрышыў горла глінянай бутэлькі.

— Каб там джын быў! — не адставаў Алесь.

— Каб мы паехалі ў Егіпет! — дуэт Адась і Анелька быў званчэйшы ад усяго.

— Каб і наша хата стаяла яшчэ сто гадоў! — дзед і тата сказалі разам.

З бутэлькі запахла ні то яловым дымам, ні то цёплым духам, які трываў у ёй шмат гадоў.

**Выданні Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва”**

1. Міра Лукша, *Дзікі птах верабей*, Беласток 1992
2. Sokrat Janowicz, *Dolina pełna losu*, Białystok 1993
3. Sokrat Janowicz, *Terra incognita: Białoruś*, Białystok 1993
4. Юрка Геніюш, *З маёй званіцы*, Беласток 1993
5. Міра Лукша, *Выспа*, Беласток 1994
6. Янка Целушэцкі, *Панарама гмін усходняй Беласточчыны*, Беласток1995
7. Дзядзька Квас, *Роздумы*, Беласток 1995
8. *Лёс аднаго пакалення*, Беласток 1996
9. *Словы ў лабірынтах*, Беласток 1996
10. *Плыву морам майго жыцця*, Беласток 1997
11. Сакрат Яновіч, *Дзённікі*, Беласток 1997
12. Віктар Ярмалковіч, *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі да 1914 года*, Беласток 1997
13. *Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej 1987-1997*, Białystok 1998
14. Георгій Валкавыцкі, *Белая вязь*, Беласток 1998
15. Алена Анішэўская, *Смак жыцця*, Беласток 1998
16. Уладзімір Саўчук, *Што ў сэрцы*, Беласток 1998
17. *Зноў чуеш словы*, Беласток 1998
18. Яўген Мірановіч, *Навейшая гісторыя Беларусі*, Беласток 1999
19. Надзея Артымовіч, *Адплывае спакойнае неба*, Беласток 1999
20. *Вобразы думак*, Беласток 1999
21. Георгій Валкавыцкі, *У каменным крузе*, Беласток 2000
22. *У кроплях дажджу*, Беласток 2000
23. *Бежанства. 1915*, Беласток 2000
24. *Сваякі*, Беласток 2001
25. Барыс Руско, *Прасейванне імглы*, Беласток 2001
26. *У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд*, Беласток 2001
27. Георгій Валкавыцкі, *Ашчэпкі*, Беласток 2002
28. Hanna Kondratiuk, *W stronę Tarasiewicza*, Беласток 2002 (выд. II — 2004)
29. *Пакаленне вайны. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў перыяд вайны і акупацыі (1939-1944)*, Беласток 2003
30. *Ракам у Еўропу*, Беласток  2004
31. Надзея Артымовіч, *Жоўтая музыка*, Беласток 2005
32. Віктар Сазонаў, *Занатоўкі кантрабандыста*, Беласток 2005